Нацыянальны інстытут адукацыі

# Факультатыўныя заняткі

І. М. Саматыя, В. С. Палтаржыцкая

# Беларуская мова

## 8 клас

# Гэты няпросты просты сказ

Дапаможнік для вучняў
устаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з беларускай і рускай мовамі навучання

*Рэкамендавана*
*Навукова-метадычнай установай*
*«Нацыянальны інстытут адукацыі»*
*Міністэрства адукацыі*
*Рэспублікі Беларусь*

2-е выданне



Мінск • «Аверсэв» • 2012

УДК 811.161.3(075.3=161.3=161.1)
ББК 81.2Беи-922
С17

*Серыя заснавана ў 2010 годзе*

**Саматыя, І. М.**

С17 Беларуская мова. 8 клас. Гэты няпросты просты сказ : дапам. для вучняў устаноў агул. сярэд. адукацыі з беларус. і рус. мовамі навучання / І. М. Саматыя, В. С. Палтаржыцкая. — 2-е выд. — Мінск : Аверсэў, 2012. — 136 с. — (Факультатыўныя заняткі).

ISBN 978-985-533-124-8.

Дапаможнік прызначаны для выкарыстання на факультатыўных занятках у 8 класе. Змешчаны ў кнізе тэарэтычны і практычны матэрыял накіраваны на замацаванне і сістэматызацыю ведаў, удасканаленне ўменняў і навыкаў па адпаведных раздзелах вучэбнай праграмы, развіццё культуры вуснага і пісьмовага маўлення навучэнцаў.

Адрасуецца вучням і настаўнікам беларускай мовы.

**УДК 811.161.3(075.3=161.3=161.1)**
**ББК 81.2Беи-922**

**ISBN 978-985-533-124-8**

# УВОДЗІНЫ

*Шаноўныя васьмікласнікі!*

Факультатыўныя заняткі па беларускай мове прызначаны для таго, каб дапамагчы вам у вывучэнні роднай мовы. З асноўнага школьнага курса беларускай мовы вы ведаеце, што на ўзроўні сінтаксісу праяўляюць сябе адзінкі ўсіх іншых моўных ярусаў. Таму, усведамляючы важнасць гэтага раздзела для авалодання нацыянальнай мовай беларускага народа, вы будзеце больш грунтоўна знаёміцца з некаторымі пытаннямі сінтаксісу, звязанымі са словазлучэннем і простым сказам. Вы ўбачыце, што просты сказ — з'ява складаная, таму факультатыў мае назву «Гэты няпросты просты сказ».

У час заняткаў будуць разглядацца цікавыя праблемы, над якімі трэба задумацца: чаму мова для выражэння адной і той жа прыметы, напрыклад, мае дапасаванае і недапасаванае азначэнне. Чаму адваротны парадак слоў садзейнічае адасабленню? Чаму выказнік *буду вучыцца* лічыцца простым, а *пачну вучыцца* — састаўным? На гэтыя, а таксама на шэраг іншых пытанняў мы будзем шукаць адказ на факультатыўных занятках. На старонках «Дыдактычнага матэрыялу» вы сустрэнецеся з цікавымі заданнямі, загадкамі, гульнямі, інсцэніроўкамі, якія дапамогуць вам удасканаліць свае веды па прадмеце «Беларуская мова».

Стараннае выкананне прапанаваных заданняў дапаможа вам лепш і больш глыбока спазнаць мову, паколькі матэрыял дапаможніка ўключае тэарэтычныя палажэнні ў цеснай сувязі з канкрэтным моўным матэрыялам.

Вы ведаеце, што мова — складаная шматузроўневая з'ява, якая складаецца з такіх моўных адзінак, як гук, што вывучаўся ў раздзеле «Фанетыка»; слова, што вывучалася ў раздзелах «Лексіка», «Словаўтварэнне», «Марфалогія».

Вядома вам і тое, што мова — гэта агульназразумелы для ўсіх людзей, што карыстаюцца мовай, сродак зносін, захавання інфармацыі і перадачы ведаў. Маўленне — вопыт (практыка) ужывання

моўных сродкаў (слоў, выказванняў, стыляў) у працэсе зносін, абмену думкамі. Ступень валодання мовай залежыць ад таго, як размаўляюць вакол, ад адносін чалавека да роднай мовы, ад узроўню яго адукаванасці, працоўнай дзейнасці, інтарэсаў і інш.

З самога прызначэння мовы вынікае тое, што галоўным пры яе вывучэнні павінна стаць авалоданне багатымі рэсурсамі роднай мовы, уменнямі правільна і камунікатыўна апраўдана выкарыстоўваць іх у разнастайных формах, відах, сферах маўленчай дзейнасці.

Дыдактычны матэрыял факультатыва падрыхтаваны для таго, каб дапамагчы вам лепш засвоіць родную мову. Дапаможнік адпавядае праграме і падручніку па беларускай мове для 8 класа. Кожнай тэме прысвячаецца асобная глава, а ў ёй выдзяляецца некалькі раздзелаў. У першым вы знойдзеце матэрыял, які дазволіць вам больш глыбока і дакладна засвоіць асноўнае сінтаксічнае паняцце, у другім адпрацоўваюцца канкрэтныя тэрміны і звязаныя з імі правілы пунктуацыі, пунктаграмы. Пытанні і заданні сфармуляваны такім чынам, каб яны абуджалі думку, таму, выконваючы іх, не забывайцеся пра графічнае каменціраванне: устаўляючы прапушчаныя знакі прыпынку, падкрэслівайце граматычныя асновы, члены сказа, будуйце схему сказа. Вывучаючы пунктуацыю, нельга забывацца пра арфаграфію, марфалогію, лексіку, марфалагічную будову слова і словаўтварэнне, таму ў кожным раздзеле паўтараюцца і тэмы, лагічна звязаныя з асноўным матэрыялам. Гэтым вы будзеце рыхтаваць сябе да выніковага экзамену за курс базавай школы, недалёкага ў часе тэсціравання, якое патрэбна будзе здаваць таму, хто марыць аб працягу сваёй адукацыі.

У працэсе працы з прапанаваным вучэбным матэрыялам будзе актывізавацца мысліцельная і маўленчая дзейнасць, будуць фарміравацца і развівацца агульнавучэбныя ўменні (слухаць і «чуць», адэкватна аднаўляючы прынятую інфармацыю; крытычна ставіцца да атрыманай інфармацыі, даваць ёй ацэнку; выказваць свае думкі, меркаванні, пацвярджаючы іх пэўнымі прыкладамі).

Хоць вы ўжо амаль што дарослыя, аднак прапанова ўключыцца ў граматычныя гульні будзе карыснай і для вас. Гульня садзейнічае абуджэнню цікавасці да беларускай мовы, развіццю маўленчага вынаходніцтва і ўмення нестандартна і арыгінальна мысліць.

На старонках дапаможніка вы сустрэнеце слова **«Загадка»** — так выдзяляюцца пытанні, якія патрабуюць напружання думкі. Умоўнае абазначэнне **«Падказка»** ўведзена і жартам і ўсур’ёз. У гэтай рубрыцы прадстаўлены новы тэарэтычны матэрыял ці

паўтарэнне вам вядомага, таго, што дапаможа разгадаць загадку, выканаць заданне практыкавання. Вы ўбачыце, што матэрыял падаецца з дапамогай **табліц**, **схем**, кароткіх **запісаў**. Гэта дапаможа вам больш хутка зразумець і лёгка засвоіць патрэбныя тэарэтычныя звесткі.

Знак * папярэджвае: ніжэй будзе пададзена лексічнае тлумачэнне слова, а ўсе словы пад такім знакам утвараюць слоўнік, які ўзбагаціць ваш лексікон.

Вельмі важна, каб вы ўсвядомілі такую думку: беларуская мова — гэта не толькі звод правіл граматыкі, арфаграфіі і пунктуацыі. Валоданне ведамі аб ролі ў маўленні моўных адзінак — умова якаснага засваення роднай мовы. Кожная моўная адзінка валодае цудоўнымі выяўленчымі магчымасцямі. Слова праяўляе сябе ў тэксце. Таму такія практыкаванні патрэбна выконваць паралельна з вывучэннем матэрыялу па граматыцы, каб развіваць і ўзбагачаць сваё вуснае і пісьмовае маўленне. Але проста назіраць, як «паводзяць» сябе розныя сродкі мовы ў тэкстах розных стыляў, недастаткова. Патрэбна вучыцца карыстацца багаццем маўлення, выяўленчымі магчымасцямі, якія мае мова, а для гэтага неабходна спрабаваць пісаць маленькія і вялікія (па аб'ёме) працы, стараючыся выкарыстоўваць менавіта тыя магчымасці, якія мае катэгорыя, што вамі вывучаецца. Выконваючы такія практыкаванні, вы атрымаеце задавальненне ад таго, што вам удалося напісаць граматычную казку, апавяданне ці лірычнае апісанне, пераканаўча абгрунтаваць сваю думку ў тэксце-развaжанні. А гэта самае галоўнае — навучыцца прымяняць атрыманыя веды ў рэальным жыцці.

Жадаем вам радасці працы, адкрыццяў, знаходак, удачы і поспехаў на шляху вывучэння роднай мовы.

# ПАНЯЦЦЕ ПРА СІНТАКСІС І ПУНКТУАЦЫЮ

## Чаму заўсёды разам?

***Паразважаем!*** Перад табой тэкст тваёй равесніцы. Не проста прачытай, а ўчытайся ў яго радкі.

Восень развітваецца з намі, махаючы апошнімі лісточкамі, як далонямі. Здаецца, без яе і горад апусцее, апусцее без святочнага дывана, без яркіх фарбаў, без рознакаляровых лістоў, якія кружацца вакол вежаў нашага замка, нібыта абуджаючы іх ад векавога сну. Не чуваць ужо спеваў птушак. І гэта не дзіўна. Людзі і тыя пахаваліся па сваіх «норках». А восень… Восень адыходзіць. Мне будзе яе вельмі не хапаць, яе кветак, лісточкаў, і асабліва сапраўднай восеньскай казкі, дзе дрэвы ў прыгожым убранні стаяць нерухомыя, а лісцікі, як чараўнікі, варожаць вакол, вецер падхоплівае іх і нясе далёка-далёка, туды, дзе яны знаходзяць сабе прытулак і чакаюць, калі мы зноў пазавём іх, калі ў нашай душы зноў з'явіцца месца для гэтых маленькіх лісцікаў...

А пакуль яшчэ ў паветры кружацца, нібы ў танцы, лісцікі — гэтыя маленькія кавалачкі шчасця. Чаму кавалачкі шчасця? А я адкажу: у свае 15 гадоў я ўжо такая багатая! Дрэвы, кусты, будынкі, паркі, скверы, нарэшце, горад, краіна — гэта ўсё маё. А што чалавеку патрэбна для шчасця? Лічу, толькі адно: ісці па родным горадзе, адчуваць, што ён твой, неадрыўны кавалачак тваёй душы, які напаўняе сэрца сапраўднай любоўю да Бацькаўшчыны, да роднага краю, слухаць шоргат лісця пад нагамі і марыць, марыць.

*К. Дземянчук.*

Мы быццам чуем голас аўтара, голас чалавека, які дзеліцца з намі сваімі думкамі... І словы нібыта звычайныя, але гаворка ідзе пра нешта вельмі важнае. Пра што? Пра восень, лісточкі, дрэвы, кусты, будынкі, паркі, скверы, горад, краіну? Пра духоўную блізкасць да іх? Пра шчасце! Перачытай апошні сказ. Ці можна пагадзіцца з такім азначэннем шчасця?

А цяпер прыгледзься да сінтаксісу тэксту. Колькі ў ім цікавых зваротаў, простых і складаных, доўгіх сказаў... Магчыма, таму і раскрываецца ў ім глыбокая думка, гучыць урачыстая сумная музыка. Відаць, у будове сказаў вам нешта не зусім зразумела, ды і знакі прыпынку таксама? Вось таму і патрэбна вывучаць сінтаксіс і пунктуацыю беларускай мовы.

***Практыкаванне 1.*** Вызнач, да якіх часцін мовы адносяцца словы. Затым прыдумай і запішы сказы, у якіх гэтыя ж словы з'яўляюцца іншымі часцінамі мовы.

**У з о р: Жартуючы — дзеепрыслоўе. У сказе *Алесь падымае такі камень жартуючы* жартуючы — «лёгка», дзеепрыслоўе выступае ў ролі прыслоўя.**

**Праўда (горкая), жах (у вачах), я (уласнае), увесь, сам, кожны, незнаёмы (чалавек), марожанае (мяса), сямёра, першы (гатунак), другі (па парадку), заўтра, збоку (ад), побач (з), ледзь, ужо, дзе, куды, адкуль, як, напэўна, сапраўды.**

З якіх раздзелаў навукі аб мове ты выкарыстаеш звесткі пры выкананні задання гэтага практыкавання?

**Падказка**

| Асноўныя адзінкі мовы і раздзелы навукі аб мове | | |
|---|---|---|
| Гук | Фанетыка | Графіка |
| Марфема | Марфеміка | Арфаграфія |
| Слова | 1) Лексіка<br>2) Марфалогія | |
| Словазлучэнне, сказ | **Сінтаксіс*** | **Пунктуацыя**** |
| Тэкст | Стылістыка | |

**Даведка**

***Сінтаксіс** (ад грэч. **syntaxis — пабудова, спалучэнне, парадак)** — раздзел граматыкі, які вывучае спосабы спалучэння слоў у словазлучэнні, сказы, а таксама будова і значэнне словазлучэнняў і сказаў.

Галоўнае ў сінтаксісе — адносіны паміж сродкамі мовы, якія ўступаюць у граматычную сувязь. Ажыццявіць гэта немагчыма без пунктуацыі, без знакаў прыпынку.

****Пунктуацыя** (ад лац. **punctum — кропка)** — сістэма правіл пастаноўкі знакаў прыпынку, якія дапамагаюць аформіць яе сэнсавае чляненне (*Паводле эцыклапедыі «Беларуская мова»*).

***Практыкаванне 2.*** Перад табой слоўнікавы дыктант, складзены з лінгвістычных тэрмінаў. Устаў прапушчаныя ў словах літары. Пад-

крэслі тэрміны, якія раскрываюць паняцці, што маюць адносіны да сінтаксісу. Напішы іх пад дыктоўку (а лепш — усё практыкаванне).

Су..ікс, складанае слов.., ускладн..ны ска.., за..мен..ік, акалічнас..ць, д..еепрысло..ны зварот, азнач..н..е, канчатак слова, д..лог, дзе..слоў, дзе..прыметнік, пр..сты сказ, ч..рвоны радок, пра..яжнік, д..фіс, множн.. лік, выказ..нік, інтанац..я, кліч..нік, гало..ны.. члены сказа, дву..кроп..е, коска, дапа..не..е, кор..нь слова, му..чынск.. род, м..рфема, дадан.. член сказа, на..іск, гало..нае слова, прысло..е, зваротак, загадн.. ла.., назо..нік, залежна.. слова, словазлуч..нне, зычн.. гук, пытал..нік, назо..н.. склон, гра..атычная аснова сказа.

***Практыкаванне 3.*** З прапанаваных слоў складзі і запішы некалькі сказаў, розных па змесце. Вызнач прыназоўнікі і марфемы, якія дапамаглі табе гэта зрабіць.

Залаты, бяроза, восень, паліўся, у, вадаспад, асіна, бясконцы, лісце, барвовы.

**Загадка**

Якія сродкі сувязі могуць спалучаць і словы, і члены сказа, і сказы?

**Падказка**




***Паразважаем!*** Калі заходзіць гаворка пра сказ ці тэкст, мы ўступаем у сферу сінтаксісу. Гэта, магчыма, самы магутны ўладыка ў вялікім царстве мовы. Без ведання яго законаў немагчыма па сэнсе і граматычна спалучыць словы ў словазлучэнні, будаваць з іх сказы, немагчыма фармуляваць думкі, а значыць, уступаць у зносіны.

Ці праўда, што з адных і тых жа будаўнічых матэрыялаў можна ўзвесці самыя розныя збудаванні? Падобна гэтаму з адных і тых жа слоў і іх формаў можна пабудаваць разнастайныя сінтаксічныя канструкцыі.

*Паводле Г. Я. Брусінай.*

***Практыкаванне 4.*** Параўнай два запісы. Які з іх можна назваць тэкстам? Чаму?

1. Чароўная восень паркаў ціха лісты не хочучы адрываюцца і быццам павісаюць на нябачных павуцінках.

2. Чароўная восень паркаў. Ціха. Лісты не хочучы адрываюцца і быццам павісаюць на нябачных павуцінках.

**Загадка**

Як зменіцца сэнс наступнага сказа, калі ў ім з'явіцца коска?
*1. Хто ты? 2. Хто, ты?*

***Практыкаванне 5.*** Ці аднолькавы змест наступных сказаў?

Петрусёк, ідучы паціху, напяваў любімую мелодыю.
Ідучы, Петрусёк паціху напяваў любімую мелодыю.

***Практыкаванне 6.*** Прачытай тэкст. Вызнач яго адрасата і асноўную думку.

**Пунктуацыя** рэгулюе расстаноўку знакаў прыпынку ў пісьмовым маўленні. Само слова паходзіць ад лацінскага punctum, што ў перакладзе абазначае **кропка**. Мы ўспомнілі аб гэтым зусім не выпадкова. Графічнае адлюстраванне амаль усіх знакаў прыпынку ўтрымлівае кропку ў якасці свайго кампанента: **. , ; , :, !, ?, ...**

Цяпер успомнім паходжанне і ўдумаемся ў значэнне самога тэрміна **знакі прыпынку**. Прыпыняцца — ставіць перапоны — спыняцца — ставіць кропку, шматкроп'е, коску... Мы выкарыстоўваем у пісьмовым маўленні знакі прыпынку, калі ў вусным спыняемся, каб зрабіць сэнсавую паўзу і такім чынам нешта выдзеліць, падкрэсліць, раздзяліць, адасобіць у выказванні. Іншымі словамі, знакі прыпынку на пісьме заўсёды адлюстроўваюць нашу маўленчую інтанацыю. Гэта, канечне, не азначае, што заўсёды, калі ў вусным маўленні мы робім паўзу, каб, напрыклад, перавесці дыханне, то на пісьме патрэбна ставіць коску або працяжнік. Знакі прыпынку ставяцца ў адпаведнасці з **сэнсавай інтанацыяй**, а яна залежыць

ад зместу і мэты выказвання. Напрыклад, калі мэта нашага выказвання — пытанне, у канцы сказа мы паставім **пытальнік**: *Вы збіраецеся на канцэрт?*

Калі наша выказванне эмацыянальна афарбавана, утрымлівае вокліч, мы выкарыстоўваем, каб паказаць гэта на пісьме, **клічнік**: *Якая цудоўная раніца!* Калі мы хочам паказаць, што выказванне закончана, але пры гэтым не ўтрымлівае пытання і эмацыянальна нейтральнае, паставім **кропку**. **Спалучэнне пытальніка і клічніка** дапаможа паказаць на пісьме, што пастаўленае пытанне мае клічную інтанацыю: *Як вы можаце гаварыць у такім тоне?!*

Як правіла, выкарыстанне клічніка, пытальніка, кропкі не выклікае цяжкасцей. Больш складана расстаўляць коскі, двукроп'е, працяжнік і коску з кропкай. Адбываецца гэта таму, што кожны з пералічаных знакаў можа ставіцца ў розных маўленчых сітуацыях.

Наша задача заключаецца ў тым, каб убачыць **заканамернасці**, якія рэгулююць расстаноўку знакаў прыпынку. Пунктуацыя вельмі лагічная і падпарадкоўваецца пэўным законам. Засвоіўшы гэтыя законы, вы лёгка выберацe неабходны знак, паставіце яго ў патрэбным месцы і ніколі не паставіце там, дзе гэта не патрэбна.

*Паводле А. Н. Сараевай.*

***Практыкаванне 7.*** Прачытай урывак з кнігі Г. Гранік і інш. «Сакрэты пунктуацыі».

Вядомы такі факт «бясслоўнай» перапіскі. Французскі пісьменнік Віктор Гюго, завяршыўшы раман «Адрынутыя», паслаў рукапіс кнігі выдаўцу. Да рукапісу ён прыклаў ліст, у якім не было ніводнага слова, а быў толькі знак: «?» Выдавец таксама адказаў лістом без слоў: «!»

Ці зразумеў ты «змест» гэтых лістоў? Калі хочаш праверыць сябе, прачытай тэкст наступнага практыкавання.

***Практыкаванне 8.*** Прачытай тэкст. Выберы з яго і запішы сказы, якія можна аформіць ці якія ўжо аформлены ў адпаведнасці са схемамі.

1. А: «П? П? П?»
2. А: «П! П! П! П!»

Ліст Віктора Гюго ўтрымлівае і трывожныя пытанні («Ну як? Ці спадабалася? Ці можна будзе выдаць?»), і тонкі гумар, які дазваляе пісьменніку з годнасцю пераносіць стан трывожнага чакання. Адказ выдаўца можа мець прыкладна такі змест: «Цудоўна! Выдатна!

Гэта найлепшы рукапіс, які я калі-небудзь трымаў у руках! Я яго неадкладна выдам!»

Маленькі жарт, разыграны Вiкторам Гюго i яго выдаўцом, удалы таму, што абодва ўдзельнікі перапіскі ўмелі не толькі ставіць, але і «чытаць», г.зн. добра разумець знакі прыпынку.

*Г. Гранік, С. Бандарэнка.*

***Паразважаем!*** Пунктуацыя — гэта не проста звод правіл расстаноўкі знакаў прыпынку на пісьме. Гэта сістэма знакаў, якія садзейнічаюць выкананню адной з асноўных функцый пісьмовай формы мовы — быць сродкам камунікацыі, зносін паміж людзьмі. Знакі прыпынку дапамагаюць чытачу лепш, больш дакладна, хутчэй успрымаць тэкст, а таму, хто піша, — больш дакладна і выразна перадаваць свае думкі і пачуцці.

А паколькі ўсе людзі выступаюць і ў ролі чытачоў, і ў ролі «пісьменнікаў», то значэнні знакаў прыпынку павінны быць адзінымі для ўсіх пісьменных людзей, якія карыстаюцца канкрэтнай мовай.

Кожнае правіла аб знаках прыпынку з'яўляецца як бы пунктам дамовы паміж тым, хто чытае, і тым, хто піша (*Г. Я. Брусіна*).

### Заданні для самастойнай працы

1. Карыстаючыся лінгвістычнымі даведнікамі, дай азначэнне наступным паняццям: сінтаксіс, пунктуацыя.

2. Складаючы канспект прапанаванай да тэмы літаратуры, занатуй, у чым сутнасць сінтаксісу і пунктуацыі, або падрыхтуй паведамленне пра мовазнаўцаў-сінтаксістаў.

# СЛОВАЗЛУЧЭННЕ

## Аповед пра развітае... слова

## I. Паняцце пра словазлучэнне

**Загадка**

Якія з наступных спалучэнняў слоў з'яўляюцца словазлучэннямі? Чаму? Ці ёсць тут сказы? Словы?

*1. Дакладнае параўнанне. 2. Параўнанне знойдзена. 3. Казаць пра параўнанне. 4. Аб параўнанні. 5. Параўнанне.*

**Падказка**




***Практыкаванне 1.*** Пастаў да слоў развітага словазлучэння пытанні так, каб атрымаліся два розныя словазлучэнні (прыклад А. Пяшкоўскага).

1) ...загадай яму дапамагчы,
...каб дапамог ён;

2) ...загадай яму дапамагчы,
...каб дапамаглі яму.

***Практыкаванне 2.*** Спішы тэкст, устаў і растлумач прапушчаныя літары. Выпішы з тэксту некалькі словазлучэнняў, якія дапамогуць табе пераканацца ў тым, што словазлучэнні абазначаюць прадмет, прымету ці дзеянне больш дакладна, больш канкрэтна, чым слова. Пабудуй схемы словазлучэнняў.

**У свеце сярэбранага святла**

Я прывык бачыць лес днём, але на гэты раз сталася так, што затрымаўся дацямна. Дрэвы, якія днём былі звычайнымі, увечары здаваліся в..ліканамі. У прасветы між агол..нымі галінамі лілося м..сячнае святло, і снег, нават у цен.. лес.., адліваў шэра-белым во..-светам. Месяц, бы с..рабрысты ліхтар, па..свечваў мне даро..ку. Яе тонкая сту..ка вілася між дрэў і ў хуткім часе выв..ла на паляну.

Паляна — як с..рабрыстае возера, абнесенае шэрай лясной канвой, і з гэтай шэрасці асабліва выдз..ляліся пышныя кроны сосен. Пад лё..кім ветрам яны ледзь прыкметна калыхаліся, шапталіся. І было такое ўражанне, быццам дрэвы здзяйсняюць нейкі начны рытуальны танец; цені таксама рухаліся, скакалі. З (не)прывычкі рабілася крышку страшнавата. І падумалася: заўсёды ў жыцці месяц для мяне быў як сімвал кахання, рамантыкі і прыгажосці. Дык чаго ж жахацца?

Спыніўся на той паляне, угледзеўся ў неба, у карагод месяца з зоркамі і заўважыў: як прыгожа ўсё зямное! — мне здаецца, яшчэ пакуль ні адзін мастак не змог перадаць гэтую прыгажосць, бо яна сапраўдная, ад Бога.

*С. Нефідовіч.*

Перачытай тэкст практыкавання. Якая карціна ўяўляецца табе пры чытанні? Якія з дэталей гэтай карціны падаюцца табе самымі ўдалымі? Ці назіраў(ла) ты што-небудзь падобнае? Напішы пра гэта.

## II. Віды словазлучэнняў

### Падпарадкавальныя словазлучэнні і спалучэнні слоў. Аповед пра падпарадкавальныя адносіны

***Практыкаванне 3.*** У падпарадкавальных словазлучэннях абазнач галоўнае і залежнае словы. Абазнач апазнавальныя прыметы спалучэнняў слоў. Падкрэслі спалучэнні слоў, якія не з'яўляюцца словазлучэннямі. Растлумач правапіс канчаткаў залежных назоўнікаў.

**Галіны турызму і спорту, узроставыя асаблівасці, сарваны ў аранжарэі, галінка адламалася, набыты на выставе, новая галіна, малады агурок, прарослае зерне, састарэлы рэцэпт, выйсці на дарогу, надвор'е па рэспубліцы, прачытаць у кнізе, гурток пры фабрыцы, чалавек у шапцы, на назе, з'явіцца ў руцэ, пры пасадцы агуркоў, бомы на дузе, у рацэ, на ўборцы бульбы, трое ў лодцы, выйшаў чалавек у капелюшы.**

**Падказка**




***Паразважаем!*** Навошта патрэбна вывучаць словазлучэнні? Перш за ўсё яны памочнікі ў самых розных відах разбору. Мы будуем словазлучэнні: ад выказніка ставім пытанні ўскосных склонаў — залежнае слова і ёсць дапаўненне. Такім жа чынам вызначаем склон назоўніка, а ён, разам з тыпам скланення, падкажа правільны канчатак. Канчатак прыметніка мы таксама шукаем, будуючы словазлучэнне, а падказкай

служыць канчатак пытання, якое ставім ад назоўніка да прыметніка. Адначасова такое словазлучэнне дапамагае нам знайсці азначэнне. А прыслоўе? Яно таксама выяўляецца ў словазлучэнні, дзе галоўным словам з'яўляецца часцей за ўсё дзеяслоў, ад якога ставяцца пытанні *дзе? куды? як?* і інш. Залежнае слова і ёсць прыслоўе, у сказе гэта будзе акалічнасць. Як бачым, зноў і зноў словазлучэнне... (*Г. Я. Брусіна*).

***Практыкаванне 4.*** Якія словазлучэнні патрэбна выдзеліць у наступных сказах, каб не зрабіць памылкі ў месцах пропуску літар? Знайдзі гэтыя словазлучэнні, растлумач правапіс канчаткаў назоўнікаў. Вызнач від сувязі слоў у словазлучэннях.

1. Дзе гаспадар за плуг.. ходзіць, там зямля родзіць. 2. Што напісана пяр.., таго не высечаш і тапар.. . 3. Дзень з але.., а тыдзень так галеем. 4. Не той таварыш, хто губы мёд.. мажа, а той, хто праўду ў вочы кажа. 5. Чым за мор.. віно піць, лепей з Нёмана вадзіцу.

Ці ведаеце вы значэнне прыведзеных прыказак? Прывядзіце прыклады маўленчых сітуацый, у якіх можна іх выкарыстаць.

***Практыкаванне 5.*** Прачытай тэкст. У адным-двух сказах выдзелі ўсе падпарадкавальныя словазлучэнні і выпішы іх. Вызнач галоўнае і залежнае словы, запішы пытанне ад аднаго да другога, абазнач, якімі часцінамі мовы яны выражаны, і спосаб сувязі паміж імі. Выканай сінтаксічны разбор гэтых сказаў.

Ідучы па вузкай тропцы, што зарасла нізкай, стаптанаю травіцай, перапечкаю і безыменнаю мураўкаю, Іра сашчыпнула чырвоны, выгнуты, з чорнай плямкай пасярод, макавы ляпёстак і неўпрыцям ірвала яго ручкаю, падносячы да вуснаў. Прыйшла, накруціла грамафон, паставіла «Веснавую казку», а сама села ў пляцёнае крэсла, прыхінулася спінаю і заплюшчыла вочкі. З грамафоннай трубы ляцелі свежыя і звонкія, як вясна, гукі скрыпкі, а дзяўчына наперакор ім дэкламавала з Канстанцыі Буйло:

Я каханне маё пахаваю ў душы,
Спакой сфінкса на твар налажу,
І хоць сэрца ад болю сканае ў грудзях,
Я нічога табе не скажу...

Астанаўляла грамафон, ішла да акна, садзілася і глядзела ў заліты бліскам месяца сад, аблёгшыся падбародкам на пастаўленыя ручкі.

*Паводле Максіма Гарэцкага. «Дзве душы».*

Якія адметныя моўныя асаблівасці вы заўважылі ў тэксце, створаным на пачатку мінулага стагоддзя?

***Практыкаванне 6.*** Зрабі сінтаксічны разбор выдзеленых словазлучэнняў у наступных сказах.

1. Ад спякоты пабялелі, выліналі *пяшчотныя і халаднавата мяккія пялёсткі* валошкі на ўзмежках і пры дарогах (А. Жук). 2. Вочы *пільна і прагна сачылі* за кожным рухам *страшнага лясного звера* (Б. Сачанка). 3. Дзівоснае і чароўнае, яно [возера] тым не менш захоўвае ў сабе многа таямнічага і нязведанага, асабліва ў ціхі вячэрні час, калі навокал, у сасновым бары, нібы па ўказцы дырыжора — барадатага дуба, што расце тут, недалёка ад берага, — узнікае *цудоўная мелодыя салаўінага канцэрта* (Я. Сіпакоў). 4. На самым рэчышчы плынь *была магутнай*, *імклівай*, *гаманлівай* (Я. Колас). 5. *З трох іншых бакоў* балотца акаймляе шырокай падковаю стромкі бярэзнік (З. Бядуля). 6. За культуру ў нас трэба нарэшце пачынаць змагацца па-сапраўднаму, *трэба біць у званы*! (Я. Брыль). 7. На адлегласці *дзесяці крокаў* угадваліся толькі шэрыя абрысы заінелых дрэў (З. Бядуля). 8. На жыццёвым шляху кожнага чалавека трапляюцца свае *гордзіевы вузлы* (А. Карпюк).

**Падказка**

Любы разбор сказа — сінтаксічны ці пунктуацыйны, любую працу са сказам **патрэбна пачынаць з выдзялення ў ім граматычнай асновы**.

**Падказка**

Да **простых** адносяцца і такія словазлучэнні, у функцыі галоўнага (ці залежнага) кампанента якіх выступае спалучэнне двух ці больш слоў, што маюць цэласнае значэнне: *белы аленевы мох* (*аленевы мох* — назва кусцістага лішайніку, які служыць кормам для паўночных аленяў); *ехаць за трыдзевяць зямель* (*за трыдзевяць зямель* — ‘вельмі далёка’).

**Складаныя словазлучэнні** складаюцца з трох і больш паўназначных слоў. Яны могуць утварацца трыма шляхамі: 1) шляхам далучэння паясняльных слоў да залежнага кампанента: *прачытаць цікавую кнігу* (= прачытаць кнігу, цікавую кнігу); 2) далучэннем паясняльных слоў да галоўнага кампанента: *высокія*, *разложыстыя дубы* (= высокія дубы, разложыстыя дубы); 3) шляхам спалучэння двух простых словазлучэнняў, якія выступаюць у якасці галоўнага і залежнага кампанентаў складанага словазлучэння: *працоўны семестр студэнтаў універсітэта* (= працоўны семестр, студэнтаў універсітэта, семестр студэнтаў).

## Непадзельныя словазлучэнні. Словазлучэнне як член сказа

***Практыкаванне 7.*** Аднаві фразеалагізмы, спалучаючы ўласныя і агульныя назоўнікі. З двума-трыма фразеалагізмамі складзі сказы. Ці можна фразеалагізмы аднесці да непадзельных словазлучэнняў?

Бочка, конь, меч, нітка, пята, перамога, вузел.
Дамокл, Пір, Гордзій, Троя, Арыядна, Дыяген, Ахілес.

**Падказка**




***Практыкаванне 8.*** Знайдзі «пятае лішняе».

Не могуць утвараць словазлучэнне:
1) формы дзеясловаў будучага складанага часу;
2) формы ступеней параўнання прыметнікаў і прыслоўяў;
3) два паўназначныя словы, адно з якіх з'яўляецца галоўным, а другое — залежным;
4) прыназоўнікава-склонавыя формы назоўнікаў;
5) формы дзеясловаў умоўнага і загаднага ладу.

***Практыкаванне 9.*** У якіх з наступных сказаў лічэбнікі ўваходзяць у склад непадзельных словазлучэнняў, а ў якіх — не?

Сем паноў, двое штаноў; хто раней устаў, той штаны ўзяў. Сем разоў мер і то не вер. Тры грошы не варты. Забег за трыдзевяць зямель у трыдзясятае царства і схаваўся ў мохавым балоце (Беларуская народная казка). Семдзесят адзін не дзеліцца на пяць.

***Практыкаванне 10.*** Прачытай і запішы сказы, падкрэсліўшы непадзельныя словазлучэнні як члены сказа. Растлумач значэнне фразеалагізмаў.

1. Антаніна, як толькі пераступіла парог, так і залілася слязьмі (А. Васілевіч). 2. Увесь лес быў ахутаны зелянінаю, пахла маладым

лісцем, травою, смалянкамі (М. Лупсякоў). 3. Блукаючыя агні — блакітныя языкі полымя, што паяўляюцца ноччу на балоце ў выніку згарання газу метану, які вылучаецца пры гніенні (ТСБМ). 4. Усё адыходзіць у нябыт, застаюцца толькі плёны чалавечай працы (У. Карпаў). 5. Кастусь змалку любіў жыццятворныя летнія навальніцы, іх хараство, моц і сілу, любіў назіраць, як пасля іх ажывала і красавала прырода (А. Александровіч). 6. Князь у хораме жыў, слаўны свету ўсяму, недаступны і грозны, як хорам; хто хацеў, не хацеў — біў паклоны яму... (Я. Купала). 7. Вечны агонь — агонь, які пастаянна гарыць каля помнікаў, магіл загінуўшых герояў як сімвал бяссмерця іх славы (ТСБМ). 8. На адным з адгор'яў Мінскага ўзвышша знаходзіцца лагчына з невялікім балотцам на паўтара гектара (З. Бядуля). 9. Луг шырокі над ракой, долы і паляны, рвуся к вам я ўсёй душой, родныя курганы! (Я. Колас). 10. Пасыпаўся снег мільёнамі камякоў мяккага пуху (Я. Колас). 11. Прыпякала яшчэ мацней, і парнасць, што насычала паветра, была цяжкай і духмянай (Т. Хадкевіч). 12. Быў канец верасня, і маладыя бярозкі на ўзлессі стаялі ў залатым убранні (І. Шамякін) . 13. Лабановіч прынёс журнал і зрабіў запіс (Я. Колас). 14. Кожны з нас прыпасае Радзімы куток, каб да старасці чэрпаць адтуль успаміны: дым над хатай, снапамі прыціснуты ток, матчын спеў і гароды, прапахлыя кмінам (П. Панчанка).

**Даведка**

**Сінтаксічна непадзельнымі** з'яўляюцца словазлучэнні, якія ў сказе выконваюць ролю простага дзеяслоўнага ўскладненага выказніка: *Дырэктар школы* ***выказаў падзяку*** (= падзякаваў) *вучням 8 класа за актыўны ўдзел у спаборніцтвах*; састаўнога іменнага ці састаўнога дзеяслоўнага выказніка: *Лета па-ранейшаму* ***было сухое і спякотнае****, без пары* ***пачала спець*** *збажына на полі, яшчэ нават добра не наліўшыся* (У. Дамашэвіч); колькасна-іменныя словазлучэнні тыпу *два клёны*, *менш за пяцьдзесят рублёў*, *літр малака*, *цыстэрна бензіну*, *група студэнтаў*; іменныя словазлучэнні, у якіх залежны кампанент — прыметнік з ацэначным значэннем: *Бабры —* ***руплівыя гаспадары*** (В. Вольскі) і інш.

**Фразеалагічныя словазлучэнні** не ствараюцца ў часе маўлення, яны бяруцца як гатовыя моўныя адзінкі. Галоўная, вызначальная прымета фразеалагізма — яго семантычная цэласнасць, унутранае сэнсавае адзінства, нераскладальнае на асобныя значэнні кампанентаў: *Сяргей, змарыўшыся,* ***пачаў кляваць*** *на возе* ***носам*** (= драмаць седзячы).

*Паводле В. В. Маршэўскай.*

## III. Словазлучэнне ў маўленні

***Паразважаем*** пра тое, якую вялікую ролю выконвае ў маўленні маленькае словазлучэнне — мінімальная адзінка сінтаксісу. Здавалася б, дзе яму раўняцца з такімі веліканамі, як, напрыклад, складаназлучаны і складаназалежны сказы. Аднак... Іменна ў словазлучэнні рэалізуецца спалучальнасць слоў. Інакш кажучы, ад таго, як мы будуем словазлучэнні, залежыць правільнасць, дакладнасць, чысціня нашага маўлення. Але і гэта не ўсё. Падумайце, што ўспамінаем мы, напрыклад, калі гаворым пра лірыку Максіма Багдановіча? Магчыма, гэта цудоўны вобраз *...шпаркага, лёгкага сінякрылага матылька*. У сінтаксічным плане гэта і ёсць словазлучэнне. Маленькае словазлучэнне заключае, факусіруе ў сабе багацце, вобразнасць маўлення, яго мастацкую выразнасць. Інакш кажучы, ужыванне словазлучэнняў убірае ў сябе ўсё, што ўваходзіць у паняцце «культура маўлення».

***Практыкаванне 11.*** Перакладзіце наступныя словазлучэнні з рускай мовы на беларускую.

Заболеть гриппом, удивляться встрече, жить у самого моря, выбрать по своему вкусу, подобрать по своему росту, стоять у микрофона, читать про себя, сказать во весь голос, жениться на любимой, по случаю праздника, бежать по самой опушке, аромат идёт по ветру, по всем направлениям, по направлению к центру, положено по закону, смеяться над собой, работа над ошибками, к праздничному застолью, пять раз в неделю, два зелёных листика, по моему зову, по будним дням, приходить по праздникам.

**Даведка**

**Запомніце гэты міні-слоўнік пісьменнага кіравання!**

Паведаміць пад сакрэтам, выбраць на свой густ, падабраць пад свой рост, вялікі памерам, з нагоды юбілею, ісці лесам, ісці ўздоўж самага берага, дым ідзе з ветрам, у кірунку да ракі, на ўсіх кірунках, у адпаведнасці з законам, паводле паведамлення радыё, на маю думку, на мой заклік, не працаваць у выхадныя дні і ў святы, бегаць раніцамі, страляць у мішэнь, створаны на ўзор, жыць у суседстве, жыць па-суседству, спазніцца праз цябе.

***Практыкаванне 12.*** Знайдзі ў сказах няправільнае кіраванне (граматычную памылку*). Запішы сказ правільна.

1. Трэба прадаставіць выпускнікам лепшыя жыллёвыя ўмовы. 2. Яны на шматлікіх прыкладах расказваюць аб гераізме свайго важака. 3. Петрусёк музыку іграў сёння?

**Даведка**

***Граматычныя памылкі** — гэта памылкі ва ўтварэнні слова і формы слова, у будове словазлучэння і сказа. Прычына іх з'яўлення — няведанне вучнем асноўных правіл граматыкі.

**Даведка**

**Сінтаксічныя нормы**

**1.** Спалучэнне часткі аднаго словазлучэння (дзеяслова) з часткай другога (назоўнікам), у выніку чаго парушаюцца заканамернасці **лексічнай спалучальнасці:**

*Выступленне знайшло шырокі водзыў* (замест *водгук*) *сярод грамадскасці.* Можна **атрымаць водзыў**, а **водгук знайсці.**

*Хакеісты хацелі пераламаць зыход* (замест *ход*) *паядынку.* Можна **ход пераламаць**, а **змяніць зыход.**

*На шляху рашэння гэтай праблемы атрыманы выдатныя поспехі.* Можна **дасягнуць поспехаў**, а **вынікі атрымаць.**

**2.** Парушэнне лексіка-граматычных заканамернасцей кіравання на падставе лексічнай або кантэкставай сінанімічнасці галоўных слоў двух словазлучэнняў:

**Сказаць аб чым**, а **адзначыць што:** *Аб гэтым дакладчык таксама адзначыў.*

**Апрануцца ў што**, а **быць у чым:** *У якім адзенні апранута гераіня фільма?*

**Паведаміць каму**, а **апавясціць каго:** *Ужо ўсіх паведамілі пра сход?*

**Суд над кім**, а **расправа з кім:** *Паліцыя бесчалавечна расправілася над дэманстрантамі.*

**3.** Аб'яднанне частак дзвюх, трох і болей сінтаксічных канструкцый, якія ўжываюцца для апісання адной і той жа пазамоўнай сітуацыі (адбываецца парушэнне і лексічных, і граматычных правіл спалучальнасці):

**Сказаць пазней**, а **напісаць ніжэй:** *Пра гэта я скажу ніжэй.*

**Гэты перыяд быў нядоўгім**, а **на гэта пайшло няшмат часу**: *Гэты перыяд цягнуўся нядоўгі час.*

**Надаіць пэўную колькасць малака**, а **выканаць палову задання**: *Вольга надаіла палову задання.*

**4.** Замена (сітуацыйная і лагічная сінанімічнасць) перыфрастычнага і прамога выказвання:

**Веды расшырыліся**, а **ўзровень павысіўся**: *Узровень маіх ведаў значна расшырыўся.*

**Арганізаваць спаборніцтва**, а **форму знайсці**: *Трэба так арганізаваць форму спаборніцтва, каб...*

**Ёсць і такая ў ліку прычын**, а **ўказаць і на такую прычыну**: *У ліку прычын трэба ўказаць і на такую.*

**Былі прыняты пункты**, а **рад пунктаў быў прыняты**: *Раней у нас на сходзе былі прыняты рад пунктаў.*

**5.** Плеаністычнае словазлучэнне, калі да асобнага слова далучаецца частка сінанімічнага гэтаму слову словазлучэння або ўвесь сінонім (слова):

**Спытаць — задаць пытанне**: *Я хачу ў вас спытаць адно пытанне.*

**Паправіць — паставіць на месца**: *Паправіў крэсла на месца.*

**Суіснаваць — існаваць побач**: *Гэта група суіснавала разам з іншымі.*

**Планаваць — уносіць у план**: *Што было запланавана ў мінулым годзе ў наш план.*

**6.** Змешванне фразеалагічнага словазлучэння з іншым словазлучэннем (не толькі парушэнне заканамернасцей лексіка-граматычнай спалучальнасці, але і разбурэнне вобразнасці выказвання):

*Ён жа музыка на ўсе рукі.*

*Што ты маўчыш як укапаны?*

*Вось аб чым справа ідзе.*

*З-за чаго пачаўся сыр-бор?*

**7.** Словазлучэнні, у якіх змешваюцца беларускія і іншамоўныя канструкцыі (даслоўны пераклад з чужой мовы, уласная кантамінацыя — спалучэнне беларускай лексемы з граматычнымі асаблівасцямі яе «сіноніма» — іншамоўнага эквіваленту):

*Падзякуем удзельнікаў канцэрта за выступленне.*

**Пяць кароў — пять голов скота:** *Пяць галоў кароў.*

**Бульвар Шаўчэнкі — бульвар Шевченко**: *Бульвар Шаўчэнка.*

**Калі вам не цяжка — если вам не в тяжесть:** *Калі вам **не ў цяжкасць**.*

**Іншым разам — в другой раз:** *Патаповіча мы будзем слухаць у іншы раз.*

**Кніга з’яўляецца зборнікам — представляет собой сборнік:** *Кніга ўяўляе сабой зборнік нарысаў.*

**8.** Змешванне адносін: абстрактнасць — канкрэтнасць, род — від і пад.:

*Здрада прычыняе **балючасць**.*

**Пойдзе дождж, снег — магчымы ападкі:** *Заўтра пройдуць ападкі.*

**Незвычайны герой — беззапаветны гераізм:** *Беззапаветны герой, вось ён хто на самай справе.*

***Заўвага:*** *хвалістай лініяй выдзелены памылковыя словазлучэнні.*

**Даведка**

***Граматычныя памылкі** — вынік незахавання асноўных граматычных правіл мовы.

Гэта → НЯПРАВІЛЬНА:
- → утварэнне, будова слова → *чыта**цель***
- → утварэнне, формы слова → *па пал**ям**, луг**ам***
- → будова словазлучэння → *жаніцца **на** Алесі, доўг**ая** цень*
- → будова сказа → *выконваючы практыкаванне, патрэбен слоўнік*

**Даведка**

****Маўленчыя памылкі** — вынік няправільнага выбару слоў, памылковага словаўжывання.

Гэта →
- → няправільнае ўжыванне мнагазначнага слова → *глыбокая вясна*
- → парушэнне лексічнай спалучальнасці слоў → *пацярпець перамогу*
- → змешванне паронімаў → *купіць абанент у спартзалу*
- → скажэнне фразеалагізмаў → *не ўпаў духам*

**9.** Няправільная пабудова выказванняў з пабочнымі словамі:

*На мой погляд здаецца, ён мае рацыю.*

*Ну скажам, у першую чаргу трэба прачытаць правіла.*

**10.** Парушэнне семантычных сувязей акалічнасцей і граматычных асаблівасцей дзеяслова (трыванне, стан):

**Не першы раз гавару — часта гавару — не раз гаварыў:** *Аб гэтым я ўжо не раз гавару.*

**Апошні час рабіў — за апошні час зрабіў:** *За апошні час ён рабіў нямала.*

**Ні разу не падвергліся — ніколі не падвяргаліся:** *Вы ж ніколі яшчэ не падвергліся сапраўднаму медагляду.*

**11.** Граматычныя канструкцыі, якія адрозніваюцца сваёй граматычнай будовай і сваімі функцыямі ў сказе, але маюць аднолькавае лексічнае напаўненне. Да іх далучаюцца і сінанімічныя фармальныя сродкі мовы (напрыклад, злучнік): *Цырк вельмі зручны* ***і як*** *для гледачоў, так і для артыстаў.*

**Дзівіцца чаму — здзіўлены чым:** *Яны былі здзіўлены самому факту* ***існавання*** *такой установы.*

**Помніць аб ахвярах — помнік ахвярам:** *Ствараецца помнік аб ахвярах сусветнай вайны.*

**Сцвярджаць што — сцвярджэнне аб:** *На словах яны сцвярджаюць аб тым, што не могуць...*

**12.** Неправамернае аб'яднанне частак некалькіх словазлучэнняў у якасці аднародных (парушаюцца і граматычныя і лексічныя нормы):

**Атрымаць перамогу — пацярпець паражэнне:** *Каманда атрымала дзве перамогі і адно паражэнне.*

**Здзяйсняць кантроль — рабіць праверку:** *Неабходна штодзённа здзяйсняць кантроль і праверку даручэнняў.*

**Дабівацца поспехаў — пакараць вяршыні:** *Логіка нашага жыцця такая, што ад кожнага патрабуецца дабівацца новых поспехаў і вяршынь.*

**13. Парушэнне ўласна моўнай формы, лагічнай супярэчнасці:**

**Людзі здзіўляюць майстэрствам — вырабы здзіўляюць тонкасцю, прыгажосцю:** *Вырабы не перастаюць здзіўляць знаўцаў сваім майстэрствам, тонкасцю, прыгажосцю малюнка.*

*Майстэрства скрыпача кожны раз расце.* Супярэчнасць: *кожны раз* указвае на перарыванне, *расце* — на паступовасць, бесперапыннасць дзеяння.

***Практыкаванне 13.*** Знайдзі ў сказах словазлучэнні, у якіх словы ўжыты ў няправільным значэнні. Гэта маўленчая памылка**. Звычайна настаўнік падкрэслівае ў вашых работах такія словазлучэнні хвалістай лініяй і прастаўляе на палях літару **М**.

Запішы сказы правільна.

1. Гэты твор Гарэцкага высока аценілі яго сучаснікі і папярэднікі. 2. У лесе пачаўся бурны лістапад. 3. Усіх, хто заходзіў у гэту гасцінную хату, сустракалі з адкрытым сэрцам. 4. Кніга на мне аставіла вялікае ўражанне. 5. На футбольным матчы атрымала паражэнне каманда «Форвард» з суседняй школы. 6. Слоўнікі сцвярджаюць аб такіх памылках.

***Практыкаванне 14.*** Прачытай тэкст. Ці зразумела, якая прафесія ў ім апісваецца? Выпішы тыя словазлучэнні, якія дапамаглі табе зразумець гэта.

Адносна новая для нашай краіны спецыяльнасць. Прыемныя манеры, упэўненыя рухі, адкрытая ўсмешка — над усім гэтым працуе ... . У яго задачу ўваходзіць распрацоўка іміджу*: не толькі стварэнне прыемнага аблічча (прычоскі, стылю вопраткі), але і змяненне самога чалавека, каб ён не толькі спадабаўся свайму гледачу ці выбаршчыку, але і па-іншаму пачаў ставіцца да самога сябе. Высокакваліфікаваны ... адначасова з'яўляецца добрым псіхолагам і спецыялістам па піяры**. Паслугамі ... карыстаюцца палітыкі (асабліва падчас выбарчых кампаній), артысты, спевакі, тэлевядучыя (Часопіс «Бярозка»).

Якую ролю выпісаныя табой словазлучэнні выконваюць ў тэксце? Ці можна пагадзіцца з тым, што яны: а) дазваляюць пазбегнуць паўтарэння адных і тых жа слоў; б) служаць для сувязі сказаў у тэксце; в) дапамагаюць стварыць дакладнае апісанне папулярнай і цікавай прафесіі?

**Даведка**

***Імідж** (англ. image ад лац. **imago — вобраз, выгляд)** — вобраз (якой-небудзь асобы, з'явы, прадмета), які мэтанакіравана фарміруецца з мэтай эмацыянальна-псіхалагічнага ўздзеяння на каго-небудзь, каб папулярызаваць, рэкламаваць яго.

****Піяр** — гэта дзеянне, скіраванае на фарміраванне думкі пра аб'ект ці суб'екта. Напрыклад, рэклама якога-небудзь тавару таксама з'яўляецца піярам. Для суб'екта піяр можна параўнаць з *рэпутацыяй*. Паняцце «піяр» вельмі падобнае да паняцця «прапаганда». Public Relations (піяр) можна лічыць адным з відаў рэкламных тэхналогій (Слоўнік з інтэрнэту).

**Падказка**




**Загадка**

Якія словазлучэнні — вобразныя, заснаваныя на ўжыванні слова ў пераносным значэнні — дазваляюць пазнаць прадмет, які апісваецца ў загадках Алены Церашковай? Дапішы адгадкі. Знайдзі і запішы падобныя загадкі альбо складзі іх самастойна.

**1.** За плот чапляецца вусамі
Сцябло з тугімі гаманцамі.
У гаманцах сядзяць сынкі,
Гадуюць круглыя бакі.
Калі вусач пажоўк, засох,
Глядзі: пара збіраць ...!

**2.** Паўсюль вы сустрэнеце гэтыя кветкі:
Блакітныя вочкі і жоўтыя зрэнкі.
На лузе, у лесе, па ўскрайку балота
Растуць яны дружна. Збірай у ахвоту.
Калі прыварот трэба моцны ды хуткі,
Каханку на грудзі кладзі ... .

**3.** Гэтыя браты-блізняты
Ёсць і ў сына, ёсць і ў таты.
Носяць доўгія вусы,
Крэмам пэцкаюць насы,
Парай быць заўсёды звыклі,
А завуцца ... .

***Практыкаванне 15.*** Складзі і запішы словазлучэнні «прыметнік + назоўнік», ужываючы прапанаваныя словы ў пераносным значэнні.

Кучаравы, глыбокі, аксамітны, прамы, залаты, сівы.

Ці складана даказаць, што ўсе гэтыя словазлучэнні маюць значэнне **прадмет і яго прымета** (азначальнае)?

***Практыкаванне 16.*** Наступныя словазлучэнні замяні **сінанімічнымі***. Абазнач, з якіх часцін мовы складзены словазлучэнні абедзвюх груп, а таксама від сінтаксічнай сувязі слоў у іх.

Немаўля без абароны, ноч без сну, чалавек без галавы, герой без аблічча, выбары без альтэрнатывы, праезд без білета, сказ без выказніка, спявак без голасу, жыццё без турбот, фермер без зямлі, студэнт без ініцыятывы.

Гэтыя словазлучэнні аднолькавыя па значэнні ці адрозніваюцца адценнямі сваіх значэнняў?

Растлумачце правапіс прыставак ва ўтвораных прыметніках.

### Даведка

***Сінонімы** (ад грэч. **synōnymos — аднайменны**) — словы, блізкія па значэнні, якія разам з тым адрозніваюцца адценнямі значэння і ўжываннем у маўленні.

**Сінанімічныя канструкцыі** — канструкцыі, блізкія па значэнні, але розныя па будове. Выражаюцца абавязкова аднолькавымі сінтаксічнымі адзінкамі (сінанімічнымі паміж сабой могуць быць словазлучэнні, члены сказа, дадаными часткі сказа).

### Падказка




**Заданні для самастойнай працы**

1. Устанаві адпаведнасць.

А — словазлучэнне

Б — сказ

1) Не мае моўнай самастойнасці.

2) Выконвае камунікатыўную функцыю.

3) Не выражае закончанай думкі.

4) Мае катэгорыю прэдыкатыўнасці. (Змест выказвання суадносіцца з рэчаіснасцю.)

5) Выконвае пашыраную намінатыўную функцыю.

6) У ім адсутнічае інтанацыйная афармленасць.

7) Будаўнічым матэрыялам для яго з'яўляецца слова і слова-форма.

2. Знайдзі «пятае лішняе».

Не могуць утвараць словазлучэнне...

1) Складаныя формы дзеясловаў будучага складанага часу.

2) Складаныя формы ступеней параўнання прыметнікаў і прыслоўяў.

3) Два паўназначныя словы, адно з якіх з'яўляецца галоўным кампанентам, а другое — залежным.

4) Прыназоўнікава-склонавыя формы назоўнікаў.

# СКАЗ — УСЕМАГУТНЫ ВАЛАДАР СІНТАКСІСУ

## I. Паняцце аб сказе

### Сказ як мінімальнае маўленчае выказванне. Сэнсавыя тайны сказаў

***Практыкаванне 1.*** Уяві сабе такую сітуацыю: размаўляюць героі гумарыстычнай мініяцюры — дзве бабулі. Кожную з іх папярэдзілі, што яе суразмоўца нібыта дрэнна чуе.

Крычыць бабуля Ганна. Усе словы крычыць павольна і кожнае слова асобна:

— А. Скажы. Мне. Калі ласка. Ці. Не. Бачыла. Ты. Майго. Рудога. Пеўня.

А бабуля Гэля ў адказ:

— Я. Нічога. Не. Разумею.

Чаму суразмоўцы не могуць зразумець адна адну? Прачытай дыялог так, каб стала зразумела, аб чым гаворка. Якія прыметы сказа патрэбна аднавіць?

**Падказка**



***Практыкаванне 2.*** Паспрабуй прачытаць тэкст. Што перашкаджае гэтаму? Што патрэбна зрабіць, каб тэкст чытаўся лёгка?

**Жыў у нас тыдні са два кравец каму шыў новае каму латаў ці перашываў старое а для мяне сабраўшы неяк розныя кліны і абрэзкі саматканага шарачка ён пашыў новае пальцечка ды якое у ім былі дзве кішэні яно было зроблена адмыслова на мяне і для мяне!**

Якія сказы з аднаўленага табой тэксту адпавядаюць наступным схемам?

[ ═══ - - - - - - - - - -·-·-·-·-·- ——— ].

[ - - - - - - - ═══ - - - - - - - - , - - - - - - - - ═══ ці ═══ - - - - - - - - ].

Складзі схемы яшчэ двух сказаў.

**Загадка**

**У якіх выпадках у наступных прыкладах адно і тое ж слова ці спалучэнне слоў можа ўспрымацца як сказ, а ў якіх — толькі як яго частка?**

***1. Факультатыў. 2. Праводзіцца факультатыў. 3. Факультатыў па беларускай мове. 4. Праводзіцца факультатыў па беларускай мове. 5. Праводзіцца факультатыў па беларускай мове ў 8 класе.***

***Практыкаванне 3.*** Прачытай тэкст. Дакажы, што ў канцы першага радка коску не трэба ставіць, хоць пры чытанні там узнікае паўза. Якія прыметы сказа дапамогуць гэта даказаць?

Спіць, стаміўшыся, вецер
Ля імшарнай крыніцы.

*М. Танк.*

## Будова сказа

**Загадка**

Якая з дзвюх канструкцый і чаму з'яўляецца сказам?
*1. Хлопчык слухаў новую рэпавую кампазіцыю.*
*2. Слуханне новай рэпавай кампазіцыі.*

**Падказка**

Дзейнік і выказнік — граматычная аснова сказа. Гэта яго «ядро», яго «нерв», які ператварае спалучэнне слоў у сказ. Такое

спалучэнне слоў называецца прэдыкатыўным (ад лац. **praedicatum — выказанае).** Без прэдыкатыўнасці сказа не бывае (Па кнізе «Гэты няпросты просты сказ»).

***Практыкаванне 4.*** Прачытай гумарыстычныя аб'явы. Падкрэслі ў сказах граматычныя асновы.

**Як прадаць малаток мужчыне**

Малаток. Вага 350 грамаў. Ручка пластыкавая.

**Як прадаць малаток жанчыне**

Эксклюзіўны малаточак. Колеры: класічны чорны і цёмна-сіні, які нагадвае прыгажосць хвалі Карыбскага мора. Ручка далікатная, круглая, гладзенькая. Стукнуўшы малаточкам па сваім пальчыку, вы будзеце любавацца новым колерам лаку сваіх пазногцяў («Звязда»).

Якая моўная з'ява пакладзена ў аснову гэтых тэкстаў?

**Падказка**




***Практыкаванне 5.*** Прачытай тэкст. Падкрэслі граматычныя асновы, назаві складаныя сказы.

Ходзіць па нашым краі пагалоска пра пана Заблоцкага, што жыў надта даўно, яшчэ за князем Дрыгайлам. Жылося тады людзям не абы-як, адно мыла не ставала — і вось пан Заблоцкі пакваліўся на лёгкі прынажытак.

Адправіўся ён за мора, наладаваў мылам повен карабель ды плыве назад паціху. Ажно нахапіўся вецер, кінуў карабель на падводныя камяні, і той карабель даў цечу. Увесь тавар, лічы, змыла, а пан Заблоцкі застаўся ні з чым.

З тае пары пачалі казаць: «Зарабіў, як пан Заблоцкі на мыле».

Але гэта даўнейшая гісторыя, хто пра яе не чуў! Ды мала хто ведае пра іншыя прыгоды пана Заблоцкага ды ягонага дружбака пана Кубліцкага. Ото ж былі паны! Колькі яны пазараблялі гузоў на свае галовы — усё праз фанабэрыю, прагавітасць, недарэчныя дзівацтвы! І шкода часам іх, ды смех разбірае: ну ж і шалапуты!

*П. Васючэнка.*

**Падказка**




***Практыкаванне 6.*** Абазнач сказы, якія адпавядаюць наступным схемам.

1. Праяснілася, і халоднае неба запалала жоўтым агнём ад апошніх праменяў сонца (А. Чарнышэвіч). 2. Адзін мароз адно ўладае і на ўсё рукі накладае (Я. Колас). 3. Раздаўся зычны гук, і сухая галінка разляцелася на кавалкі (Я. Маўр). 4. Ад дажджоў стары гасцінец пашарэў і пацямнеў, толькі вецер ярка сініць веснавую зелень дрэў (М. Танк). 5. Ляпнуць дзверцы, і аўтобус пабяжыць далей (В. Адамчык). 6. Гэтая бярозка толькі нядаўна асталявалася тут. Кароткае жыццё выдарылася ёй, і незайздросная доля гадавала яе (Я. Колас).

1. [ ======= і ======= ].

2. [ _______ ======= ], і [ _______ ======= ].

Сфармулюй закадзіраванае ў схемах правіла.

## II. Віды сказаў паводле мэты выказвання і інтанацыйнага афармлення

***Практыкаванне 7.*** Ці поўнасцю прадстаўлены віды сказаў па мэце выказвання ў наступных прыкладах? Ці можна дапоўніць гэты рад?

Дом пабудаваны? Дом пабудаваны. Дом пабудаваны!

**Падказка**



***Практыкаванне 8.*** Прапанаваныя сказы вымаві двойчы: спачатку як апавядальныя, затым як пытальныя. Захоўвай правільную інтанацыю*.

| | |
|---|---|
| Хутка будуць канікулы. | Хутка будуць канікулы? |
| Ты пойдзеш на экскурсію ў музей. | Ты пойдзеш на экскурсію ў музей? |

**Даведка**

***Інтанацыя** (ад лац. **intonare — вымаўляць**) — тон, манера вымаўлення.

Элементы інтанацыі:

1) націск — слоўны і лагічны;
2) паўзы — прыпынкі гучання рознай працягласці;
3) мелодыка — павышэнне і паніжэнне голасу;
4) тэмп — хуткасць або запаволенасць маўлення;
5) тэмбр —«змрочная», «вясёлая» і г. д. афарбоўка маўлення.

**Даведка**

Апавядальная і пытальная інтанацыі адрозніваюцца вышынёй тону, якім вымаўляецца вышэйшы пункт сказа — націскны склад галоўнага па сэнсе слова. У пытальным сказе тон вышэйшы:

Ён прыехаў. Ён прыехаў?

***Практыкаванне 9.*** Запішы адзін-два прыклады на кожны спосаб афармлення пытальных сказаў. Прачытай іх, захоўваючы пытальную інтанацыю.

1. Толькі інтанацыя. ***Ты дома?***
2. Пытальныя часціцы. ***Няўжо ты не прыйдзеш?***
3. Пытальныя займеннікі. ***Хто і калі прыходзіў да нас?***
4. Пытальная часціца **ці** і зменены парадак слоў. ***Ці ведаеце вы апошнія навіны?***

**Загадка**

Чым адрозніваецца роля пытальных часціц ад ролі пытальных займеннікаў у дадзеных сказах?

***Практыкаванне 10.*** Падумай, ці можаш ты пагадзіцца з думкай вядомага лінгвіста А. М. Пяшкоўскага, які лічыў, што, вымаўляючы пытальны сказ, словамі мы паведамляем, а голасам, інтанацыяй пытаемся. Падбяры аргументы на карысць свайго пункту погляду і напішы невялікае разважанне на гэту тэму.

***Практыкаванне 11.*** Пастаў знакі прыпынку ў канцы сказаў. Прачытай тэкст уголас, захоўваючы патрэбную інтанацыю. Вызнач від сказаў па мэце выказвання, абазнач апавядальныя сказы — v, пытальныя — ?, пабуджальныя — +.

Асобе, якая імкнецца да адукацыі, варта шанаваць кнігі вышэй за золата і каштоўныя камяні, перагортваць іх старонкі днём і ноччу Як трэба чытаць кнігі Іх трэба чытаць уважліва, каб самае важнае адзначалася і выносілася Адзначалася — у самой кнізе, калі яна твая; выносілася, гэта значыць выпісвалася Адбірай самае істотнае ў кнізе для нататак Запісвай новае для сябе, тое, што спатрэбіцца табе калі-небудзь Не забудзься запісаць і свае думкі Чытанне пасродкам пяра і паперы дасць табе радасць новага пазнання

*З лекцыі польскага педагога*
*Я. А. Каменскага.*

***Практыкаванне 12.*** Запішы тры-чатыры прыказкі, якія па форме з'яўляюцца пабуджальнымі сказамі і выражаюць думку, якая табе падабаецца.

**Заданні для самастойнай працы**

1. Адзнач пабуджальныя сказы:

а) Супраць фактаў нічога не скажаш.
б) Прыйдзі пад вечар ты на поле і палюбуйся ім, саколе! (Я. Колас).
в) Вось што, Сымон, давай летам паедзем куды-небудзь на вёску (Я. Колас).
г) Родны край, у шчасці расцвітай!
д) Не, народа майго аніхто не сагне! (П. Панчанка).

2. Падкрэслі ў сказах граматычныя асновы:

1. Агонь дагараў. 2. Адным словам, на нашу агульную думку, усе мы ўчатырох былі добрымі хлопцамі. 3. Куча галля ўсё змяншалася, канцы ламачча тлелі навакол. 4. На дварэ было цёмна, затое яснымі былі думкі ў чалавека. 5. Песня і казка ходзяць у пары, сеюць па свеце дзівы і чары.

З дапамогай якіх сказаў можна перадаць свае эмоцыі?

***Практыкаванне 13.*** Прачытайце радкі з верша «Паўлюк Багрым», захоўваючы патрэбную інтанацыю.

Беларусь,
        прачынайся!
Я цябе абуджаю!
Ты павінна прачнуцца,
        Не праспі сваё шчасце ўначы,
        Я гукаю цябе,
        Дарагая, святая!
        Адкажы ж, мая родная,
        Не маўчы!..
Паміраю і веру:
Калісьці над светлымі водамі,
Над свабоднай зямлёю
І над Белаю Руссю маёй
Шчасце сонцам заззяе,
І слова нашчадка свабоднага
Мае раны загоіць
Гаючай жывою вадой.

*У. Караткевіч.*

Чаму сказы першай страфы заканчваюцца клічнікамі?

Ці можна прачытаць сказ з другой страфы як эмацыянальна афарбаваны? Якія пачуцці пры гэтым ты выразіш?

**Падказка**

**СЛОЎНІК ЭМОЦЫЙ**

1. Непакой, хваляванне, злосць, крыўда, трывога, сум, жах...
2. Роспач, гора, недаўменне, расчараванне, раскаянне, сорам...
3. Захапленне, гонар, адабрэнне, радасць...
4. Каханне, любоў, жалоба, спачуванне, замілаванне...

***Практыкаванне 14.*** Перад табой сказы, у канцы якіх можна паставіць ці клічнік, ці пытальнік, ці абодва знакі разам. Дакажы, што гэта залежыць ад адцення значэння і эмацыянальнай афарбоўкі. Прачытай сказы з адпаведнай афарбоўкай.

1. Няўжо вы не чулі...
2. Няўжо вы не чулі...
3. Няўжо вы не чулі...

***Практыкаванне 15.*** Вымаві выказванне «Дождж ідзе» ў адпаведнасці з наступнымі маўленчымі сітуацыямі. Запішы сказы, якія атрымаліся.

1. Сям'я збіралася на лецішча, і раптам неба зацягнула хмарамі...
2. Тата не ведае перад выхадам з хаты на працу, ці ідзе дождж...
3. Спякотны жнівень. Даўно не было дажджу. І раптам...

**Даведка**

Словы-сігналы для пастаноўкі клічніка: часціцы **як**, **які**, **што за**, **такі**, **так** і выклічнікі **ну**, **а**, **о** і інш., з якіх пачынаецца сказ.

**Загадка**

Ці могуць быць клічнымі сказы ўсіх трох тыпаў па мэце выказвання? У якім выпадку ў канцы сказа ставяцца два знакі прыпынку?

**Падказка**

Інтанацыя клічнага сказа — гэта апавядальная ці пытальная інтанацыя плюс выражэнне тэмбрам голасу пачуцця захаплення, страху, гневу, радасці і інш. (Паводле Л. Федарэнкі).

***Практыкаванне 16.*** Прачытай матэрыял «Падказкі». У сказах знайдзі і выпраў пунктуацыйныя памылкі.

1. Няўжо зноў каранцін, і ў школу не трэба хадзіць? 2. Як часта мы сустракаліся, і якія цікавыя дыскатэкі былі! 3. Колькі радасці, і колькі захаплення!

**Падказка**

Коска перад злучнікамі **і**, **ды** (у значэнні **і**) не ставіцца, калі часткі складаназлучанага сказа маюць форму пытальных, пабуджальных ці клічных сказаў (Правілы беларускай арфаграфіі і пунктуацыі).

## III. Сказы розных відаў у маўленні

***Практыкаванне 17.*** Прачытай тэкст. Растлумач правапіс прапушчаных літар. Падумай, чаму выкарыстана шматкроп'е.

Каршун сядзеў на пні і быў таксама нечым заняты... Ён сачыў... Прыгледзеўшыся, я заўважыў ля пня маленькую норку — з яе час ад часу паказвалася вастранькая мышыная пыска.

І тут раптам мяне як токам працяло — я азірнуўся. І аж не паверыў сваім вачам, бо ўбачыў яшчэ адны прагныя вочы — воўчыя. Воўк таксама цікаваў... За кім? Няўжо за мной?.. Па спіне ў мяне прабеглі халодныя мурашкі...

*Б. Сачанка.*

**Падказка**




***Паразважаем*** пра незвычайны пунктуацыйны знак — шматкроп'е. Самы просты выпадак — калі яно ставіцца на месцы пропуску ў тэксце цытаты. Тут яно проста дапамагае падкрэсліць яе неабходны ў дадзеным выпадку сэнс, скараціць аб'ём. Але ўвогуле шматкроп'е можа сказаць пра многае, сапраўды пра многае. У пачатку сказа — пра тое, што чалавек пераходзіць ад адной думкі да другой, як бы шукае думку; у сярэдзіне — пра тое, што моўцу ахапілі, захліснулі пачуцці. А шматкроп'е ў канцы сказа сведчыць пра нежаданне паставіць усе кропкі над «і» — вырашыць усё адназначна, нічога не аставіць недаказаным. Гэта запрашэнне да роздуму (*Г. Я. Брусіна*).

***Практыкаванне 18.*** Прачытай два тэксты. Вызнач у кожным сказы па мэце выказвання. Чым адрозніваюцца ў гэтых адносінах тэксты?

1. Што значыць — умець чытаць? Гэта не азначае толькі складваць з літар словы, а са слоў фразы. Умець чытаць — значыць умець глыбока разумець прачытанае. Калісьці ты склаў сваю першую фразу — і гэта ўжо было адкрыццё. Ты здолеў узяць першую вышыню на шляху пазнання.

2. Умець чытаць... Што гэта значыць? Ці толькі складаць з літар словы, са слоў фразы? Відаць, не толькі гэта. Умець чытаць — значыць умець глыбока разумець прачытанае. Памятаеш, як ты склаў сваё першае слова? Падумай, якое вялікае адкрыццё ты зрабіў! Ты здолеў узяць першую вышыню на шляху пазнання (Паводле Э. Цюрупы).

Які тэкст падаецца табе больш жывым, цікавым? Чаму?

**Падказка**

**Пытальныя і пабуджальныя сказы** дапамагаюць зрабіць выказванне больш яркім, **«ажыўляюць»** тэкст. З дапамогай пытальнага сказа можна як бы задаць пытанне нябачнаму суразмоўцу і разам з ім шукаць адказ на гэтае пытанне. А пабуджальныя сказы быццам запрашаюць чытача да сумеснага роздуму, суперажывання на гэтым шляху...

**Даведка**

**Рытарычнае пытанне (**ад грэч. **rhetor — прамоўца)** — пытальны сказ, які заключае ў сабе пытанне, якое не патрабуе адказу. У ім пытальная інтанацыя спалучаецца з клічнай. Такім чынам узмацняецца эмацыянальнасць, выразнасць маўлення.

***Паразважаем*** пра незвычайную ролю пабуджальных сказаў... У чым? У граматыцы? Не, у чалавечым жыцці. Удумаемся ў сэнс гэтага выказвання. Пабуджальныя – таму, што нясуць у сваім значэнні пабуджэнне. Лепш, канечне, калі да дабра, чалавечнасці, справядлівасці... І чалавецтва стагоддзямі назапашвала такі вопыт маральнасці, перадаючы яго з пакалення ў пакаленне, ствараючы запаветы і запаведзі. Самыя старажытныя і вечныя – біблейскія... А ёсць яшчэ прыказкі, крылатыя словы, афарызмы (*Г. Я.Брусіна*).

***Практыкаванне 19.*** Аднаві ў памяці тыя звесткі, якія ты атрымаў, разглядаючы раздзел «Сказ». Ці згодны ты з думкай, што «сказ – усемагутны валадар сінтаксісу», ён многае можа і ўмее? Свае думкі запішы.

## *ТАКІ НЯПРОСТЫ ПРОСТЫ СКАЗ*

## І. Асноўныя віды простых сказаў паводле будовы

### Сказы двухсастаўныя і аднасастаўныя. Сказы развітыя і неразвітыя

***Практыкаванне 1.*** Перачытай назву тэмы. Ці ўсе тэрміны табе добра знаёмыя? Запішы па два прыклады развітых і неразвітых сказаў.

***Практыкаванне 2.*** З неразвітых сказаў утвары развітыя і запішы іх.

1. Свеціць месяц. 2. Мінулі восень і зіма. 3. Вёска жыла. 4. Загуў матор. 5. Рака не зварухнецца. 6. Даспяваюць вішні.

**Загадка**

Чаму наступныя сказы з’яўляюцца неразвітымі?

*Зялёны колер — колер жыцця.*

*Пралеска з’яўляецца знікаючай кветкай.*

***Практыкаванне 3.*** Выпраў памылкі ў размеркаванні сказаў па слупках. Абгрунтуй сваю думку графічна.

**Сказы**

| **двухсастаўныя** | **аднасастаўныя** |
|---|---|
| 1. Мароз мацнеў. | 1. Ужо падмарожвала. |
| 2. Школу падрыхтавалі да рамонту. | 2. Школа падрыхтавана да рамонту. |
| 3. За акном грымела і грукатала. | 3. Доўга яшчэ грымеў і грукатаў гром. |
| 4. Прыгажосць гэтых мясцін уражвала. | 4. Дзіўная прыгажосць. |
| 5. Прачытай гэту кнігу. | 5. Мне хацелася прачытаць гэту кнігу. |

**Падказка**

**Простыя сказы**

1. Двухсастаўныя = дзейнік **і** выказнік.
2. Аднасастаўныя = дзейнік **або** выказнік.

***Практыкаванне 4.*** Запішы спачатку двухсастаўныя, а потым аднасастаўныя сказы. Падкрэслі развітыя сказы прамой лініяй, а неразвітыя — хвалістай.

1. Баян — гармонік пад небам сінім нейкі музыка расцягнуў (М. Танк). 2. Пачынала змяркацца (Я. Колас). 3. З надрэчча цягне сіняй прахаладдзю. 4. Рыпяць тармазы (А. Асіпенка). 5. Вось і знаёмая паляна (І. Шамякін). 6. Ціха брыла па абшарах марозная сіняя ноч (З. Бядуля).

**Падказка**



## Парадак слоў у сказе.
## Лагічны націск

***Практыкаванне 5.*** Суаднясі сказы з левага слупка з іх характарыстыкай у правым.

| | |
|---|---|
| • А. Міцкевіч вучыўся ў Навагрудку. | • Сказ адказвае на пытанне: «Дзе вучыўся А. Міцкевіч?» — «У Навагрудку». |
| • У Навагрудку вучыўся А. Міцкевіч. | • Сказ адказвае на пытанне: «Што рабіў А. Міцкевіч?» — «Вучыўся ў Навагрудку». |
| • Вучыўся А. Міцкевіч у Навагрудку. | • Сказ адказвае на пытанне: «Хто вучыўся ў Навагрудку?» — «А. Міцкевіч». |

***Практыкаванне 6.*** Прачытай уголас сказы з папярэдняга практыкавання. Вылуч голасам слова, якое ўтрымлівае «новае», самае важнае. Трэці сказ прачытай і як пытальны.

***Практыкаванне 7.*** У першай частцы кожнага сказа падкрэслі слова, якое трэба выдзеліць лагічным націскам, каб захаваць сэнс сказа.

1. Адны будуюць касмічныя караблі, другія іх выпрабоўваюць. 2. Вы сёння прыедзеце? — Не, заўтра. 3. Я купляю кнігі, а не прадаю. 4. Трэба быць вучоным, а не здавацца ім. 5. Дайце мне кубак чаю. Суседу справа далі, а мяне прапусцілі.

Чаму ў вусным маўленні такі варыянт пабудовы сказаў магчымы, а ў пісьмовым — непажаданы?

**Даведка**

**Лагічны (сэнсавы) націск** — выдзяленне голасам тых слоў, якія для моўцы маюць самае важнае значэнне.

***Практыкаванне 8.*** Запішы сказы, змяніўшы парадак слоў так, каб на выдзеленае слова падаў лагічны націск.

1. Гаўрылаў *напаўголасу* назваў сваё прозвішча. 2. Асобнай увагі заслугоўвае выкарыстанне *займеннікаў* у маўленні. 3. *Сусед* адправіў гэты ліст. 4. Змяніце фразу так, каб яна была *правільна* пабудавана. 5. Ён прыехаў і даведаўся, што *днём* быў сход.

**Загадка**

Колькі варыянтаў вымаўлення гэтага сказа можа быць, калі рабіць лагічны націск на кожным слове, рухаючыся ад пачатку да канца? Вымаві ўсе варыянты. Якое адценне значэння набывае кожны з іх?

*Я гэты верш даўно вывучыў(ла) на памяць.*

***Практыкаванне 9.*** Разбяры сказ па членах. Дакажы, што ён мае прамы парадак слоў.

Першыя сонечныя промні ярка асвяцілі цёмны востраў пасярэдзіне возера.

**Падказка**

Прамы парадак слоў

| | | |
|---|---|---|
| Азначэнне | ← | перад азначаемым словам |
| Дзейнік, акалічнасць спосабу дзеяння | ← | перад выказнікам |
| Іншыя акалічнасці, дапаўненні | → | пасля выказніка |

***Практыкаванне 10.*** Параўнай сказы ў левым і правым слупках. Як інверсія колькасных лічэбнікаў уплывае на сэнс сказаў?

| | |
|---|---|
| 1. Экскурсія па горадзе была разлічана на дзве гадзіны. | 1. Экскурсія па горадзе была разлічана гадзіны на дзве. |
| 2. У маёй кішэні заставалася сто рублёў. | 2. У маёй кішэні заставалася рублёў сто. |
| 3. Да дома было дваццаць крокаў. | 3. Да дома было крокаў дваццаць. |
| 4. Суп быў смачны. Я з'еў тры талеркі. | 4. Суп быў смачны. Я з'еў талеркі тры. |

**Даведка**

Парушэнне, змяненне прамога парадку слоў у маўленні называецца **адваротным парадкам слоў**, або **інверсіяй (**ад лац. **inversio — перастаноўка).**

***Практыкаванне 11.*** Чаму прыведзеныя сказы выклікаюць смех? Запішы правільны варыянт сказаў.

1. Дзіцячы сад «Вавёрачка» прымае дзяцей пасля капітальнага рамонту. 2. Ва ўнівермагу праводзіцца выстава-продаж тавараў для мужчын вясенне-летняга сезона. 3. У вялікім асартыменце ёсць упрыгажэнні для жанчын замежнай вытворчасці. 4. Я даўно шукаю патэльню для яечні і бліноў з нержавеючай сталі. 5. З 5 па 7 сакавіка ветурач пранумараваў 700 парасят разам з заатэхнікам. 6. Група студэнтаў-тэхнікаў прыйшла слухаць факультатыўны курс лекцый па зварцы дацэнта Юр’ева.

***Практыкаванне 12.*** Вызнач тып кожнага тэксту. Падкрэслі галоўныя члены сказа, звярні ўвагу на пазіцыю дзейніка і выказніка. Для тэксту якога тыпу характэрны сказы, у якіх выказнік стаіць на першым месцы, а дзейнік на другім?

а) Якраз у той дзень яшчэ з раніцы павісла ў паветры страшэнная парнасць.

Ніклі да зямлі травы, трывожна шапталіся і кланяліся дрэвы. Пралятаді чародкі дзікіх качак, спяшаючыся да дажджу знайсці сабе дзе-небудзь у чаротах дамоўку, быццам кросны, снавалі, нізка лятаючы над зямлёй вакол сваіх «зямлянак», прылепленых пад стрэхамі, ластаўкі.

Мітусіліся, нібы мурашкі, людзі, спяшаючыся звезці ў гумно апошнюю збажыну.

*А. Васілевіч.*

б) Іду па асфальце дарожкі. Вавёрка бяжыць па траве, шархаціць па мяккім жоўта-карычневым, ужо не залатым, насціле прысмажанай марозікам лістоты. Мы з ёю як бы знарок, з двух бакоў набліжаемся да адной з чорных ліп. Тут вавёрка сігане ўгору? Не, яна паскакала далей. І вось гульня нарэшце канчаецца: вавёрка пабегла па тоўстым шурпатым ствале, а я спыніўся за два крокі ад яго.

## II. Галоўныя члены сказа

### Галоўныя члены сказа. Дзейнік ці выказнік? Дзейнік. Марфалагічныя спосабы выражэння дзейніка

***Практыкаванне 13.*** Складзі і запішы сказы, каб у іх дзейнікамі былі наступныя словы і словазлучэнні.

Рэспубліка Беларусь, кожны студэнт, Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, колькі шчасця, чалавек да дзесяці.

**Даведка**




***Практыкаванне 14.*** Запішы толькі тыя сказы, у якіх дзейнік выражаны адным словам.

1. Над галавой вісела высокае веснавое неба (А. Асіпенка). 2. Некалькі хат туліцца да хваёвай сцяны лесу (К. Чорны). 3. Міхал з Ксавэрам задуменна ішлі праз лес (Я. Колас). 4. Мы з вялікай радасцю пабачылі вызвалены Мінск (Я. Брыль) 5. Невялікая піраміда з бетону была пастаўлена на плоскі валун (В. Хомчанка).

***Практыкаванне 15.*** Прачытай сказы. Падкрэслі дзейнікі, запішы, чым яны выражаны. У якім стылі ўжываюцца такія сказы?

1. Ну, як твая маецца? Нездарова нешта была, мая гаварыла.
2. Дзе-хто стаў уцякаць у бакавую вуліцу.
3. Ішлі чацвёра ў двор.
4. Марылька і маці, яны гэта рыхталіся з цямна да гэтакай урачыстасці.
5. Абодва мы былі падобны адзін на аднаго.

**Падказка для паўтарэння**



**Загадка**

Чаму ў першым сказе можна дапусціць памылку пры вызначэнні дзейніка?

*Вуліцы цёплы дожджык паліў.*

*Вуліцы прыбраліся да ўрачыстасці.*

**Падказка**

Як знайсці дзейнік:

1. Удумайся ў сэнс сказа.

2. Задай сэнсавае пытанне — *пра каго*, *пра што* ідзе размова?

3. Пераканайся, што знойдзенае слова стаіць у назоўным склоне і да яго можна паставіць пытанне *хто? што?*

**Заўвага.** Часам бывае цяжка размежаваць дзейнік і выказнік у некаторых сінтаксічных канструкцыях. Калі ў якасці галоўных членаў сказа выступаюць назоўнікі ў назоўным склоне, то пры выказніку звычайна стаяць (або іх можна ўставіць) часціцы **вось**, **гэта**, **таксама** або параўнальныя злучнікі **нібы**, **быццам**, **як**, **усё роўна як**: *Шчокі як ружы, вусны як вішні спелыя, вочы як валількі* (І. Гурскі); *Пошукі патрэбнага слова — гэта заўсёды незвычайнае напружанне, гэта заўсёды хваляванне* (В. Вітка). Назоўны склон назоўніка ў ролі выказніка можна замяніць творным склонам: *Паляванне — спорт для маладых і дужых* (М. Паслядовіч) (= *Паляванне з'яўляецца для маладых і дужых спортам*, але нелагічна сказаць: *Спорт для маладых і дужых з'яўляецца паляваннем*).

У канструкцыях «займеннік + назоўнік» (ці наадварот) займеннік заўсёды з'яўляецца дзейнікам: *Ты мой госць* (З. Бядуля). (*В. В. Маршэўская*).

***Практыкаванне 16.*** Выпішы са сказа дзейнік.

Паехаць у горад было найвышэйшым жаданнем, вялікай марай для ўсіх нас, вясковых хлапчукоў.

***Паразважаем*** пра тое, што веданне членаў сказа дапамагае зразумець не толькі просты, але і складаназалежны сказ. Аказваецца, існуе суаднесенасць па значэнні паміж членамі сказа і даданымі часткамі. Нават іх назвы падобныя: даданыя азначальныя, дапаўняльныя, акалічнасныя.

***Практыкаванне 17.*** Спішы сказы, падкрэслі дзейнікі і вызнач, чым яны выражаны.

1. Кожны з нас памятае прачытаную ў юнацтве першую кнігу (Я. Скрыган). 2. Рэспубліка Беларусь мае пэўныя кантакты з Прыбалтыкай (ЛіМ). 3. Радасць — гэта заўсёды лекі (Я. Брыль). 4. Над тундрай зара залатая нібыта калыска палярнага дня (А. Александровіч). 5. Уся сцяна нібыта шкляная (Т. Хадкевіч). 6. Не шукай ты шчасця, долі на чужым, далёкім полі (Я. Купала). 7. Якое шчасце — быць не адзінокім! 8. З нас кожны — з тайнаю сваёй (Я. Брыль). 9. Сучасны дах — гэта складаная канструкцыя. 10. Найвялікшае багацце народа — яго мова. 11. Хата ў іх цяпер што клуб той (І. Шамякін). 12. Каўрыжка яго прозвішча (І. Мележ).

## Выказнік і яго тыпы. Сакрэты выказніка. Загадкі інфінітыва

**Даведка**




***Практыкаванне 18.*** Прачытай сказ, знайдзі і падкрэслі ў ім выказнік, вызнач яго тып.

Мяккія белыя купіны, падобныя на вялізныя падушкі, былі раскіданы між чэзлага хвойнічку (Л. Дайнека).

**Падказка**

| Тыпы выказнікаў | | | |
|---|---|---|---|
| Па саставе | Просты | | Састаўны |
| Па спосабе выражэння | Дзеяслоўны | | Іменны |
| лексічнае значэнне + граматычнае значэнне | адно слова | асноўная частка + дапаможная частка | |

**Даведка**

**Лексічнае значэнне выказніка** — яго асноўны сэнс, тое, што ён азначае.

**Граматычнае значэнне выказніка** — значэнне ладу і часу (дадатковае да лексічнага).

***Практыкаванне 19.*** Дакажы, што ў сказах першага слупка ёсць простыя дзеяслоўныя выказнікі, а ў сказах другога — састаўныя. Адзнач, якія з іх састаўныя дзеяслоўныя, якія — састаўныя іменныя.

| | |
|---|---|
| 1. Брат быў сёння ў нас. | 1. Ён майстар сваёй справы. |
| 2. Ура! Ён застаецца. | 2. Ён застаўся працаваць на заводзе. |
| 3. Я заўсёды быў лепшым. | 3. Ён з'яўляецца асістэнтам прафесара. |
| 4. Варэнне робіцца з ягад. | 4. Ён робіцца невыносным. |
| 5. Выстава будзе рыхтавацца. | 5. Артыст пачынае рыхтавацца. |

***Практыкаванне 20.*** Складзі і запішы сказы, выкарыстоўваючы дадзеныя словы і словазлучэнні ў якасці выказнікаў. Растлумач і адзнач тыпы выказнікаў.

Весяліцца, працягваць весяліцца, быць вясёлым.

Якімі адценнямі значэнняў адрозніваюцца запісаныя табой сказы?

***Практыкаванне 21.*** Падкрэслі ў прыведзеных сказах выказнікі і вызнач, для якога стылю яны характэрныя. Замяні іх стылістычна нейтральнымі формамі.

1. Почырк у Язэпа Апанасавіча не надта каб. 2. Міхал Сцяпанавіч паглядзеў на зяця і не даў рады змоўчаць. 3. Мы ўжо другі вечар седзімо ціхенька і чакаем бацьку. 4. Маці нават не звяла вокам да раніцы. 5. Узяліся дружна салдаты і давай дзяўбці слупам у дзверы.

## Просты дзеяслоўны выказнік

***Практыкаванне 22.*** Запішы толькі сказы з простым дзеяслоўным выказнікам.

1. Давай удвух сустрэнем ранне сярод туманнай сівізны (П. Панчанка). 2. Цемра і ціш напоўнілі маленькі пакойчык (Я. Колас).

3. Дзядзька Марцін быў яшчэ не стары чалавек (Я. Колас). 4. Будуць зоркі гарэць не ўрачыста, а па-свойску, адным толькі нам (П. Панчанка). 5. Раніца была яркая, ціхая (А. Якімовіч).

**Падказка**




**Падказка для паўтарэння**

| МАРФАЛАГІЧНЫЯ ПРЫМЕТЫ ДЗЕЯСЛОВА | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Лад | абвесны | | | умоўны | загадны |
| Час | цяперашні | будучы | прошлы | | |
| Лік | адзіночны — множны | | | | |
| Асоба | 1-я, 2-я, 3-я | | | | 1-я, 2-я |
| Род | | | м., ж., н. | м., ж., н. | |

***Практыкаванне 23.*** Сярод прапанаваных слоў і словазлучэнняў падкрэслі тыя, якія маглі б стаць простымі дзеяслоўнымі выказнікамі. Адзнач лад дзеяслова.

1. Захапляюся. 2. Будзем вывучаць. 3. Пачалі б будаваць. 4. Давайце прачытаем. 5. Можам пачакаць. 6. Цікавіцца. 7. Цікавы. 8. Не верылі сваім вачам. 9. Не верылася. 10. Любіць. 11. Любіць спяваць. 12. Аматар. 13. Як скрозь зямлю праваліўся. 14. Быў бы. 15. Быў бы ўважлівы. 16. Адпачні. 17. Будзеш адпачываць.

**Падказка**

Складаныя выпадкі выражэння простага дзеяслоўнага выказніка:

1. Дзеяслоў **быць** у значэнні наяўнасці, існавання каго-небудзь (чаго-небудзь). **Быў (не было) у школе.**

2. Формы складанага будучага часу (для дзеясловаў незакончанага трывання). **Будуць падарожнічаць.**

3. Фразеалагізмы, у склад якіх уваходзіць спрагаемая дзеяслоўная форма (можна замяніць адным словам). **Пайшоў да Адама на піва (памёр).**

**Загадка**

Якія з прапанаваных фразеалагізмаў можа быць выкарыстаны як просты дзеяслоўны выказнік?

*Майстар на ўсе рукі. Працаваў не пакладаючы рук.*

## Састаўны дзеяслоўны выказнік

***Практыкаванне 24.*** Выпішы толькі сказы з састаўным дзеяслоўным выказнікам.

1. Сорак пар дапытлівых, цікаўных вачэй глядзелі на маладую настаўніцу (А. Асіпенка). 2. Будзе край любавацца залатым ураджаем (К. Кірэенка). 3. Над клумбай пачала пырхаць мятлушка, залаціста-рудая, з чорнымі закрайкамі крылаў (М. Стральцоў). 4. Хлопец хацеў працаваць на заводзе і адначасова вучыцца ў вячэрняй школе (А. Звонак). 5. Кірмаш быў не дужа вялікі (М. Лынькоў).

**Падказка**

Састаўны дзеяслоўны выказнік




***Практыкаванне 25.*** У сказах простыя дзеяслоўныя выказнікі замяні састаўнымі дзеяслоўнымі. Што зменіцца ў будове і значэнні сказаў?

1. Рыбак выцягнуў вуду з вады. 2. Хлопчык весела смяяўся. 3. Дзяўчаты прыбіралі ў кватэры. 4. Унук напісаў пісьмо бабулі.

**Падказка**




**Загадка**

Што трэба зрабіць, каб у сказе замест састаўнога дзеяслоўнага выказніка з'явіўся састаўны іменны выказнік, а змест выказвання пры гэтым не змяніўся?

*Я гатоў сустракаць гасцей.*

***Практыкаванне 26.*** Вызнач у словазлучэннях спосаб падпарадкавальнай сувязі. Падкрэслі тыя словазлучэнні, якія могуць выкарыстоўвацца ў сказах як састаўныя дзеяслоўныя выказнікі.

Стане студэнтам, пачне займацца, хочацца параіцца, здаецца непераадольным, стараецца навучыцца, лічыцца спецыялістам, збіраецца быць трэнерам, збіраецца трэніравацца, не баіцца знаёміцца, паспявае прабегчы, здольны здзіўляцца, не прывык марудзіць.

**Падказка**

Наяўнасць **інфінітыва**, які заключае ў сабе лексічнае значэнне выказніка, — найважнейшая **апазнавальная прымета састаўнога дзеяслоўнага** выказніка.

***Практыкаванне 27.*** Дакажы, што ў гэтых сказах выкарыстаны састаўныя выказнікі. Чым выражана ў іх дапаможная частка?

1. Ён гарэў жаданнем нашкодзіць каму-небудзь. 2. Усе мелі намер вярнуцца дадому. 3. Прэзідэнт з'явіў жаданне прыняць карэспандэнта. 4. Турысты зрабілі намаганне прайсці яшчэ крыху ўперад.

***Практыкаванне 28.*** Вызнач граматычную аснову сказаў. Пераканайся ў тым, што дапаможная частка выказніка выражана ўстойлівым спалучэннем. Чаму гэта састаўны дзеяслоўны выказнік?

1. Ён быў не ў стане думаць пра свае справы. 2. Мы не мелі намеру шкодзіць каму-небудзь. 3. Усе гарэлі жаданнем вярнуцца ў горад. 4. Дырэктар школы выказаў жаданне прыняць карэспандэнта сталічнай газеты. 5. Маю гонар прадставіць вашай увазе самы каштоўны экспанат нашага музея.

***Практыкаванне 29.*** Стылістычны эксперымент. У сказах 1, 2, 3 з папярэдняга практыкавання замяні дапаможную частку выказніка сінанімічным дзеясловам. Якая з сінанімічных канструкцый мае кніжны характар?

**Даведка**

**Эксперымент (**ад лац. **experimentum — спроба, досвед)** — спроба ажыццявіць што-небудзь, пробнае ажыццяўленне чаго-небудзь.

***Практыкаванне 30.*** Дакажы, што ў наступных сказах інфінітыў выконвае ролю галоўных і даданых членаў сказа. Да чаго адносіцца і на якое пытанне адказвае інфінітыў у кожным выпадку?

1. Ісці праз лес цёмнай ноччу страшна. 2. Брат хацеў сам разабрацца ў сваіх праблемах. 3. Капітан загадаў камандзе пакінуць карабель. 4. Аднакласнікі прыйшлі наведаць свайго хворага сябра. 5. Яго жаданне ўдзельнічаць у алімпіядзе было зразумела.

**Падказка**




**Загадка**

Чаму ў адным з дадзеных сказаў выказнік з'яўляецца састаўным дзеяслоўным, а ў другім — простым дзеяслоўным?

*1. Вучні пачынаюць рыхтавацца да алімпіяды. 2. Вучні будуць рыхтавацца да алімпіяды.*

***Практыкаванне 31.*** Дай пісьмовы адказ на пытанне загадкі. Паспрабуй выкарыстаць у ім састаўныя дзеяслоўныя выказнікі: **можа здацца**, **неабходна ўспомніць**, **імкнуся знайсці** і інш. Для ажыўлення тэксту можаш ужываць пытальныя і пабуджальныя сказы.

## Састаўны іменны выказнік

***Практыкаванне 32.*** Запішы толькі сказы з састаўным іменным выказнікам.

1. Цёмна-цямнютка было навокал (З. Бядуля). 2. Сляпы ад злосці ехаў Глушак мястэчкам (І. Мележ). 3. Паром быў у поўным парадку (М. Лынькоў). 4. Мартын Рыль пачаў расказваць дзеду пра раззбраенне польскага канвою (Я. Колас). 5. Белы пясок паблізу вады быў затканы зялёнымі верасамі (Я. Брыль).

**Падказка**




**Даведка**

Наяўнасць **іменнай часткі** (ад слоў **імя, іменнік** — такую назву раней меў назоўнік) — асноўная **апазнавальная прымета** састаўнога іменнага выказніка.

**Даведка**



***Практыкаванне 33.*** Складзі і запішы тры-чатыры сказы з прапанаванымі фразеалагізмамі ў якасці састаўных іменных выказнікаў.

Быць не ў гуморы, важная птушка, **белая пляма***, **(не)** пa душы, быць не да твару.

**Даведка**

**Белая пляма** — нявырашанае пытанне, праблема, што-небудзь невядомае або незразумелае.

***Практыкаванне 34.*** Чаму некаторыя лінгвісты называюць іменны выказнік, які складаецца толькі з іменнай часткі, простым, а аўтары твайго падручніка вызначаюць яго як састаўны іменны? Якія прычыны для гэтага ёсць у тых і другіх? Якому пункту погляду аддаеш перавагу ты? Пісьмова (або вусна) абгрунтуй сваю думку, пабудуй для гэтага разважанне.

**Падказка**

Схема разважання

**Тэзіс (*асноўная думка*)** — **Доказ** — **Вывад**




***Практыкаванне 35.*** Замяні ў сказе дзеяслоў-звязку **быць** на іншыя: **здавацца**, **звацца**, **уяўляцца**, **стаць**, **лічыцца**. Што і чаму зменіцца ў значэнні выказніка?

Максім быў маім сябрам.

**Даведка**



## Дапасаванне выказніка да дзейніка

***Практыкаванне 36.*** Спішы, устаўляючы прапушчаныя канчаткі дзеясловаў-выказнікаў. У дужках запішы, у чым выказнік дапасуецца да дзейніка. Пастаў прапушчаныя коскі. Растлумач іх пастаноўку.

На паўдарогі ад хаткі Віні-Пуха да хаткі Пятачка был.. ( ____________ ) Задуменнае Месца. Там яны часам сустракал..ся ( ____________ ) калі ім хацел..ся ( ____________ ) убачыцца. Там был.. ( ____________ ) так цёпла і ціха што яны любіл.. ( ____________ ) пасядзець там крышку і падумаць чым бы цяпер заняцца калі яны ўжо ўбачыл..ся ( ____________ ). Аднойчы яны з Пятачком вырашыл.. ( ____________ ) нічым не займацца. Дык чым жа яны займал..ся калі нічым не займал..ся? (Паводле А. Мілна).

***Практыкаванне 37.*** Абгрунтуй дапасаванне выказніка да дзейніка і выбар канчатка.

1. Студэнцтва ўдзельнічал.. ў дэманстрацыі. 2. Большасць прысутных падтрымал.. дырэктара. 3. Большасць насельніцтва часова адселен.. з-за паводкі. 4. Большасць кніг выдадзен.. нядаўна. 5. Некалькі сталоў стаял.. пасярэдзіне класа. 6. Пяць вучняў стаял.. каля кабінета.

**Падказка**

Дзейнік — Выказнік

| Дзейнік | | Выказнік |
|---|---|---|
| Слова з колькасным значэннем + наз. родн. скл. мн. ліку | адушаўл. → | множны лік |
| | неадушаўл. → | адзіночны лік |

*Паводле Д. Разенталя.*

***Практыкаванне 38.*** Запішы сказы, растлумач выбар канчаткаў.

1. Чатыры вялікія лодкі адна за адной чырканул(а, і) насамі па пяску (Я. Брыль). 2. Радасць, шчасце так і пырска(е, юць) з яго вачэй (Я. Маўр). 3. Лётал(а, і) мноства прыгожых стракоз. 4. Шмат хат прытуліл(а, і)ся да сцяны лесу (К. Чорны). 5. Сабрал(а, і)ся чалавек каля дваццаці (П. Галавач).

***Практыкаванне 39.*** Знайдзі ў сказах памылкі ў дапасаванні выказніка да дзейніка. Запішы правільны варыянт.

*Усе тры дыктоўкі напісана без памылак. — Усе тры дыктоўкі напісаны без памылак.*

1. Моладзь любілі сустракацца на беразе возера. 2. Група дзяцей паехалі ў лагер. 3. Група мужчын прыселі каля стога. 4. Чатыры коннікі замыкала абоз. 5. Частка крывічоў пабудавалі свае гарадзішчы на берагах Дзвіны. 6. Два камандзіры ехала наперадзе.

## Працяжнік паміж дзейнікам і выказнікам. Сувязь выказніка з дзейнікам. «След зніклай звязкі»

***Практыкаванне 40.*** Змяні дадзены сказ так, каб у ім з'явіўся працяжнік. У абодвух выпадках падкрэслі дзейнік і выказнік.

Паэзія быццам жыватворнае святло, якое дапамагае расці не толькі вершам, але і кветкам (В. Матэвушаў).

**Падказка**

Працяжнік паміж дзейнікам і выказнікам




***Практыкаванне 41.*** Гульня «Хто такі? Што такое?». Пісьмова адкажы на пытанні так, каб у пабудаваных табой сказах стаяў працяжнік.

1. Што такое гіпербала? 2. Што такое SMS? 3. Хто такі Лабановіч? 4. Хто такі Кастусь Каліноўскі? 5. Што такое «Слова аб палку Ігаравым?» 6. Хто такі Уладзімір Арлоў? 7. Хто такі Напалеон Орда?

**Загадка**

Дзе ў гэтым сказе дзейнік, а дзе — выказнік?
*Гэты доктар — цудоўны чалавек.*

**Падказка**

Пры адрозненні дзейніка і выказніка могуць узнікнуць пэўныя цяжкасці. У гэтым выпадку можна карыстацца такім прыёмам: назоўнік-выказнік можна замяніць творным склонам, а дзейнік нельга.

***Практыкаванне 42.*** Падкрэслі дзейнік і выказнік у дадзеных сказах. Што можна сказаць аб парадку слоў у гэтых сказах? Які знак прыпынку трэба паставіць?

1. Наш гонар новы парк. 2. Сябры чалавека кнігі. 3. Прыкмета вясны прылёт гракоў. 4. Мой брат выдатны шахматыст. 5. Радасць і бяда сябра бяда і радасць для цябе.

***Практыкаванне 43.*** Спішы сказы, падкрэслі дзейнік і выказнік. Адзнач, якімі часцінамі мовы яны выражаны. Пастаў, дзе неабходна, працяжнік.

1. Дзяцінства свет непаўторны і не падобны ні на што ў тваім далейшым жыцці. 2. Вясною сонца цяплей. 3. Аснова і танца, і верша рытм. 4. Восень самая любімая мною пара. 5. Сямнаццаць год час заканчэння школы. 6. Дзіцячая душа чыстая крыніца з крыштальнай вадою. 7. Рака пачынаецца з вытоку.

**Загадка**

Дзе можна знайсці сто прыкладаў на пастаноўку працяжніка паміж дзейнікам і выказнікам, калі яны выражаны лічэбнікамі?

**Падказка**

Працяжнік паміж дзейнікам і выказнікам перад **часціцамі***




**Даведка**

***Часціцы** ўваходзяць у склад выказніка.
**Гэта не адносіцца да інфінітыва.
*****Як, нібы, быццам** можна назваць і злучнікамі.

***Практыкаванне 44.*** Растлумач, чаму ў дадзеных сказах ставіцца або не ставіцца працяжнік. У якім сказе коскай выдзяляецца параўнальны зварот?

1. Сэрца не камень. 2. Сняжынкі зіхацелі на сонцы як дыяменты. 3. Жыццё пражыць не поле перайсці. 4. Месяц сёння быццам тонкі серп. 5. Вада ў возеры перад навальніцай як ртуць. 6. Мама для мяне дарадца і сябар. 7. Страх не дарадца. 8. Ён выдатны аратар.

***Паразважаем!*** Як ты лічыш, ці можна паставіць працяжнік у сказе *Ён выдатны аратар*? Аказваецца, можна, але пры наступнай умове: калі на займеннік-дзейнік падае лагічны націск (павышэнне голасу і вялікая паўза пасля слова), то працяжнік паміж дзейнікам і выказнікам можа быць пастаўлены. У асобных выпадках па той жа прычыне ставіцца працяжнік і перад часціцамі **не** і **як**.

*Паводле Д. Разенталя*

## III. Галоўныя члены сказа ў маўленні

***Практыкаванне 45.*** Спішы, пастаў прапушчаныя знакі прыпынку. Падкрэслі граматычную аснову сказаў.

Алгарытм паслядоўнае выкананне дзеянняў, якое прыводзіць да рашэння пэўнай задачы. Сказ сэнсава граматычна інтанацыйна аформленая сінтаксічная адзінка, у якой выражаецца закончаная думка.

**Падказка**

Сказы, у якіх ёсць састаўны іменны выказнік з нулявой звязкай, шырока выкарыстоўваюцца ў навуковым стылі для тлумачэння навуковых паняццяў і тэрмінаў.

***Практыкаванне 46.*** Запішы тлумачэнне слова **тэрмін**, а таксама азначэнне двух тэрмінаў па матэматыцы, біялогіі, фізіцы ці любога іншага прадмета школьнай праграмы.

**Загадка**

Чаму тлумачэнне слова, якое даў адзін з вучняў, з'яўляецца няправільным? Параўнай яго з адпаведным артыкулам у тлумачальным слоўніку.

*Лыжка — прадмет, якім пастаянна карыстаецца чалавек.*

**Падказка**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Крок I. | Задаць пытанне «што такое?» | → | назваць род паняцця, г. зн. разрад, у які ўваходзіць дадзенае паняцце |
| Крок II. | Задаць пытанне «чым, якімі прыметамі яно адрозніваецца ад іншых таго ж роду?» | → | указаць адметныя прыметы паняцця |

***Практыкаванне 47.*** Запішы родавыя паняцці для наступных паняццяў.

1. Назоўнік —
2. Дзейнік —
3. Гук [а] —
4. Мяккі знак —
5. Працяжнік —

***Практыкаванне 48.*** Перад табой — жартоўнае тлумачэнне слоў, так званы «этымалагічны (параўн. **этымалогія***) слоўнік». Гумар заключаецца ў тым, што няправільнае тлумачэнне слоў уяўляецца як праўдападобнае. На чым гэта заснавана? Запішы правільнае тлумачэнне двух-трох дадзеных слоў або прыдумай некалькі жартоўных тлумачэнняў для іншых слоў.

Грэчка — грамадзянка Рэспублікі Грэцыя.
Пеньюар — рэшткі ад спіленага дрэва ў ЮАР.
Феномен — мужчына, які карыстаецца фенам.
Утапіст — тапелец.
Таксін — вадзіцель таксі.

**Даведка**

***Этымалогія** (ад грэч. **etymon** — **ісціна** + **logos** — **вучэнне**) — раздзел мовазнаўства, які вывучае паходжанне слоў.

***Паразважаем*** пра тое, што некаторыя дзеясловы-звязкі ўносяць у сказ, у тэкст розныя адценні значэнняў. Тут самая непрыкметная — роля дзеяслова **быць**: ён проста канстатуе час дзеяння, яго магчымасць або непажаданасць. Звязка **станавіцца** прыўносіць значэнне працэсу, развіцця, а дзеяслоў **стаць** можа прывесці нас да выніку. Дзеяслоў **лічыцца** дадасць адценне і ўпэўненасці, і недаверу... Але самы выдатны дзеяслоў — **здавацца**: ён перадае чые-небудзь уражанні аб прадмеце, і мы быццам далучаемся да думак, пачуццяў аўтара, яго ўяўлення. Гэта проста чарадзейны дзеяслоў (*Г. Я. Брусіна*).

***Практыкаванне 49.*** Складзі сказы з выдзеленымі ў папярэднім тэксце дзеясловамі. Вусна правядзі стылістычны эксперымент: паспрабуй звязку **здавацца** замяніць звязкай **быць**. Ці можна гэта зрабіць і пры гэтым захаваць адценне метафарычнага, пераноснага значэння, якое маюць гэтыя выказнікі?

У з о р: Зблізку ўсё здавалася амаль чорнай завесай.

**Загадка**

Якая маўленчая памылка дапушчана ў гэтым сказе?

*Нам вельмі спадабалася выступленне гэтага спевака, мы былі проста шакіраваны*.*

**Даведка**

***Шакіраваць** — паставіць у няёмкае становішча, выклікаць неприемныя адчуванні, звязаныя з незахаваннем агульнапрынятых нормаў прыстойнасці.

### Заданні для самастойнай працы

1. Адзнач правільнае сцвярджэнне:

а) просты сказ мае адну граматычную аснову;

б) двухсастаўныя сказы маюць два саставы — састаў дзейніка і састаў выказніка;

в) сказ, які складаецца толькі з галоўных членаў, называецца развітым;

г) аднасастаўныя сказы маюць адзін састаў — састаў дзейніка або састаў выказніка.

2. Якія з пералічаных членаў сказа не з'яўляюцца даданымі?

Дапаўненне, дзейнік, азначэнне, акалічнасць, выказнік.

# *ДАДАНЫЯ ЧЛЕНЫ СКАЗА*

## I. Разнастайнасць даданых членаў сказа

### Мнагазначныя члены сказа

**Загадка**

Чаму даданыя члены сказа называюцца даданымі?

***Практыкаванне 1.*** Адзін з наступных сказаў разгарні па ўзоры даданымі членамі, якія адносяцца: 1) спачатку да дзейніка; 2) затым да выказніка; 3) далей да даданых членаў сказа. Падкрэслі члены сказа, якія разгортваюць (развіваюць) сказ.

У з о р. Ляцелі птушкі. — 1. Ляцелі пералётныя птушкі. 2. Над возерам ляцелі пералётныя птушкі. 3. Над лясным возерам ляцелі

напалоханыя непагодай пералётныя птушкі. 4. Над лясным возерам ляцелі напалоханыя пералётныя птушкі. 5. Над лясным возерам ляцелі напалоханыя непагодай пералётныя птушкі.

Ідзе дождж. Шуміць горад. Вокны свецяцца.

Ці ўсе магчымасці развіцця сказа выкарыстаны ва ўзоры?

### Даведка

Парадак разбору па членах сказа:
1) граматычная аснова;
2) састаў дзейніка;
3) састаў выказніка.

### Падказка

**Складаючы сказы, працуючы над сачыненнем, старайся выкарыстоўваць усе спосабы разгортвання (развіцця) дзейніка, выказніка і даданых членаў сказа.**

***Практыкаванне 2.*** Разгледзьце схематычны запіс сказа. Упішыце тыя пытанні, якія паказваюць сувязь слоў у сказе. Запішыце сказ, падкрэсліце ў ім члены сказа. Склад (састаў дзейніка і састаў выказніка) можна падкрэсліць рознымі колерамі.




***Паразважаем!*** У якім сэнсе і чаму даданыя члены сказа «даданыя» (параўнайце з рускім тэрмінам «второстепенные»)? Часта сустракаюцца выпадкі, калі для сэнсу выказвання найбольшую вагу маюць іменна даданыя члены сказа. Параўнаем два сказы: *Смяяцца гучна ў грамадскім транспарце непрыстойна. Смяяцца непрыстойна.* Даданыя яны па адносінах да граматычнага значэння прэдыкатыўнасці, у фарміраванні якога не ўдзельнічаюць, і ў гэтым супрацьпастаўлены галоўным членам.

*Паводле А. Купалавай.*

***Практыкаванне 3.*** Двайным падкрэсліваннем пакажы мнагазначныя члены сказа.

Сонца ў пушчы глыбокай купаецца
і ніяк не дастане да дна...
*У. Дубоўка.*

Спіць, стаміўшыся, вецер
Ля імшарнай крыніцы.
*М. Танк.*

Сакавік наступае,
З плеч кажух свой скідае.
*М. Танк.*

**Падказка**




***Практыкаванне 4.*** Прачытай тэкст. Спішы, устаўляючы прапушчаныя літары і раскрываючы дужкі. Падкрэслі граматычныя асновы, вызнач тып выказніка. Падкрэслі таксама тыя даданыя члены сказа, якія дапамагаюць уявіць намаляваную аўтарам карціну. Абазнач, якімі часцінамі мовы яны выражаны.

**Дзьмухаўцы**

Яшчэ некалькі дзён назад усё навако..е свяцілася жоўтымі сон..йкамі адуванчыкаў. Але вось пракацілася хваля холад.., і літаральна за тры-чатыры дн.. ўсё рэзка змянілася: луг.., паплав.., падворк.. заб..лелі ад шарыкаў дзьмухаўцоў. На сонцы яны адлівалі серабром і паварушвалі галоўкамі. Як толькі ўзмацніўся вецер, шарыкі пачалі разрывацца і з кожнай сцяблінкі (у) паветра ўзмылі парашуцікі: адны апускаліся тут (жа) побач, другія праносіліся далей, трэ..ія ўздымаліся (у) верх. І кожная насенінка, што прыладзілася на парашуціку, шукала месца, каб прыз..мліцца і прарасці, а наступнай вясной успыхнуць новым жоўтым сонейкам. І толькі сцяблінкі дзьмухаўцоў сумнаківалі ім (у) след сваімі аблысеўшымі галоўкамі.

*С. Нефідовіч.*

**Даведка**




## II. Віды даданых членаў сказа

### Дапасаваныя і недапасаваныя азначэнні

**Загадка**

Чаму дапасаваныя і недапасаваныя азначэнні называюцца імен-на так?

***Практыкаванне 5.*** Вызнач, чым выражаны і якім спосабам сувязі спалучаюцца словы ў наступных словазлучэннях. Чаму залежныя словы ва ўсіх словазлучэннях могуць быць у сказе азначэннямі? Якія з іх могуць быць і дапаўненнямі?

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Паласатая тканіна | (прым. + наз., дапас.) |
| | тканіна ў палоску | ( ) |
| 2. | Горныя вяршыні | ( ) |
| | вяршыні гор | ( ) |
| 3. | Дадзенае абяцанне | ( ) |
| | абяцанне дапамагчы | ( ) |
| 4. | Вялікі аграгарадок | ( ) |
| | (ёсць) аграгарадок большы | ( ) |

**Падказка**




***Практыкаванне 6.*** Да наступных слоў падбяры 5—6 недапасаваных азначэнняў разнастайнага характару. Вызнач, чым яны выражаны.

1. Малюнак — яго (займеннік, родн. скл.).
2. Будынак — насупраць (прыслоўе).

Ці можна некаторыя недапасаваныя азначэнні замяніць дапасаванымі?

***Практыкаванне 7.*** Наступныя словазлучэнні з недапасаванымі азначэннямі замяні словазлучэннямі з дапасаванымі азначэннямі. Вызнач, якія прыметнікі якасныя, а якія адносныя. Абазнач суфіксы ў прыметніках і растлумач іх правапіс.

Збанок з гліны, са шкла —
Пярсцёнак са срэбра —
Пасак са скуры —
Поле бульбы —
Сок журавін, гарбуза —
Надвор'е з ветрам —
Дзень без ветру —
Спецыяліст высокай кваліфікацыі —
Рой пчол —
Шчэбет вераб'я —

**Загадка**

Ці аднолькавым членам сказа з'яўляецца выраз «з рукзакамі» у двух наступных сказах?

*1. Васьмікласнікі накіраваліся ў паход з рукзакамі за плячыма.*

*2. Хлопчыкі з рукзакамі перашкаджалі пасажырам заходзіць у аўтобус.*

***Практыкаванне 8.*** У якім з наступных сказаў прыметнікі (дзееприметнікі) з'яўляюцца часткай састаўнога іменнага выказніка, а ў якіх азначэннямі? Дапасаваныя азначэнні пазначце літарай **д**, недапасаваныя — **н**. Якія словы могуць быць і азначэннямі, і дапаўненнямі?

1. Яна ў кароткай-кароткай спадніцы ішла паўз шашу, а ён у доўгім-доўгім прычэпе вёз дровы. 2. Святло маёй лямпы ўпала на флікер у выглядзе лялькі Барбі (А. Хадановіч). 3. Настасся выходзіць павесялеўшая, паружавелая, у чырвоным халаце. 4. Ад плошчы разыходзяцца доўгія вуліцы, незаасфальтаваныя, з драўлянымі ходнікамі, з прасторнымі дварамі, садамі і агародамі.

## Прыдатак

***Практыкаванне 9.*** У чым падабенства і ў чым адрозненне аднакарэнных слоў у наступных словазлучэннях?

белы снег заяц-бяляк

**Падказка**



***Практыкаванне 10.*** Па якой прымеце характарызуецца камар?

1. Прама нада мной звінелі, цэлым роем таўклі мак камары. Я не асцерагаўся іх, бо ведаў, што камары-званцы ў адрозненне ад таўкунчыкаў, якія не звіняць, калі мак таўкуць, не кусаюцца (П. Галавач).

***Практыкаванне 11.*** Запішы прыдаткі, якія характарызуюць прыметы названых прадметаў і жывёл у казках.

| | |
|---|---|
| гуслі- | каток- |
| боты- | камарык- |
| кот- | мушка- |
| рак- | лісіца- |
| дзед- | бычок- |

**Падказка**




***Практыкаваннне 12.*** Спішы сказы, падкрэслі хвалістай лініяй прыдаткі. Вызнач, што яны абазначаюць.

1. Стралой прамільгне ў зарасніку беланогі прыгажун лось (В. Вольскі). 2. На кожнай галінцы маладзенькай елкі віднеюцца ярка-жоўтыя кветкі-ліхтарыкі (А. Куляшоў). 3. Далёка разліваецца Бяроза-рака ўвесну (М. Ваданосаў). 4. Пасярод векавых дубоў ураслі ў зямлю два вялікія камяні-валуны (П. Прыходзька). 5. За дарогай, за прысадамі млын грукоча гулам-гоманам (С. Шушкевіч). 6. Аказалася, лісток зачапіўся за павуцінне, наснаванае між сасонкамі павуком-крыжавіком (Р. Ігнаценка). 7. Вільготная свежасць паветра настоена водарам начных прыгажунь — белых фіялак (А. Бутэвіч). 8. У маладой прыгажуні сасонкі дзік падкапаў карэнні, і яны апынуліся на паверхні зямлі (У. Мяжэвіч).

**Загадка**

Колькі тут прыдаткаў? Па якой прымеце характарызуюцца дрэвы?

*У Белавежы-пушчы са шляху не збіцца: тут і сосны-мачты, і дубы-тубыльцы, і асілкі-грабы ў роздуме глыбокім, і плывуць над імі лёгкія аблокі. Між дзяўчат-бярозак чырванее ясень.*

*Я. Пушча.*

***Практыкаванне 13.*** Прачытай наступныя сказы. Выпішы назоўнікі з прыдаткамі, растлумач выкарыстанне злучка.

**А)** Аб нашых спрэчках да зары ўсе знаюць: ночка-змоўшчыца і зоры, што ў крутым віры крынічанькі палошчуцца (М. Танк). Чарнамазая ночка-цыганка над далінаю жмурыла бровы (П. Трус). Ночка-чараўніца! Як ты ціха, міла! Як ты многа думак ў сэрцы нарадзіла (Я. Колас). Ноч-чараўніца! Таемнасці вечнай краса! З неба глядзіш… (К. Буйло).

**Б)** У садзіку ля крымскіх стромаў павеяла вясной-вяснянкай (Е. Лось). А вясна-жартаўніца, бы знарок, як сыпне рой бялёсых пялёсткаў мне на стол… (А. Бачыла). Вясна-красна наўкол загуляла ліха (А. Звонак). У песнях радасці прыйшла вясна-краса (А. Александровіч). Глуха лес маўчыць, думку думае… Па вясне-красе, залатой пары (Я. Колас). Вясна-красуня ў бубен б'е (А. Александровіч). Засвяціла цяпло бляскам радасці яснай… Бачым светласць кругом, бачым сонца-вясну! (Я. Купала). Я пакораны ўладай тваёй, чараўніца вясна, першым буйным дажджом, першым грукатам перуна (А. Звонак). І новыя песні ў народзе звінелі, як голас вясны-юначкі.

**В)** А восень-ключніца ідзе такою ціхаю хадою (П. Броўка). І з кожнай лісцевай галоўкі глядзіць твар восені-свякроўкі (Я. Колас). За летам была свята-восень (І. Мележ).

***Практыкаванне 14.*** Прачытай наступны тэкст. Вызнач яго тэму і асноўную думку, стыль і тып тэксту. Сваю думку абгрунтуй.

### Моўны код разумення сусвету

Каб дасканала зразумець, што ў кожнай мове ёсць свая душа, свой непаўторны, не падобны на іншыя погляд на разуменне сусвету, у якім закадзіравана неабходная менавіта для гэтага народа інфармацыя, якая дапаможа яму не толькі выжыць, але і зрабіць сваё жыццё лепшым, можна прааналізаваць прыклад з аднолькавымі па гучанні словамі.

Вось слова, якое, на першы погляд, у абодвух варыянтах не мае аніякага адрознення — *зіма*. **Зима** па-руску, **зіма** па-беларуску. Але давайце глянем, якія эпітэты надаў рускі народ сваёй **зиме**: *зимушка-зима*, *зима-красавица*, *матушка-зима*, *зима-колдунья*, *кудесница*, *долгожданная*, *хранительница* і г. д. У беларускай мове, ні ў фальклоры, ні ў літаратурнай мове, ні ў гутарковай, падобныя эпітэты да слова **зіма** не ўжываюцца. Тут мы сустракаем зусім адваротнае ўспрыманне: **зіма** *халодная*, *нягодная*, *сварлівая*, *праклятая*, *нікому не патрэбная*, *злая*...

Відавочна, што беларускамоўныя і рускамоўныя людзі, калі згадваюць пра зіму, гавораць не пра адно і тое ж, а пра дзве зусім розныя з'явы. Гэта і зразумела: мову на працягу доўгіх вякоў ствараў і ўдасканальваў сам народ. У тыя часы, калі ў рускую мову закладвалася інфармацыйнае разуменне слова **зима**, рускі народ чакаў зіму як збавіцеля. Мала які вораг мог прыйсці ўзімку праз іх заснежаныя лясы. Гэта значыць, што можна было перавесці дух і пражыць гэты час без страху. Вось і назвалі зіму ў рускай мове **желанной**. Багатыя на жыўнасць лясы заўсёды маглі пракарміць, а зімой па снезе і звера лягчэй высачыць. Сам па сабе народ фізічна ўстойлівы да маразоў, непатрабавальны. Зіма цалкам адпавядала патрэбам і светапогляду рускага чалавека, таму і зафіксаваў ён у сваёй мове гэтую з'яву так, а не інакш. Але самае галоўнае — гэта існуючая рэчаіснасць. Народ удасканальваў сваю мову пад уплывам існуючай рэчаіснасці, адлюстроўваў у ёй сусвет такім, якім сам яго бачыў.

Ці мог беларус, які жыў пры халодных, вільготных і сырых балтыйскіх вятрах (існуючая рэчаіснасць, якой не было на рускіх землях), адлюстраваць зіму ў сваёй мове так, як рускі? Безумоўна, не. На беларускай зямлі, дзе з даўніх часоў перакрыжоўваліся інтарэсы ўсходу і захаду, поўначы і поўдня, зіма не магла ратаваць людзей і ад вайны. Наадварот, летам можна было адсядзецца ў балотах, якіх было мноства. Зімой яны замярзалі і паратунку шукаць не было дзе. Беларускі народ, сам па сабе працавіты, руплівы, не баяўся цяжкай летняй працы, заўсёды імкнуўся жыць багацей, лепш. Не чакаў гэты народ зімы як збавіцелькі і адлюстраваў яе ў сваёй мове адпаведна. На вёсках па сённяшні дзень старыя людзі гавораць: «Добра ў нас, прыгожа, хораша, але каб зімы не было, было б яшчэ лепш».

Родная мова падсвядома падказвае, што, як і калі трэба рабіць, чужынская мова заўсёды ўводзіць у зман, даючы неадпаведную інфармацыю. Беларускамоўны чалавек успрымае зіму зусім не так,

як рускамоўны, хоць па гучанні гэтыя словы ідэнтычныя. Да адной і той жа з'явы ў іх рознае стаўленне. І кожнаму з гэтых народаў яго мова дае правільнае тлумачэнне, правільнае толькі для свайго народа і памылковае для іншых. Тым самым мова засцерагае свой народ ад асіміляцыі, змешвання і знікнення. Хто можа сказаць, як неабходна дзейнічаць чалавеку, які вырас у спрыяльных, добрых умовах, быў дагледжаны і абаронены ад непрыемнасцей бацькамі і які раптам трапіў у экстрэмальную сітуацыю? Толькі яго родная мова, у якой закладзены код разумення свету, дзе і змяшчаюцца правільныя адказы. Чужынская мова ашукае яго. Кожная мова мае свой уласны, непаўторны, не падобны на іншыя код разумення свету. Па духу сваім яна не падобная на іншыя мовы і адпавядае цалкам і беспамылкова толькі свайму народу. Светапогляду кожнага народа адпавядае толькі яго родная мова, якая нясе адпаведны код разумення свету. Кожны народ адрозніваецца ад іншых тым, што не так, як яны, а па-свойму ўспрымае сусвет. Правільны код гэтага ўспрымання закладзены ў яго роднай мове.

*Паводле В. Сазонава.*

***Практыкаванне 15.*** Прачытай наступныя радкі. Назаві азначэнні і прыдаткі. Якую ролю яны выконваюць у стварэнні вобраза зімы?

На прасторах зіма-чараўніца
Лебядзіны рассыпала пух,
Красіць твары, як сонца суніцы,
Ветрам колкім захлупвае дух.

*Я. Золак.*

...Вясна, восень, зіма... Да назваў гэтых часін года, як ты мог пераканацца, выконваючы папярэдняе практыкаванне, далучаюцца прыдаткі «чараўніца», «жартаўніца», «свякроўка» і інш. Вымаві адзін з гэтых выразаў на выбар, адчуй яго метафарычны сэнс. Якія малюнкі, вобразы ўзнікаюць перад табою? Напішы эцюд пра адну з пораў года, пра чароўныя пераўтварэнні ў прыродзе. Выкарыстоўвай азначэнні розных відаў, улічваючы моўную карціну свету беларусаў.

***Практыкаванне 16.*** Прачытай тэкст. Растлумач напісанне слоў з вялікай літары і пастаноўку злучка пры прыдатках.

Вароты лясной сядзібы вартуюць у Зюзі Лесавікі-Палявікі. А ў хаце-цераме дапамагаюць Чараўніца Зіма, ліхая Баба Напасць, Жыжаль, іншыя персанажы беларускай міфалогіі. І ўсе яны

чакаюць снегу, сапраўднай зімы, але найбольш чакаюць гасцей і тых, хто пабываў тут у мінулыя святы і застаўся вельмі задаволеным, і новых — з усёй Беларусі…

*З газеты «Звязда».*

**Даведка**

Прыдатак пры наяўнасці двух назоўнікаў

агульны + уласны ⟵ асоба

агульны + уласны ⟵ прадмет

паэт Анатоль Сыс, возера Свіцязь

***Практыкаванне 17.*** Знайдзі «пятае лішняе». Не з'яўляецца прыдаткам…

Цётка Васіліна, ААП «Камунарка», ночка-цыганка, раман-газета, бяроза-красуня.

## Дапаўненне

***Практыкаванне 18.*** Колькі дапаўненняў у вершы М. Сіскевіча-Нарачанскага? Вызнач склон назоўнікаў, якімі яны выражаны.

Не шкадуйце, не шкадуйце
Пекнай фарбы, мастакі!
Дом сялянскі намалюйце
З весніцамі да ракі.
Намалюйце і лужочак,
Красак ліпеньскіх красу
І падстрэшкавы куточак…

У адной карціне гэтай
Увасобце лета пах,
Водар лугу, зорнасць кветак
І сунічны пах ранетаў,
Бохан хлеба на руках;
Як красуе ўлетку жыта,
Рыба плешчацца ў рацэ…

Пераканайся, што дапаўненне выконвае важную ролю ў тэксце: дапаўняючы дзеясловы-выказнікі, яно раскрывае, удакладняе сэнс выказвання.

Звярні ўвагу на пастаноўку кропкі з коскай у апошнім сказе. Якую функцыю выконвае гэты знак прыпынку?

Якую карціну, намаляваную таленавітым мастаком, хацелася б табе ўбачыць? Выкажы гэтую думку, выкарыстаўшы просты сказ, ускладнены аднароднымі развітымі дапаўненнямі.

**Даведка**




***Практыкаванне 19.*** Запішы, раскрываючы дужкі і ўстаўляючы прапушчаныя літары. Падкрэслі дзейнікі і дапаўненні. Чаму іх складана адрозніць?

1. Сустрэць ноч гатова прырода. 2. В..сло неўзабаве кранула пясчанае дно. 3. Майстар рамантуе камп'ют..р. 4. Сын а..мыкае ключом д..веры, хавае ключ у кішэню. 5. Бабуля вучыла ўнучку пячы торт. 6. Крот пракапаў хо.. падградою з буракамі. 7. (З) вечара снег мацаваў даволі моцны марозік. 8. Цесныя, абгароджаныя яловым даўгавечным частаколам гародчыкі заглушаў бэз.

**Падказка**

Што дапаможа вызначыць, дзе дзейнік, а дзе дапаўненне, калі дапаўненне выражана назоўнікам, у якога формы назоўнага і вінавальнага склонаў супадаюць? Канечне ж, сэнс выказвання: дзейнік звычайна стаіць на першым месцы, пачынае сказ. Але гэтага бывае недастаткова, асабліва калі ў сказе адваротны парадак слоў. Тады паспрабуй выкарыстаць спосаб падстаноўкі: замяні слова, якое выклікае сумненні, словам жаночага роду, у якога вінавальны склон не супадае з назоўным: *пячы торт* — *пячы булку*. Рабіць гэта можна і жартам — *«пячы песню»*.

*Паводле А. Хазанавай і С. Цвайг.*

**Даведка**

Дапаўненні, якія выражаны назоўнікам у форме вінавальнага склону без прыназоўніка або роднага склону без прыназоўніка, калі пры дзеяслове стаіць адмоўе **не** ці дзеянне накіравана не на ўвесь прадмет, а толькі на яго частку, і адносяцца да пераходнага

дзеяслова, называюцца **прамымі**. Калі для выражэння дапаўнення ўжыты назоўнік у любым іншым ускосным склоне ці назоўнік з прыназоўнікам, дапаўненне называюць **ускосным**.

**Загадка**

Які варыянт больш прыдатны?
*1. Мікола не чуў гэту песню. 2. Мікола не чуў гэтай песні.*

***Практыкаванне 20.*** Вызнач, калі інфінітыў з'яўляецца часткай выказніка, а калі дапаўненнем ці акалічнасцю. Падумай, у якіх сказах дзеянне, выражанае выказнікам, выконвае адна асоба, а ў якіх — розныя асобы.

1. Хвораму рэкамендавана больш гуляць на свежым паветры (дзве асобы).
2. Выпускнікі мінулага года хочуць сустрэцца з любімымі настаўнікамі.
3. Сяброўка запрасіла нас на дзень народзін.
4. Бабуля папрасіла ўнучку схадзіць да суседкі.
5. Кіраўнік гуртка параіў васьмікласнікам запісаць свае ўражанні пасля прагляду спектакля.
6. Адміністрацыя вакзала хоча забараніць прыпынак насупраць увахода.

**Даведка**

У ролі дапаўнення часта выступае інфінітыў, які называецца **аб'ектным**. Такі інфінітыў абазначае дзеянне не суб'екта-дзейніка, а іншай асобы: *Пасля такога паказання вайсковец выйшаў у сенцы і загадаў **сядлаць** коней, а палоннага Ярмалінскага **весці** ў горад* (К. Чорны) (= ***загадаў*** вайсковец, а ***сядлаць*** *коней*, ***весці*** *Ярмалінскага ў горад* павінны іншыя).

*Паводле В. В. Маршэўскай.*

***Практыкаванне 21.*** Запішы сказы, у якіх ёсць дапаўненні, падкрэслі іх, вызнач, чым яны выражаюцца.

1. Памяць гартае адвечны мудры каляндар прыроды, і кожная дробязь ажывае, хвалюе (А. Вялюгін). 2. Вясной на золку і вечарам дзяцел слухаў звонкія песні драздоў, івалгі і пералівы салаўя (Я. Зазека). 3. Хораша глядзяцца імхі. На дрэвах, на пнях, на каранях вываратняў яны, зацярушаныя снегам, здаюцца аксамітнымі (Я. Пархута). 4. На адным з адгор'яў Мінскага ўзвышша знаходзіцца лагчына з невялічкім балотцам на паўтара гектара (З. Бядуля).

5. На паляне, дзе я цяпер ляжу, некалькі дзён назад, калі яна перад дажджамі была таксама сонечная, я пачуў здалёк музыку Грыга. Я пазнаў яго: гучала чароўная песня Сольвейг (Я. Брыль). 6. І хоць Алесю ў той час не хацелася піць, ён нахіліўся, і прыемны халадок асвяжыў яго (Я. Брыль). 7. Дзед загадаў малым ісці наперадзе (Я. Брыль). 8. З дзяцінства ён палюбіў прыроду, навучыўся сэрцам адчуваць яе таямніцы і хараство (І. Навуменка).

***Практыкаванне 22.*** У наступных сказах знайдзі і выпраў памылкі ў кіраванні і дапасаванні (граматычныя памылкі).

1. Хлопчык *перажываў аб спазненні* вячэрняй электрычкі (перажываў за спазненне).
2. Ядвіся рэзка адрознівалася сярод сваіх равесніц.
3. Спартсмен быў упэўнены ў сваю перамогу.
4. Пры пераходзе дарогі патрэбна ўлічваць аб усім.

***Практыкаванне 23.*** Выканай сінтаксічны разбор сказа. Якую ролю выконваюць дапаўненні ў сказе?

Лугам у красках, заваблівым возерам,
Полем жытнёвым і раем бярозавым,
Зорным яшчэ серабром альбо золатам
Быў я адораны ў свеце расколатым.

*Б. Спрынчан.*

## Акалічнасць

***Практыкаванне 24.*** Прачытай верш. Вызнач, да якіх часцін мовы адносяцца і якімі членамі сказа з'яўляюцца выдзеленыя словы.

Рассыпае вецер зоркі **ў паднябессі**,
Напявае вецер **ледзьве чутна** песню,
І вяслуе месяц **на** дрыготкіх **хвалях**,
**Недзе ля каліны** ты мяне чакаеш.

Засцілае вечар сцежкі цішынёю,
Засынае вецер **недзе за ракою**,
І туман бялюткі сцелецца **паволі**.
**Сцежкай** вечаровай крочым мы з табою.

Раскрывае вечар казкі-таямніцы,
І адносіць вецер водар медуніцы.
І ад слоў гарачых сэрца **так** заб'ецца.
Вось яно каханне — нам не падаецца!

*Н. Цвірко.*

***Практыкаванне 25.*** Запішы сказы, падкрэслі акалічнасці. Па пытанні, на якое яны адказваюць, вызнач іх значэнне.

1. Адгрымелі ноччу навальніцы, птушак пазванчэлі галасы (П. Панчанка). 2. Нягледзячы на позні час, спаць не хацелася (М. Лынькоў). 3. З недалёкага куста ўзнялася сарока, спалохана застракатала, паляцела ў лес расказаць пра ўсё, што чула і бачыла (Л. Левановіч).

**Падказка**

Часам бывае цяжка размежаваць акалічнасць і дапаўненне, акалічнасць і азначэнне. Варта карыстацца ў такім выпадку наступнымі крытэрыямі:

1) калі на першы план выступае прадметнае значэнне, ускосна-склонавыя формы назоўнікаў з'яўляюцца дапаўненнямі: *Плывуць* (*над чым?*) над лесам *хмары нізка*; калі пераважае прасторавае значэнне — акалічнасцямі: *Разведчык-месяц* (*адкуль?*) з хмараў *выглядае* (Л. Геніюш);

2) калі склонавае і сэнсавае пытанні да ўскосна-склонавых формаў назоўнікаў супадаюць — дапаўненні, не супадаюць — акалічнасці: *Я вельмі люблю хадзіць* па *асеннім* лесе (склонавае пытанне *па чым?*, сэнсавае пытанне *дзе?*, значыць, *па лесе* — акалічнасць); *Зімою, гледзячы на заснежаную вуліцу, я сумую* па *асеннім* лесе (склонавае і сэнсавае пытанні супадаюць: па чым?, значыць, *па лесе* — дапаўненне);

3) пры аддзеяслоўных назоўніках ускосныя формы назоўнікаў, калі абазначаюць месца, напрамак дзеяння, — акалічнасці, у іншым выпадку — азначэнні: *Першы выезд* у лес *на санях* (Я. Брыль); *Клічуць багата асветленыя ўваходы тэатраў, палацаў культуры, кіно* (Т. Хадкевіч).

*В. В. Маршэўская.*

***Практыкаванне 26.*** Спішы сказы. Вызнач сінтаксічную ролю выдзеленых слоў.

1. **На працягу** гэтай ночы ніхто ў хаце не заснуў ні на хвілінку. 2. Пра далейшы лёс гераіні мы даведаемся **з працягу** аповесці. 3. Імшары — гэта зарослыя **на працягу** тысячагоддзяў азёры. 4. **Уздоўж** дарогі раслі векавыя ліпы. 5. Пакладзіце жэрдкі **ўздоўж**. 6. **Побач** з домам быў аўтобусны прыпынак. 7. Сядзь са мною **побач**.

***Практыкаванне 27.*** Запішы разам ці асобна патрэбную часціцу. У якім сказе і чаму ты напішаш яе разам, а ў якім — асобна? Пастаў прапушчаныя знакі прыпынку.

1. ... гледзячы на завіруху турысты прадаўжалі свой паход.
2. ... гледзячы на ўсе намаганні я не мог распаліць агеньчык.
3. Маладыя ішлі побач ... гледзячы адзін на аднаго.
4. ... гледзячы ні на кога незнаёмы выйшаў з пакоя.

Падкрэслі акалічнасці, абазнач іх від.

**Падказка**




***Практыкаванне 28.*** У якіх з наступных сказаў ёсць акалічнасці меры і ступені? Якімі часцінамі мовы яны выражаны?

Дзень быў абсалютна ясны... Каля палудня падзьмуў вецер. Неба амаль цалкам зацягнула воблакамі. І хутка ціха, амаль нячутна паваліў снег.

***Практыкаванне 29.*** Падкрэслі акалічнасці параўнання і параўнальны зварот.

1. Раніца... Узыходзіць над горадам сонца. Успыхваюць золатам вершаліны клёнаў. Срэбрам адліваюць спакойныя воды ракі.
2. Бягуць удалячынь стальныя рэйкі. Прамыя, як страла, праспекты сталіцы запаўняюцца людзьмі.

**Загадка**

Ці патрэбна коска перад злучнікам **як** у наступным сказе?
*Галоўны праспект горада як страла.*

**Падказка**



***Практыкаванне 30.*** Спішы. Сказы (на выбар) разбяры па членах.

1. Усе пералётныя птушкі, якія спяшаліся на поўдзень, — берасцянкі, канаплянкі — заўсёды садзіліся адпачыць на рамонкавым полі (Р. Ігнаценка). 2. Як прыемна глядзець на веснавы разліў! (Я. Колас). 3. Старыя шпакі, відаць, практыкавалі маладых у лятанні, каб умацаваць іх крылле перад дарогай у вырай (Я. Колас). 4. Выходзяць і будуць выходзіць кнігі, выкананыя на самым высокім паліграфічным узроўні, напісаныя самымі выдатнымі майстрамі слова, а той, адціснуты ў Празе «Псалтыр» вечна будзе жыць у гісторыі Беларусі як адна з самых дарагіх і непаўторных рэліквій (ЛіМ). 5. Безумоўна, усе птушкі наваколля ведалі пра крынічку з гаючай вадой і, мабыць, часта прыляталі сюды палячыцца ад сваіх хвароб або адпачыць у цяньку ці пакупацца ў ручаі (В. Хомчанка). 6. Каб жыць, моцнае карэнне патрэбна не толькі чалавеку, але і раслінам (Я. Сіпакоў). 7. Толькі расплюшчвае блакітныя вочы лён, а на сенажацях кветак, што і не пералічыць (П. Броўка). 8. Калісьці каля нашай вёскі спыніліся салдаты. Вучыліся ваяваць: стралялі, акопы капалі, наступалі (В. Хомчанка). 9. Найбольшая прыемнасць глядзець на воблакі ў летнія, пагодлівыя дні, калі ў небе лётаюць птушкі. Вясною — жаваранкі. А ўлетку — ластаўкі і стрыжы (І. Грамовіч). 10. Хочацца бегчы па лузе босаму, па халоднай мяккай траве, задыхацца і адпачываць дзе-небудзь на ўзбярэжжы ракі або ля крыніцы, акунуўшы ногі глыбока ў ледзяную прахалоду, ад якой набракае, стынучы, цела (І. Пташнікаў). 11. Добрыя людзі тужаць аб цудзе, як выпраменьваць святло і гарэць. Тым часам употай дрэнныя людзі шукаюць, дзе б ім рукі пагрэць (П. Макаль).

***Практыкаванне 31.*** Прачытай тэкст. Выпішы прыклады сказаў з акалічнасцямі, падкрэслі іх, абазнач від.

**Сапсаваны падарунак**

Мы ўсёй сям'ёй паехалі капаць бульбу на самае далёкае поле.

Верасень быў няроўны: то прыпячэ сонца, то падзьме сібернік, як у нас звалі паўночна-ўсходні вецер. Бацька разворваў плужком барозны. Маці і ўсе больш-менш дарослыя дзеці бралі бульбу ў кошыкі, паспявалі акуратна прайсці баразну, пакуль бацька толькі пачынаў другую. Спрабаваў памагаць і я, але ніякай карысці ад гэтай дапамогі не было. Каб не крыўдзіць малога, маці прапанавала:

— Ты, Уладзік, пахадзі па ўзлессі. Можа, ягадка якая засталася, можа, штосьці-небудзь цікавае пабачыш. Нам тады і раскажаш…

А было мне, «расказчыку», пяць гадоў. Ды на гэты самы дзень прыпала на маю долю свята. Жыў у нас тыдні са два кравец. Каму шыў новае, каму латаў ці перашываў старое. А для мяне, сабраўшы неяк розныя кліны і абрэзкі саматканага шарачка, ён пашыў новае пальцечка. Ды якое! У ім былі дзве кішэні, яно было зроблена адмыслова на мяне і для мяне! Да гэтага часу я ўсё даношваў братнія каптанікі ды розныя куртачкі. Ад радасці я, як той казаў, не тоўпіўся ў сваім новым пальцечку. Мне здавалася, што нават сарокі, якія стракаталі на дрэвах, адна адной крычалі: «Глянь-це, гляньце, што за ён!» Пад гэты строкат, як пад гукі ўрачыстага маршу, я пашпацыраваў па ўзлессі. Цікавага было там багата. Адных чырвоных ды пазлацістых лістоў колькі! Але раптам — грыб, казляк. За ім — другі, там — трэці. Спачатку я наважыўся ўзяць іх і адразу аддаць матцы. Пасля затрымаўся. «Не! Я іх пакладу ў кішэні, нікому нічога не скажу, а калі прыедзем дадому — дастану: во што я знайшоў! На цэлую вячэру». Так і зрабіў. Напакаваў кішэні казлякамі. А кішэні, праўду кажучы, былі ёмістыя: кравец кужалю не пашкадаваў. Гэта ж не шарачок выцалёўваць! Тым часам нашы выбралі бульбу. Частку ўсыпалі ў загадзя падрыхтаваныя ямы, а рэшту — пассыпалі ў мяшкі і склалі іх на воз. Усе ішлі пехатой, аднаго мяне пасадзілі на бульбу. Прыгрэўшыся ля мяшкоў, я заснуў. Калі мы прыехалі двору, мяне, соннага, занеслі ў хату і, не распранаючы, паклалі на печ. А самі заняліся парадкаваць бульбу ды гатаваць вячэру. Вячэраць у нас садзіліся ўсёй сям'ёй: дарослыя і дзеці. Пабудзілі, паклікалі і мяне. Прахапіўшыся, я адразу палез у кішэні, каб даць маме свой здабытак. Толькі прамовіў словы: «Мамачка! Што я знайшоў!», як мае рукі трапілі ў нейкі кісель. Ажно гэтыя казлякі на гарачай печы папякліся, ператварыліся ў сапраўдны клей. Як я закрычаў, загаласіў — аж зайшоўся ад плачу. Бацькі напалохаліся: я ўзняў рукі ўгору, з іх цячэ нейкая брыда. Колькі часу прайшло, пакуль дабраліся толку! Тады ж пачалося другое гора: забрудзіў новае пальцечка. Але мяне суцешылі тым, што дакляравалі сёння ж пальцечка вымыць. Мне растлумачылі, яно стане яшчэ прыгажэйшае... Так я ў самыя малыя свае гады даведаўся, што трэба насцярожана аглядаць і радасць, ці не схаваны ў ёй, часам, слёзы...

*У. Дубоўка.*

Што выражае загаловак: асноўную думку ці тэму тэксту? Падзялі тэкст на абзацы. Выдзелі словазлучэнні, якія маглі б скласці план тэксту. Падрабязна перакажы тэкст.

## III. Даданыя члены сказа ў маўленні

***Паразважаем*** пра тое, якую вялікую ролю маюць даданыя члены сказа ў маўленні, у тэксце. Безумоўна, без іх мы гаварылі б і пісалі б толькі неразвітымі сказамі. Факт, паведамленне пра яго... Зноў факт і паведамленне пра яго... Сумна, ці не так? Атрымліваецца, што ўсё багацце свету, яго фарбаў, формаў, гукаў, разнастайных думак і пачуццяў — усё дапамагаюць нам перадаць даданыя члены сказа. З іх дапамогай мы будуем самыя разнастайныя па змесце і будове сказы. Такім чынам, зробім галоўны вывад: даданыя члены сказа развіваюць сказ. Разумець гэта і карыстацца гэтым ва ўласным маўленні, свядома прымяняючы іх, вельмі важна (*Г. Я. Брусіна*).

***Практыкаванне 32.*** Выкарыстоўваючы даданыя члены сказа, у тым ліку дзеепрыслоўныя і параўнальныя звароты, перабудуй наступныя сказы ў развітыя.

1. Плывуць аблокі.
2. Шуміць горад.
3. З'яўляецца чалавек.

***Практыкаванне 33.*** Прачытайце верш. Якое азначэнне здаецца табе асабліва яркім і выразным? Якую ролю ў стварэнні малюнкаў завеі і пагоднага дня выконваюць акалічнасці?

Праз ноч усю гуляў віхор,
Кідаў снягі, выў дзікім зверам
І з гікам рваўся ў прастор,
Нібы ў расчыненыя дзверы.
А сёння ціха так наўкруг
І вецярок прылёг, не вее.
На плоце, ліпах, дахах — пух.
Застыла белая завея.

Падкрэслі граматычныя асновы, вызнач тып выказніка і дзейніка.

### Заданні для самастойнай працы

#### Пытанні для самакантролю

1. Якія адметныя рысы прамых і ўскосных дапаўненняў?
2. Чым адрозніваецца прыдатак ад азначэння?
3. Як трэба размяжоўваць прыдаткі і паяснёныя словы?
4. Як адрозніць інфінітыў-азначэнне, інфінітыў-дапаўненне і інфінітыў-акалічнасць?

**Праверачны тэст**

Устанаві адпаведнасць:

А — прыдатак

Б — дапаўненне

В — акалічнасць

1) Абазначае час дзеяння, мэту, месца, прычыну, спосаб дзеяння, меру і ступень, умову і г. д.

2) З'яўляецца прыметай прадмета, выражанага назоўнікамі, займеннікамі і субстантываванымі часцінамі мовы.

3) Мае значэнне аб'екта дзеяння, часткі аб'екта, часовага карыстання аб'ектам, аб'екта пры пераходных дзеясловах з адмоўем і інш.

4) Абазначае сваяцкія адносіны, прафесію, нацыянальнасць, геаграфічныя назвы, астранамічныя назвы, назвы прадпрыемстваў, газет, часопісаў і інш.

5) Сумяшчае семантыку азначэння і дапаўнення.

# *АДНАСАСТАЎНЫЯ СКАЗЫ*

## I. Аднасастаўныя сказы: дзейнік ці выказнік?

***Практыкаванне 1.*** У кожнай групе сказаў знайдзі і падкрэслі граматычныя асновы, вызнач розніцу ў будове.

**I.** 1. Я люблю цябе, мой Нёман родны, мая любімая рака.

2. Люблю цябе, мой Нёман родны, мая любімая рака.

**II.** 1. Неба на ўсходзе пачынала віднець.

2. Ужо даўно развіднела.

**Падказка**

Адказ на пытанне пра від сказа па саставе і будове дае яго граматычная аснова. Таму тут і ў далейшым — ва ўсіх практыкаваннях, дзе прыйдзецца працаваць са сказамі або тэкстам, — раім абавязкова знайсці, падкрэсліць граматычныя асновы.

**Загадка**

Што трэба зрабіць, каб з аднаго сказа атрымалася два: адзін асабовы, другі безасабовы?

*Ціха свеціць месяц.*

***Практыкаванне 2.*** Кожны з двухсастаўных сказаў перабудуй у аднасастаўныя, прычым розных тыпаў.

1. Дождж паліў яшчэ мацней. 2. Вечар апускаецца на зямлю. 3. Студзеньскі мароз шчыпле шчокі.

***Практыкаванне 3.*** Знайдзі асабовыя і безасабовыя сказы. Спішы, пастаў патрэбныя знакі прыпынку і растлумач іх. Падкрэслі выказнікі, выражаныя аднолькавымі словамі, у безасабовых сказах прамой лініяй, у асабовых — хвалістай.

1. У лесе значна пасвятлела. 2. Ноч разам пасвятлела мрок рассунуўся стала светла як на досвітку перад усходам сонца (Я. Колас). 3. Дзень выдаўся цёплы па-красавіцку прыпякала сонца але быў моцны вецер (І. Шамякін). 4. Прыпякала яшчэ мацней і парнасць, што насычала паветра была цяжкая і духмяная (Т. Хадкевіч). 5. Запахла поле зноў раллёю гракі вароны чарадою за свежай ходзяць баразною (Я. Колас). 6. Запахла полем пчолім роем расою жнівеньскай парой (А. Вялюгін). 7. Пахла сена. Цудоўна зімой пахне сена! (І. Шамякін). 8. Пахне сенам і мятай пахне рыбнай луской (А. Пысін). 9. Але возера неяк адразу сцямнела (С. Грахоўскі). 10. Сцямнела калі я сабраўся дадому.

**Падказка**



***Практыкаванне 4.*** Вызнач тып аднасастаўных сказаў. Якія з іх неразвітыя, а якія — развітыя? Пакажы гэта графічна.

1. Пачынае змяркацца (базасаб., неразв.). 2. Поўдзень. 3. Цёплы вечар. 4. Вуліцы ў нашым горадзе прыбіраюць раніцай. 5. Без старанай працы не атрымаеш добрых ведаў. 6. Узімку марыш пра цяпло і сонца. 7. Віднее. 8. Ноччу задажджыла. 9. У буднi ўставалі рана.

## II. Тыпы аднасастаўных сказаў

### Сінанімія аднасастаўных і двухсастаўных сказаў

**Даведка**




### Пэўна-асабовыя сказы

***Практыкаванне 5.*** Прачытай дыялог. Знайдзі пэўна-асабовыя сказы. Чаму аўтар адмовіўся ад выкарыстання займеннікаў?

— Дзе была?
— Дадому ішла.
— Чаму доўга цягнулася?
— У цёмным завулку два боўдзілы пераняйлі...
— І што?
— Што-што?.. Сказалі: «Танцуй, а не, дык пачнём цалаваць...»
— А ты што?
— Во я ім... Дулю я ім танцавала!..

*У. Лiпскі.*

**Падказка**



***Практыкаванне 6.*** Запішы толькі пэўна-асабовыя сказы.

1. Па роснай мураве шпарка крочым да ракі (Я. Колас). 2. Начное рэха данесла гук далёкага ўзрыву (М. Лынькоў). 3. Не кувай ты, шэрая зязюля, сумным гукам у бары (М. Багдановіч). 4. Люблю цябе, мая краіна! (Я. Колас). 5. Адным арэхам наўрад ці падзеляцца (Я. Колас).

***Практыкаванне 7.*** Прачытай тэкст. Вызнач тып аднасастаўных сказаў, падкрэслі граматычную аснову.

Заўважаю на вадзе мноства чаек. Ці не з усяе Нарачы сабраліся перад выраем? Птушкі пагойдваюцца на лёгкіх хвалях — возера нібы закалыхвае іх. Іншая ўскрыкне, падымецца, зробіць круг і зноў апусціцца ў гурт. У промнях зыркага сонца чайкі на вадзе — як асколкі разбітага люстэрка (Я. Пархута).

**Загадка**

Чаму выказнікам пэўна-асабовых сказаў не можа быць дзеяслоў у форме 3-й асобы адзіночнага ліку і ў форме прошлага часу?

## Няпэўна-асабовыя сказы

**Загадка**

Ці з'яўляюцца прыведзеныя сказы няпэўна-асабовымі?
*Потым нешта ўспомнілася. Да мяне нехта прыходзіў.*

***Практыкаванне 8.*** Запішы толькі няпэўна-асабовыя сказы.

1. Зробім перапынак на трыццаць хвілін (І. Шамякін). 2. Нават на вуліцах ліхтары запалілі (У. Караткевіч). 3. Баранілі нас дубы і сосны і прымалі разам з намі бой (А. Пысін). 4. Лескаўцу прапанавалі выступіць на сходзе першаму (І. Шамякін). 5. Рана ўстанеш — многа зробіш (Прыказка).

**Падказка**



***Практыкаванне 9.*** Перабудуй двухсастаўныя сказы ў няпэўна-асабовыя. У чым розніца ў значэнні сказаў двух гэтых тыпаў?

У з о р. Сябар затрымаў мяне на паўгадзіны. — Мяне затрымалі на паўгадзіны.

1. Настаўніца паведамляе класу вынікі дыктоўкі. 2. Трэнер прыняў Максіма ў секцыю каратэ. 3. Майстар адрамантуе мабільны тэлефон.

***Практыкаванне 10.*** Перабудуй двухсастаўныя сказы такім чынам, каб уся ўвага ў іх засяроджвалася на факце, падзеі, дзеянні, а выканаўца дзеяння заставаўся невядомым.

1. Адміністрацыя вакзала перанесла прыпынак далей. 2. Рабочыя прычапілі іх вагон да нейкага эшалона. 3. Чаму пісьменнікі вельмі рэдка пішуць пра шчаслівае каханне? 4. Сябры запрашаюць мяне ў кіно.

**Падказка**

Няпэўна-асабовыя сказы дазваляюць засяродзіць увагу менавіта на дзеянні, а не на асобе, якая ўтварае гэта дзеянне. Яны шырока выкарыстоўваюцца ў навуковым стылі — пры апісанні фізічных, хімічных і інш. працэсаў і эксперыментаў.

***Практыкаванне 11.*** Выпішы з падручніка па фізіцы, хіміі, біялогіі два-тры няпэўна-асабовыя сказы, растлумач іх значэнне.

***Практыкаванне 12.*** Прачытай тэкст. Вызнач тыпы аднасастаўных сказаў.

Яго прасілі:

— Вырві карані свае з зямлі гэтай, ідзі за намі. Толькі ў нас цябе чакае багацце.

Не вырваў. Не пайшоў. Не захацеў багацця таго. І яго забілі.

Яму прапаноўвалі:

— Адрачыся веры свае, прымі нашу. Толькі сярод нас цябе чакае слава.

Не адрокся. Не прыняў. Не захацеў славы тае. І яго забілі.

Яму загадвалі:

— Забудзь матчыну мову, назаўсёды пакінь народ свой. Толькі ў нас ты адчуеш сябе шчаслівым.

Не забыў. Не пакінуў. Не захацеў шчасця таго. І яго забілі.

...Тройчы забіты, ён застаўся навечна СЫНАМ зямлі сваёй.

*Я. Пархута.*

## Абагульнена-асабовыя сказы

***Практыкаванне 13.*** Запішы толькі абагульнена-асабовыя сказы.

1. Добрага чалавека не перахваліш. 2. Вучыцеся ж добра, старанна заўсёды (А. Астрэйка). 3. Ад самога сябе не ўцячэш (Прыказка). 4. Стаіш і ловіш гукі тыя, як гімн жыццю, хвалу вясне (Я. Колас). 5. Адным ударам тапара дрэва не зваліш (Я. Брыль).

**Падказка**




***Практыкаванне 14.*** Прачытай тэкст. Вызнач, якія віды аднасастаўных сказаў сустракаюцца ў ім.

Першыя мэндлі. Шпакі пачынаюць лётаць чародамі. На выгане — басаногія пастушкі і дамавіты пах торфу ад іхняга вогнішча. Заходзіць сонца. Бусел вяртаецца з купінай у дзюбе. Век жыві — век будуйся. З гнязда на загуменным вязе бусліха вітае яго гаспадарлівым клёкатам (Я. Брыль).

## Безасабовыя сказы

**Загадка**

Чаму прыведзеныя сказы называюцца безасабовымі, як і дзеясловы, якія з'яўляюцца ў іх выказнікамі?

*Віднее. На вуліцы дажджыла. Не спіцца. Вечарэе.*

***Практыкаванне 15.*** Запішы толькі безасабовыя сказы.

1. Паволі займалася на дзень (П. Пестрак). 2. Гаворка пайшла весела і лёгка (І. Шамякін). 3. Прыемна было адчуваць пяшчоту вясенняга сонца (Я. Колас). 4. Па-асенняму глуха шумелі сосны (І. Шамякін) 5. Снежна. Санна. Свежа (А. Вялюгін).

***Паразважаем*** пра тое, што такое безасабовыя сказы. Гэта самая багатая і складаная група аднасастаўных сказаў. Тыповае значэнне безасабовых сказаў — стан чаго-небудзь (каго-небудзь). У іх няма і не можа быць дзейніка, а дзеянне адбываецца само па сабе, таму чалавек як актыўны дзеяч не можа прымаць у гэтым удзелу.

***Практыкаванне 16.*** Перабудуй двухсастаўныя сказы такім чынам, каб у іх выражалася міжвольная цяга да дзеяння, жаданне ажыццявіць яго.

1. Я хачу паглядзець горад, праехаць, прайсціся па яго вуліцах. 2. Марына хацела пагаварыць з братам. 3. У дажджлівыя ночы я заўсёды добра сплю. 4. Хачу заўтра з раніцы пайсці ў лес на лыжах.

**Падказка**

Асноўныя прыметы безасабовых сказаў

| выражэнне выказніка | + | значэнне |
|---|---|---|
| 1. Безасабовы дзеяслоў | → СТАН → | прыроды |
| 2. Асабовы дзеяслоў у безасабовым значэнні | → СТАН → | асяроддзя |
| 3. Зваротны дзеяслоў у безасабовым значэнні | → СТАН → | чалавека |
| 4. Словы стану | → СТАН → | прыроды і чалавека |
| 5. Кароткі залежны дзеепрыметнік | → СТАН | |
| 6. Інфінітыў дзеяслова | | непазбежнасць |
| 7. Інфінітыў або дзеяслоў + словы стану | → | магчымасць, неабходнасць, пажаданасць |
| 8. Не было, няма + род. скл. наз. або займ. | → | адсутнасць чаго-, каго-небудзь |

***Практыкаванне 17.*** Перабудуй асабовыя сказы ў безасабовыя. Вызнач склон дапаўнення ў безасабовых сказах.

Я нікому не пісаў. — Мне няма каму пісаць.

1. Ён ні аб чым не прасіў. 2. Яна ні з кім не размаўляла. 3. Яны нічога не расказалі.

**Падказка**

У безасабовых сказах дзейнік асабовага сказа становіцца дапаўненнем, якое выражана назоўнікам або прыметнікам у **давальным склоне.** Гэта прымета безасабовага сказа.

***Практыкаванне 18.*** Напішы некалькі сказаў або невялікі звязны тэкст-інструкцыю, выкарыстоўваючы ў ім словы **трэба**, **неабходна**, **нельга**, **можна** і г. д. у спалучэнні з інфінітывам для выражэння выказнікаў у безасабовых сказах. Зрабіць гэта можна як у сур'ёзнай форме, так і ў жартаўлівай. Можна, напрыклад, напісаць пародыю «Як трэба ўздымацца па школьнай лесвіцы на перапынку». Пастарайся выкарыстаць розныя тыпы аднасастаўных сказаў.

### Назыўныя сказы

***Практыкаванне 19.*** Запішы толькі назыўныя сказы.

1. Росна. Золка (М. Калачынскі). 2. Туманнае ранне. Узлессе (Я. Брыль). 3. У неагляднай глыбокай далечыні ні адной хмурынкі (І. Муравейка). 4. Вось старая хатка, садзік невялічкі! (Я. Колас). 5. Дзень лагодны, ціхі (Я. Колас).

**Падказка**




***Практыкаванне 20.*** Прачытай верш. Графічна пакажы, якімі з'яўляюцца сказы па саставе. У назыўных сказах падкрэслі ўсе члены.

След лася. І асенні асіннік.
Прадвячэрні асіннік у расе.
Па-над лёгкай самотай, у стыні —
Пер'е небам ляцеўшых гусей.
Галасы іх. І звера рыканне.
І спакой. Лесу мудры спакой.
І вялікае супрацьстаянне
Марса вечнага з вечнай Зямлёй.

*М. Рудкоўскі.*

***Паразважаем!*** Што такое назоўны ўяўлення? Назоўны ўяўлення — гэта назоўны склон назоўніка, які называе прадмет або асобу, каб даць уяўленне аб ім. За ім ідуць сказы, якія апісваюць гэты прадмет або асобу. Сапраўды, трэба толькі вымавіць назоўнік у назоўным склоне — і ў нашым уяўленні ўзнікае малюнак, мы ўяўляем яго.

Але што такое назоўны ўяўлення ў сінтаксічных адносінах? Вучоныя па-рознаму адказваюць на гэта пытанне. Адны ўключаюць яго ў склад назыўных сказаў, другія не ўключаюць. Але галоўнае, напэўна, не ў гэтым, а ў тым, што гэта цудоўная стылістычная фігура, якая ўпрыгожвае маўленне.

***Практыкаванне 21.*** Перабудуй сказы такім чынам, каб у іх сцвярджалася наяўнасць толькі прадметаў і з'яў (дынамізм дзеяння павінен знікнуць).

1. Увосень берагі возера чарнелі ад дажджу. 2. З высокага неба падае, льецца птушыны спеў. 3. На змярканні з-за лесу паўзлі змрочныя хмары. 4. Ціхая ноч ляжала над Палессем. 5. Сонца ярка асвяціла бярозавы гай.

У якіх стылях і жанрах часцей за ўсё выкарыстоўваюцца назыўныя сказы?

## Няпоўныя сказы

***Практыкаванне 22.*** Выпраў дыялог, надаўшы яму ўласцівую гутарковай мове лаканічнасць.

— У нашай школе ёсць літаратурны гурток.

— А што вы зараз вывучаеце на занятках літаратурнага гуртка?

— На занятках літаратурнага гуртка мы зараз вывучаем «Паўлінку» пісьменніка Янкі Купалы. Ты чытаў «Паўлінку»?

— Не, «Паўлінку» Янкі Купалы я не чытаў.

— Будзем чытаць «Паўлінку» разам.

***Практыкаванне 23.*** Запішы толькі двухсастаўныя няпоўныя сказы.

1. У полі было ціха і пуста (С. Грахоўскі). 2. Ідуць у лесе, крычаць, гукаюць, як вучні, вырваўшыся з школы (Я. Колас). 3. Цішыня, цяплынь, спакой (І. Мележ). 4. Над намі цёмнае неба, усыпанае буйнымі зорамі (С. Грахоўскі). 5. Ідзіце, хлопцы, хутчэй (І. Мележ).

***Паразважаем!*** Як даць азначэнне няпоўным сказам? Гэта сказы, у якіх прапушчаны член сказа, неабходны для паўнаты будовы і значэння. Калі член сказа неабходны, а яго няма, значыць, у сказе нечага

не хапае. Таго, што прапушчана. Станоўчая рыса як бы пераўтвараецца ў адмоўную...

А між тым менавіта ў няпоўных сказах рэалізуецца закон эканоміі моўных сродкаў: лішняе, неабавязковае для разумення выказвання слова апускаецца. Фраза становіцца лёгкай і выразнай, мова — дынамічнай. Бо калі ў сказе нешта прапушчана, значыць, без гэтага можна абысціся. Няпоўным можна лічыць сказ, у якім адсутнічае адзін або некалькі членаў, зразумелых з кантэксту або маўленчай сітуацыі.

## III. Аднасастаўныя сказы ў маўленні

**Падказка**

**У навукова-папулярным стылі пэўна-асабовыя сказы з выказнікам — дзеясловам у 1-й асобе множнага ліку ствараюць уражанне нязмушанай гутаркі з чытачом, дапамагаюць прыцягнуць увагу чытача (падумаем, паглядзім, паспрабуем, успомнім, вернемся да, спытаем сябе і г. д.). Яны робяць тэкст жывым, у ім прасцей прасачыць думкі аўтара. Гэты прыём можна выкарыстоўваць у сачыненнях па літаратуры.**

***Практыкаванне 24.*** Раскажы пра які-небудзь эпізод з жыцця класа. Каб ажывіць тэкст, надаць яму нязмушаны тон, карыстайся пэўна-асабовымі сказамі, якія нібы звяртаюцца да слухачоў: **уявіце**, **падумайце толькі**, **успомніце**, **разумееце** і г. д.

***Практыкаванне 25.*** Уяві, што ідзе нейкая гульня і ты не простаназіраеш за ёю, а выступаеш у ролі суддзі. Гульня праходзіць з парушэннямі. Не толькі апішы іх, а дай парады адносна правіл гульні, раскажы, як пазбегнуць памылак. Выкарыстай розныя віды аднасастаўных сказаў. Успомні: пытальныя сказы ажыўляюць тэкст. Выкажы свае пачуцці, свае адносіны да таго, што апісваеш, пра што расказваеш.

***Практыкаванне 26.*** Напішы невялікае апісанне любога месяца, раніцы, вечара і г. д., пачні яго з назоўнага ўяўлення. Затым знайдзі такія дэталі, падбяры такія словы, каб і чытач «убачыў» напісанае табою... Карыстайся шматкроп'ем. Можна выкарыстаць для пачатку такія канструкцыі:

*Вымаўляеш гэта слова і нібы бачыш... Я гавару гэта слова, і мне здаецца...*

### Заданні для самастойнай працы

1. Адзнач правільнае сцвярджэнне.

Пэўна-асабовыя сказы — гэта...

а) аднасастаўныя сказы з выказнікам, выражаным дзеясловам у форме 3-й асобы множнага ліку цяперашняга і будучага часу або ў форме множнага ліку прошлага часу ўмоўнага ладу;

б) аднасастаўныя сказы з выказнікам, выражаным дзеясловам у форме 1-й ці 2-й асобы;

в) аднасастаўныя сказы з выказнікам, пры якім няма і не можа быць дзейніка;

г) аднасастаўныя сказы, якія маюць абагульненае значэнне;

д) аднасастаўныя сказы, якія маюць адзін галоўны член — дзейнік.

2. Закрэслі лішняе.

Аднасастаўныя сказы з галоўным членам выказнікам падзяляюцца на пэўна-асабовыя, няпэўна-асбовыя, абагульнена-асабовыя, назыўныя, безасабовыя.

# СІНТАКСІЧНЫЯ ЛАБІРЫНТЫ ЎСКЛАДНЕНАГА СКАЗА

## *СКАЗЫ З АДНАРОДНЫМІ ЧЛЕНАМІ*

## I. Паняцце пра аднародныя члены сказа

### Сінанімія простых сказаў з аднароднымі членамі і складаназлучаных сказаў

***Практыкаванне 1.*** Прачытай урыўкі з вершаў. Звярні ўвагу на выдзеленыя словы. Якая моўная з'ява і чаму дазволіла аўтарам стварыць камічны эфект?

1. Ён шле хвалу на тоны ўсе
   І **гаспадыні**, і **вяндліне**,
   І той дзівоснай **каўбасе** (*Я. Колас*).
2. Тут, мне помніцца, й даўней
   Добрых шмат было **свіней**,
   **Жарабцы** былі, **паэты** —
   Пладавіты горад гэты (*К. Крапіва*).

**Загадка**

Прачытай сказ. Ці ёсць у ім аднародныя члены сказа?
*Заснулі ціхія бярозы ўночы пад акном* (А. Астрэйка).

**Падказка**

**Апазнавальныя прыкметы аднародных членаў сказа**

1. Залежаць ад аднаго і таго ж слова.

2. Адказваюць на адно і тое ж пытанне.

3. З'яўляюцца адным і тым жа членам сказа.

4. Звязваюцца паміж сабой інтанацыяй пералічэння і злучальнымі злучнікамі.

5. Утвараюць раўнапраўныя па саставе спалучэнні слоў, г. зн. нельга паставіць пытанне ад аднаго слова да другога.

***Практыкаванне 2.*** Прачытай верш. Падкрэслі аднародныя члены як члены сказа.

Разабралі паэты
Усе верасы і росы,
Усе зоркі сусвету,
Жаўрукоў
І дзявочыя косы.
Разабралі маланкі
І пажары позніх рабінаў,
Скрып тужлівых усіх каляінаў,
Залатыя світанкі,
Пахі спелага бору,
У палях — васількі і калоссе...
А што ж мне засталося?
Буду сеяць зоркі ў разоры.
І па ўсёй Беларусі
Засаджу верасамі дубравы,
У сіняве растваруся
І расой ападу на травы.

*Н. Тарас.*

***Практыкаванне 3.*** У прыведзеных сказах выпраў памылкі, звязаныя з ужываннем аднародных членаў.

1. Віншую вас ад усёй душы і асабіста ад сябе. 2. Гэты сквер — любімае месца адпачынку жыхароў горада, моладзі і дзяцей. 3. У гаспадарцы павялічана пагалоўе буйной рагатай жывёлы, кароў і птушкі. 4. Камісія адзначыла антысанітарны стан павільёна і гандляркі Пятровай. 5. У пакоі стаялі сталы, крэслы, мэбля з чырвонага дрэва.

***Паразважаем!*** Калі ставяцца коскі пры аднародных членах сказа, звязаных злучнікамі? Аказваецца, правіла вельмі простае. Коска не ставіцца паміж аднароднымі членамі:

- звязанымі адзіночным злучнікам **і**, **ды** (**= і**), **ці**, **або**;
- звязанымі рознымі злучнікамі (**і**... **ды**...).

У астатніх выпадках коска ставіцца.

***Практыкаванне 4.*** Прачытай сказ. Устаў прапушчаныя знакі прыпынку. Колькі радоў аднародных членаў змешчана ў сказе?

**Берагчы хлеб шанаваць самы маленькі кавалачак кожную скарыначку прывучалі дзед і бацька (І. Грамовіч).**

**Даведка**




***Практыкаванне 5.*** Перабудуй аднародныя рады наступных сказаў так, каб у іх выражаліся пазначаныя ў дужках значэнні.

**1. У Адама былі галіфэ з зялёным, з чырвоным, з сінім кантам (*узмацненне кожнага з аднародных членаў*). 2. Кожнае каліўца імкнецца ўхапіць больш святла, паветра, цеплыні (*вычарпальны характар пералічэння*).**

***Паразважаем*** пра тое, якое значэнне мае інтанацыя пералічэння для вызначэння аднародных членаў. Возьмем, напрыклад, сказ:

*Мы гулялі ў Мінску па праспектах.*

У сказе ёсць дзве акалічнасці месца, якія адносяцца да аднаго і таго ж слова — выказніка (*гулялі* дзе?), але выражаны словамі рознымі па сэнсе: Мінск — назва горада, праспект — яго частка. Менавіта таму тут не можа прысутнічаць інтанацыя пералічэння. А гэта значыць, што акалічнасці не з'яўляюцца аднароднымі.

**Даведка**

**Не з'яўляюцца аднароднымі членамі:**

**1)** словы, якія паўтараюцца з мэтай узмацнення сэнсу;

**2)** спалучэнні дзеясловаў, якія выступаюць у ролі адзінага выказніка: **Пачалі збірацца ісці на вячоркі;**

**3)** словы, якія ўдакладняюць, канкрэтызуюць сэнс папярэдніх слоў;

**4)** устойлівыя спалучэнні слоў: **ні жывы ні мёртвы, ні свет ні зара, і смех і грэх** і г. д. Такія словы з'яўляюцца адным членам сказа.

## II. Знакі прыпынку пры аднародных членах сказа

***Паразважаем!*** Як зразумець і запомніць правілы пунктуацыі пры аднародных членах? Сапраўды, правіл існуе нямала, але яны ўтвараюць пэўную сістэму, і, больш за тое, некаторыя з іх (калі не многія) ты ўжо ведаеш. Якія? Разгледзь гэту ўмоўную «лесвіцу» правіл. Адзнач тыя «прыступкі», правілы якіх ты ведаеш, і сфармулюй гэтыя правілы.

«Прыступкі» цяжкасцей у пунктаграмах:

**Раздзяленне коскамі аднародных членаў сказа**

аднародныя азначэнні

парныя злучнікі — **як — так і; не толькі — але і**

паўторныя злучнікі — **і, ці, то — то, ні — ні**

адзіночныя злучнікі — **і, ды (= і), ці, а, але, ды (= але)**

бяззлучнікавая сувязь

***Практыкаванне 6.*** Спішы, падкрэслі аднародныя члены сказа, вызнач іх сінтаксічную ролю ў сказе і ўмовы аднароднасці. Пастаў, дзе трэба, знакі прыпынку.

1. Зямля ж, ох, многа патрабуе і догляду і той увагі і, калі хочаце, павагі, тады вас хлебам ушануе і малаком і пірагамі... (Я. Колас). 2. Усе яны [палешукі] былі заўзятыя паляўнічыя захопліваліся адным толькі выглядам стрэльбы і былі выдатнымі стральцамі (Я. Колас). 3. Ішлі [рыбакі] па роснай атаве цераз кусты па пясчаных грывах брылі па нейкім балоце і, нарэшце, спыніліся ў прыгожай мясціне пад разгалістым дубам (І. Шамякін). 4. Следам за ім выйшаў паляўнічы. Прысадзісты мужчына сярэдніх год у суконнай куртцы і ў простай летняй кепцы (М. Гамолка). 5. І сонца прамені і сцюжу марозаў і радасць уцехі і горкія слёзы дзялілі вы, разам у жыцці ідучы (Я. Брыль). 6. Маланкі паласавалі ўжо неба і ўздоўж і ўпоперак, яны нагадвалі і белыя шаблі і блакітныя стрэлы і зігзагі і дугі (Т. Хадкевіч).

**Даведка**

**Успомні разрады злучальных злучнікаў:**

1) спалучальныя ⟶ **і, ды (= і), ні — ні, як — так і, не толькі — але і, не столькі — колькі**

2) супраціўныя ⟶ **а, але, ды (= але), аднак, затое, хоць (хоць і) — але**

3) размеркавальныя ⟶ **ці, ці — ці, або, або — або, то — то, ці то — ці то, не то — не то, калі не — то**

***Практыкаванне 7.*** Падкрэслі ў тэксце аднародныя члены сказа, вызнач словы, да якіх яны адносяцца, і характар сувязі аднародных членаў.

Адразу збоку грэбелькі млела дрыгва, зманліва зялёная, з буйной травою; ступі — і не выберашся, зацягне, засмокча навек. Доўга ішлі то купы зараснікаў, то высокая бурая трава, то чорнае, асклізлае ламачча. Балота, зялёная пагібель, як згледзець воку, на цэлыя кіламетры, да сіняй пасачкі кучаравага лесу.

Час ад часу балота змяняў лес. У ім яшчэ назольней лезла ў вочы, у вушы камарэча, што кідалася цэлымі хмарамі. Балота, мокры лес, зноў балота; выспачкі, нават пясчаныя, былі рэдка, сыходзілі вельмі ж скора.

Іншы раз лес абступаў пануры, чорны, з такімі зараснікамі, што сонца не магло прабіць, з такой густой навіссю ўгары, што не было

відаць неба. Станавілася сярод белага дня цёмна, як увечары. Дарога была ўжо нібы не дарога, а пячора (І. Мележ).

***Практыкаванне 8.*** Прадоўжы дадзеныя сказы. У якіх выпадках коску можна паставіць адразу, а ў якіх трэба падумаць, што звязвае злучнік?

1. Прайшла невялікая навальнічка але… 2. З вялікай ахвотай падмацаваліся хлопцы ягадамі ды… 3. Горад шумеў і дзень і… 4. Сонца толькі што ўзышло аднак… 5. Дзяўчына або маўчала або… 6. Музы́ка шчодра рассейваў гукі не жменяй а…

**Падказка**

Коска пры адзіночных злучальных злучніках




**Загадка**

Што трэба зрабіць са сказам, каб у ім знікла коска?
*Мы леглі спаць, і ўсе хутка заснулі.*

***Практыкаванне 9.*** Вырашы пытанне, ці ставіцца коска перад злучнікам **і** ў кожным з наступных сказаў. Чаму для гэтага трэба знайсці граматычныя асновы сказаў? Падкрэслі іх.

1. Збянтэжаны хлопчык уцёк і схаваўся ў хаце. Збянтэжаны хлопчык уцёк і мы не маглі знайсці яго. Збянтэжаны хлопчык уцёк і яго нідзе не маглі знайсці. 2. На небе з'явіўся месяц і наваколле пасвятлела. На небе з'явіўся месяц і навокал стала святлей. На небе з'явіўся месяц і асвятліў усё навокал. 3. Прайсці праз залу мы не маглі і павярнулі назад. Прайсці праз залу мы не маглі і нам прыйшлося павярнуць назад. 4. Мы ішлі то полем то лесам.

***Практыкаванне 10.*** Прадоўжы сказы двойчы: так, каб перад злучнікам **і** не трэба было ставіць коску, і так, каб яна была неабходна. Растлумач гэта графічна.

1. Вецер калыша дрэвы і…
   Вецер калыша дрэвы, і…

2. Сонца пераліваецца ў росах і…
Сонца пераліваецца ў росах, і…
3. Сыпануў дробны дождж і…
Сыпануў дробны дождж, і…

***Практыкаванне 11.*** Спішы, падкрэслі аднародныя члены як члены сказа, абгрунтуй такім чынам пастаноўку прапушчаных косак. Вылуч паўторныя злучнікі. Да якога разраду яны адносяцца?

1. Самотна звінела ці то сухая трава ці то зелле (К. Чорны). 2. Чуваць ці то птушыны шчэбет-перасвіст ці то веснавое булькание ручая (Я. Брыль). 3. Шмат якія птушкі гняздзяцца ў полі альбо ў лесе (В. Вольскі). 4. Душу сціскае болем не то смутак не то жаль (Я. Колас). 5. Ні месяца ні зорак не было відаць за густымі хмарамі (Я. Колас). 6. Усе мы былі або малыя або самыя зялёныя падросткі (К. Чорны). 7. Лес наш хоць і не дужа вялікі але прыгожы. 8. Як дзень так і ноч ідуць цягнікі ды ідуць (В. Якавенка). 9. Ранак не дажджлівы а імглісты пасля ўчарашняга дажджу. 10. Шумелі бярозы на гром ці на вецер (М. Лынькоў).

**Падказка**




***Практыкаванне 12.*** Перабудуй сказы, апусціўшы першы з паўторных злучнікаў. Што зменіцца ў пунктуацыі сказаў?

1. Густы туман накрыў і палі і лугі і возера.
2. І летам і зімой і восенню зеленеюць кашлатыя елкі.
3. І ласі і дзікі і рысі водзяцца ў нашых лясах.

***Практыкаванне 13.*** У сказах пастаў коскі і графічна пракаменціруй іх пастаноўку. Перабудуй сказы так, каб у іх з'явіліся састаўныя злучнікі **як**, **так і**; **не толькі**, **але і**.

1. Паняцце рытму ёсць і ў музыцы і ў паэзіі.
2. Горад упрыгожвалі і помнікі і фантаны.

3. Прыгажосць старажытных гарадоў стваралі і геніяльныя дойліды і невядомыя будаўнікі.

4. У школьную праграму ўваходзіць і класіка і сучасная літаратура.

***Практыкаванне 14.*** Запішы сказы, устаў прапушчаныя коскі. Падкрэслі члены сказа, якія звязваюцца злучнікамі. Па-рознаму вылуч састаўныя злучальныя і падпарадкавальныя злучнікі.

1. Раніца была не столькі цёплая колькі туманная і пахмурная. 2. У гэтых мясцінах частымі былі не толькі туманы але і дажджы. 3. Многа як сліў так і груш расло ў нашым садзе. 4. Дзікая сліва на смак даўкая як і дзікая груша. 5. Тоўстым слоем як дарогі так і хаты пакрыў снег. 6. Сакавіцкі мароз нібы жалезны панцыр скаваў зямлю.

***Практыкаванне 15.*** Падкрэслі аднародныя члены, вызнач, як яны звязаны, пастаў коскі. На падставе якога правіла ты гэта робіш? Запішы схемы аднародных членаў.

1. Мінск багаты тэатрамі і музеямі помнікамі архітэктуры і паркамі. 2. Маразы і завеі непралазныя гушчары і лясныя нетры начоўкі пад адкрытым небам і сустрэчы з дзікімі жывёламі не спынялі першапраходцаў. 3. Беларусь — краіна размешчаная паміж Бугам Нёманам і Дняпром Заходняй Дзвіной і Прыпяццю. Гэта краіна лясоў і шырокіх раўнін азёр і павольных рэк. 4. З маленства навекі душой палюбіў зялёнае поле і блакітнае неба світанні над лесам і золата ніў.

**Падказка**

Калі злучнік **і** звязвае аднародныя члены папарна, то коска ставіцца толькі паміж парнымі групамі.

**Загадка**

Ці звязаны аднародныя члены ў наступным сказе паўторным злучнікам? Пракаменціруй наяўнасць або адсутнасць знакаў прыпынку.

*Прыказкі і прымаўкі карыстаюцца вялікай папулярнасцю ў народзе і таму з'яўляюцца самым распаўсюджаным відам вуснай народнай творчасці.*

***Паразважаем*** ізноў пра тое, наколькі цяжка запомніць правілы пунктуацыі пры аднародных членах. Зробім схематычны запіс усіх правіл у самым агульным выглядзе (яго можна перапісваць некалькі разоў, пакуль не запомніцца), і іх акажацца не так шмат…




## Аднародныя і неаднародныя азначэнні

### Загадка

У якім з гэтых сказаў прасцей вырашыць, аднароднымі ці неаднароднымі з'яўляюцца азначэнні? Што дапамагае знайсці правільнае рашэнне ў такой сітуацыі?

*1. Тут расла сырая і густая трава.*

*2. Сырыя, дзікія зараснікі, змрок і разгалістыя кроны дрэў абступалі нас.*

### Падказка



**Загадка**

Ці з'яўляюцца аднароднымі азначэнні ў гэтым сказе?

*На праспекце пабудавалі прамыя чатырохкутныя шматпавярховыя дамы.*

***Практыкаванне 16.*** У якім слупку прадстаўлены сказы з аднароднымі азначэннямі, а ў якім — з неаднароднымі? Падпішы слупкі. Графічна растлумач і пастаў прапушчаныя коскі.

1. Новы светла-карычневы касцюм быў яму завялікі.
2. Выехаў я на досвітку і апоўдні спыніўся каля белага аднапавярховага будынка.
3. Стол пахіліўся, і прыгожая крыштальная ваза звалілася на падлогу.

1. З раніцы малады прыгожы муж адбываў на службу.
2. Было гэта ў маладыя дужыя гады, калі сэрца адчайна білася ў грудзі.
3. За сталом сядзеў маленькі сухенькі дзядок.

**Даведка**

Запомні, што аднароднымі лічацца азначэнні, калі:

1) яны характарызуюць прадмет з розных бакоў, але пры гэтым аб'яднаны агульнай прыметай, агульным уражаннем (прыемны — непрыемны, добры — дрэнны і г. д.);

2) за адзіночным азначэннем стаіць дзеепрыметнік.

***Практыкаванне 17.*** У сказах да азначэнняў падбяры спачатку неаднародныя, затым аднародныя азначэнні. Растлумач, чаму яны такімі з'яўляюцца.

Узор: Машына імчалася па шырокай дарозе. — Машына імчалася па шырокай асфальтаванай дарозе. Машына імчалася па шырокай, (= і) зручнай дарозе (*агульн. ураж.*).

1. У дзвярах з'явіўся шыракаплечы мужчына. 2. Бледна-жоўты месяц выплыў з-за хмар. 3. У мінулым годзе стаяла халодная зіма. 4. Над зарослымі ірвамі ўзвышаліся старадаўнія руіны.

***Практыкаванне 18.*** Да азначэнняў у сказах падбяры дзеепрыметнікі, утварыўшы іх ад слоў, прапанаваных у даведцы. Чаму паміж двума азначэннямі трэба паставіць коску?

1. На вуліцах можна ўбачыць вялізныя ... дрэвы. 2. Беларускі народ у гады Вялікай Айчыннай вайны здзейсніў вялікі ... подзвіг.

3. Скрозь вялікія ... вокны ў пакой лілося сонечнае святло. 4. Па тратуарах пабеглі вясеннія ... ручайкі.

*Словы для даведкі:* блічшаць на сонцы; паваліць ураганам; да бляску вымыць; ні з чым не параўнаць.

## Абагульняльныя словы пры аднародных членах

***Практыкаванне 19.*** Вызнач, з якім з трох значэнняў слова **абагульніць** звязаны тэрмін **абагульняльныя словы пры аднародных членах**. Падкрэслі ў гэтым азначэнні ключавое слова.

Абагульніць (незак. тр. **абагульняць**) —

1) злучыць разам, аб'яднаць разам, аб'яднаць у нешта агульнае;

2) надаць агульнае значэнне чаму-небудзь прыватнаму, адзінкаваму;

3) выявіць агульнае ў асобных з'явах, рэчах: зрабіць вывады з назіранняў асобных фактаў і выказаць іх у форме агульнага палажэння.

***Практыкаванне 20.*** Падбяры да назоўнікаў абагульняльныя словы.

1. Назоўнік, прыметнік, дзеяслоў, прыслоўе —
2. Дзейнік, выказнік, азначэнне, акалічнасць —
3. Фартэпіяна, віяланчэль, скрыпка, фагот —

**Даведка**

Абагульняльныя словы (або словазлучэнні) абазначаюць агульнае для некалькіх прадметаў паняцце, так званы **род** прадметаў.

Аднародныя члены называюць паняцці, якія ўваходзяць у больш шырокае родавае паняцце, абазначаюць яго канкрэтныя **віды**.

Галоўная апазнавальная прымета абагульняльнага слова: яно стаіць у тым жа **склоне**, што і аднародныя члены.

***Практыкаванне 21.*** У кожным радзе знайдзі і падкрэслі назоўнікі, якія абазначаюць больш шырокія (родавыя) паняцці.

1. Ямб, харэй, дактыль, вершаваныя памеры, анапест, амфібрахій.
2. Класіцызм, барока, архітэктурныя стылі.
3. Кропка з коскай, знакі прыпынку, дужкі, двукоссе, двукроп'е.

***Практыкаванне 22.*** Прадоўжы рады слоў, якія ўваходзяць у адно і тое ж родавае паняцце.

1. Ручка, аловак…
2. Алюміній, цынк…
3. Дождж, снег…

***Практыкаванне 23.*** У якім з наступных сказаў ёсць аднародныя члены з абагульняльным словам? Пакажы гэта графічна. Пастаў неабходныя знакі прыпынку. Звярні ўвагу на правапіс *ў*.

1. Манеты і посуд рэштк і будынкаў і берасцяныя граматы ўсё гэта знаходзяць вучоныя пры раскопках.
2. Усё неабходнае для археалагічных работ было падрыхтавана загадзя.

**Падказка**

Пунктуацыя пры аднародных членах
з абагульняльнымі словамі

Пазіцыя аднародных членаў у адносінах да абагульняльнага слова



выбар знака прыпынку

1. [...⊙:○,○,○].
2. [○,○,○ — ⊙...].
3. [⊙:○,○,○ — ...].

## III. Аднародныя члены сказа ў маўленні

***Практыкаванне 24.*** Калі б табе прыйшлося апісваць зімовы пейзаж, якія яго дэталі былі б табой абавязкова выкарыстаны як самыя важныя і неабходныя? Карыстайся галоўнымі і даданымі аднароднымі членамі, пастарайся, каб яны былі развітымі. Прымяні розныя спосабы сувязі аднародных членаў сказа.

**Даведка**

Аднародныя члены сказа могуць мець пры сабе залежныя словы. Такія аднародныя члены з’яўляюцца развітымі. Памятай, што дзейнік і дапаўненне можна развіць з дапамогай азначэння або дапаўнення, а выказнік — з дапамогай акалічнасці і дапаўнення і г. д.

**Значна развітыя аднародныя члены (бяззлучнікавыя і злучнікавыя) раздзяляюцца кропкай з коскай, асабліва калі ўнутры аднародных членаў ужо ёсць коскі. Развітыя аднародныя члены дапамагаюць зрабіць сказ больш разгорнутым, больш багатым.**

***Паразважаем*** пра тое, што аднародныя члены функцыянуюць у розных стылях маўлення і ў кожным з іх маюць вялікія магчымасці, вялікае значэнне. Так, у кніжных стылях яны — найважнейшы сродак падрабязнага апісання прадметаў, з'яў, працэсаў і г. д. У афіцыйна-дзелавым, як і ў навуковым стылі, абавязкова паўната і дакладнасць пералічэння аднародных паняццяў, вычарпальнае пералічэнне прымет, дзеянняў.

*Паводле І. Голуб.*

***Практыкаванне 25.*** Знайдзі ў сказах граматычныя памылкі, падкрэслі іх хвалістай лініяй, абазнач літарай Г. Запішы правільны варыянт сказаў.

1. Мы разам з сябрамі: Максім[Г], Света[Г] і Алег[Г] — пайшлі купацца на возера.

2. Смех, вясёлы гоман, музыка — гэтымі гукамі была напоўнена зала.

3. У розных жанрах: артыкул, рэпартаж, нарыс — меў вопыт журналіст.

1. Мы разам з сябрамі: Максімам[Т. скл.], Светай[Т. скл.] і Алегам[Т. скл.] — пайшлі купацца на возера.

***Практыкаванне 26.*** У якіх з прыведзеных сказаў ёсць граматычныя памылкі? Выпраў іх, запішы правільны варыянт сказаў.

1. Яна любіла шахматы і маляваць фламастарам. 2. Добры вучань прывыкае чытаць і канспектаваць кнігі. 3. З дзяцінства яго прывучаюць ведаць і разбірацца ў жывапісе. 4. Усе былі рады і задаволены гэтым рашэннем. 5. На вуліцы ішоў дождж і два студэнты.

## Даведка

### Некаторыя правілы ўжывання аднародных членаў

1. Пры двух аднародных членах адно залежнае слова можа быць толькі тады, калі абодва словы кіруюць адным і тым жа прыназоўнікам і склонам. Напрыклад: *любіць і паважаць бацькоў*.

2. У іншым выпадку залежныя словы павінны ўжывацца пры кожным з аднародных членаў. Напрыклад: *любіць паэзію і захапляцца ёю* (нельга сказаць: любіць і захапляцца паэзіяй).

3. У якасці аднародных членаў не спалучаюцца назоўнік і інфінітыў.

4. У аднародны рад нельга ўключаць далёкія і лексічна несупастаўляльныя паняцці. Напрыклад: піць каву з малаком і з задавальненнем.

---

***Паразважаем*** пра тое, што часам памылкі, звязаныя з ужываннем аднародных членаў, дапускаюцца спецыяльна. Лексічная несумяшчальнасць аднародных членаў пад пяром умелага аўтара становіцца прадметам гумару і камізму. Прачытай наступныя сказы і ўсміхніся.

У нашым калгасе мы разводзім кароў, свіней і іншую буйную рагатую жывёлу.

Гэта быў спецыяліст у розных абласцях, а таксама раёнах і рэгіёнах.

За тры гады мы пабудавалі дзіцячы садок, школу, кароўнік і іншыя жывёлагадоўчыя памяшканні.

## Заданні для самастойнай працы

1. Адзнач правільнае сцвярджэнне.

Аднародныя члены сказа — гэта...

а) члены сказа, якія выконваюць аднолькавую сінтаксічную функцыю, адносяцца да аднаго агульнага для іх слова і вымаўляюцца з інтанацыяй пералічэння;

б) члены сказа, выдзеленыя па сэнсе і інтанацыйна;

в) члены сказа, якія абазначаюць тое, што гаворыцца аб дзейніку, і адказваюць на пытанні: *што робіць прадмет? што з ім робіцца? які ён?*

2. Адзнач правільны разбор па членах сказа:

а) Шумелі бярозы на гром ці на вецер.
б) Шумелі бярозы на гром ці на вецер.
в) Шумелі бярозы на гром ці на вецер.
г) Шумелі бярозы на гром ці на вецер.

3. Запішы толькі тыя сказы, у якіх паміж аднароднымі членамі, звязанымі злучнікамі, трэба паставіць дзве коскі:

а) Неўзабаве яны выехалі на кароткую прыгожую вуліцу.
б) Дзень спякотны і вясёлы з песняй жніўнаю прыйшоў.
в) Усё ў лесе набывала казачны дзівосны характар.

г) Люблю я ўзгоркі і насып-курган і сіняй далечы празрысты туман.

д) У лесе растуць кедры і лістоўніцы дубы і ліпы бярозы і клёны.

е) Вецер птушкай біўся ў вокны ныў шумеў стагнаў і апаўшым лісцем мокрым шыбы засыпаў.

ё) То тут то там віднеліся паселішчы.

## *УСКЛАДНЕННЕ СКАЗА АДАСОБЛЕНЫМІ ЧЛЕНАМІ*

## І. Паняцце пра адасабленне. Знакі прыпынку пры адасобленых членах сказа

### Адасобленыя азначэнні

***Практыкаванне 1.*** Перабудуй кожную пару сказаў такім чынам, каб перадаць два паведамленні ў больш лаканічнай форме.

1. Бярозкі былі ахутаны маладым лісцем. Яны стаялі пры самай дарозе.
2. Сена змачыў дождж. Яно запахла яшчэ мацней.
3. Дождж быў па-майску цёплы, дробны, але спорны. Ён пайшоў надвячоркам.
4. Неба густа засеяна зоркамі. Яно відаць праз навісь галін.

***Практыкаванне 2.*** Якія адметныя асаблівасці азначэння адлюстраваны ў вершы, што склала твая аднагодка?

Хоць член сказа я дадаты,
Але важны, без сумнення,
Бо завуся — азначэнне.
Слова без мяне пустое,
Самотнае такое.
Упрыгожу я прадмет,
Надам шмат яму прымет.
Бо прымету я паказваю,
На пытанні *чый? які?* адказваю.

***Практыкаванне 3.*** Падкрэслі азначэнні, знайдзі азначаемыя словы. Якія разнавіднасці азначэнняў прадстаўлены ў сказе?

На кароценькай, сашчыпанай гусямі і качкамі траве ляжалі расінкі — сухія, цьмяныя, бы кропелькі парафіну (У. Рубанаў).

**Даведка**




***Практыкаванне 4.*** Якія разнавіднасці азначэнняў прыведзены ў табліцы? Падпішы кожны слупок. Якімі часцінамі мовы выражаны азначэнні? У першым слупку вызнач від падпарадкавальнай сувязі.

| | | |
|---|---|---|
| помнік славы<br>помнік на ўзвышшы<br>яго помнік<br>помнік злева | выдатны помнік<br>адноўлены помнік<br>гэты помнік<br>першы помнік | помнік-волат<br>помнік-абеліск |

Прывядзі ўласныя прыклады з адным і тым жа назоўнікам у ролі азначаемага слова. Гэта дапаможа табе запомніць разнавіднасці азначэнняў.

**Загадка**

**Які спосаб падпарадкавальнай сувязі пераважае ў беларускай мове: дапасаванне, кіраванне, прымыканне?**

**Падказка**

Схема пастаноўкі пытанняў для таго, каб знайсці: азначэнне і залежнае слова




***Паразважаем*** пра тое, як важна пры адасабленні азначэнняў правільна знайсці азначаемае слова. Менавіта ад яго цягнецца ланцужок пытанняў — спачатку да азначэння, а потым да залежных слоў. Азначаемае слова трымае ўсю канструкцыю. Убачыш, дзе ў адносінах да яго знаходзіцца азначэнне (перад ці пасля), — вырашыш пытанне аб тым,

ставіць або не ставіць коскі. Як пазнаць яго? Па сэнсе? Безумоўна. Але ўсё ж такі галоўным з'яўляецца той факт, што азначаемае слова ўплывае на азначэнне, якое дапасуецца да яго ў тым жа родзе, ліку і склоне. Гэта значыць, што не могуць быць адзін род, лік або склон у азначаемага слова і зусім іншыя — у азначэння (*А. Я. Брусіна*).

**Даведка**

Каб добра засвоіць правілы адасаблення азначэнняў, неабходна ведаць апорныя паняцці:

1. Марфалагічныя — прыслоўе, прыметнік, назоўнік, асабовы займеннік.
2. Сінтаксічныя — азначаемае слова, залежнае слова, азначэнне развітае і неразвітае.
3. Пазіцыя азначэння ў адносінах да азначаемага слова — перад ім і пасля яго.
4. Значэнне прычыны (з якой прычыны? чаму?) і ўступкі (нягледзячы на што?)

***Практыкаванне 5.*** Да прыведзеных прыметнікаў падбяры залежныя словы. З утворанымі развітымі азначэннямі складзі і запішы сказы так, каб азначэнні былі або адасобленымі, або неадасобленымі.

Узор: Задаволеная (настаўніца) — задаволеная працай вучняў. Настаўніца, задаволеная працай вучняў, скончыла ўрок.

1. Цёмнае (неба) —
2. Сумная (усмешка) —
3. Пустыя (палі) —

***Практыкаванне 6.*** Перабудуй сказы такім чынам, каб адзіночныя азначэнні апынуліся пасля азначаемага слова. Што зменіцца ў пунктуацыі сказаў?

1. Ясны і светлы месяц падняўся высока над зямлёю.
2. Далёкія, незвычайныя краіны вабілі нас.
3. Зялёныя і залатыя палеткі раскінуліся перад вачыма.

***Практыкаванне 7.*** Перабудуй сказы так, каб у іх з'явіліся адасобленыя адзіночныя азначэнні. Сказы запішы. Падкрэслі граматычныя асновы. Назаві тып выказніка.

Узор: Ноч <u>была цёплая</u> і <u>бязветраная</u>. — <u>Ноч</u>, <u>цёплая</u> і <u>бязветраная</u>, <u>апусцілася</u> на горад.

1. Мая сяброўка працавітая і адказная.
2. Кніга аказалася цікавай, займальнай.

**Даведка**

Два і больш адзіночных азначэнняў пасля азначаемага слова

| адасабляюцца | не адасабляюцца |
| --- | --- |
| 1) ёсць азначэнне перад азначаемым словам<br>2) нясуць большую сэнсавую нагрузку | маюць цесную сэнсавую сувязь з азначаемым словам; не аддзелены ад яго інтанацыйна |

***Паразважаем*** пра новае для цябе пунктуацыйнае правіла. Ты ўжо ведаеш, што прыслоўны зварот (дапасаванае развітае азначэнне), які стаіць перад азначаемым словам, коскамі не выдзяляецца. Аказваецца, так бывае не заўсёды. Давай параўнаем сказы:

1. *Адораны незвычайнай сілай чалавек пасяліўся ў суседнім доме.*
2. *Адораны незвычайнай сілай, Андрэй працаваў за траіх.*
3. *Адораны незвычайнай сілай, бацька у той жа час быў мяккім, добрым чалавекам.*

Ва ўсіх трох сказах развітае азначэнне стаіць перад азначаемым словам. Значыць, коскі не павінны стаяць?

А што мы бачым? У другім і трэцім сказах стаяць коскі. Вось яно, новае і цікавае... У чым тут справа? У такіх сказах азначэнні маюць дадатковае значэнне акалічнасці: прычыны (у другім сказе) і ўступкі (у трэцім сказе). Як гэта даказаць? Можна перабудаваць гэтыя сказы ў складаназалежныя:

*Андрэй працаваў за траіх, **таму што** быў адораны незвычайнай сілай.*

*Бацька быў мяккім, добрым чалавекам, **нягледзячы на** тое, што быў адораны незвычайнай сілай.*

Гэты спосаб дапаможа табе ў такіх сітуацыях.

***Практыкаванне 8.*** Прачытай сказы, падкрэслі адасобленыя азначэнні. Якія з іх адзіночныя, а якія развітыя? Якія стаяць перад азначаемым словам, а якія пасля яго? Як гэта ўплывае на выдзяленне азначэнняў коскамі?

Мы, здзіўленыя пачутым, доўга маўчалі.
Мы, здзіўленыя і ўзрушаныя, доўга маўчалі.
Здзіўленыя ўсім пачутым, мы доўга маўчалі.

Здзіўленыя і ўзрушаныя, мы доўга маўчалі.
Мы, здзіўленыя, доўга маўчалі.
Здзіўленыя, мы доўга маўчалі.

***Практыкаванне 9.*** Замест пропускаў упішы патрэбныя словы, каб атрымаўся кароткі вывад па вывучанай арфаграме.

Калі азначаемае слова з'яўляецца ______________________ __________, то __________________ азначэнне, якое да яго адносіцца, выдзяляецца коскамі ў ____________________ палажэнні.

**Загадка**

Чаму недапасаваныя азначэнні называюцца недапасаванымі? Пабудуй свой адказ такім чынам, каб у ім упаміналіся ўсе тры віды падпарадкавальнай сувязі.

**Даведка (паўтарэнне)**




**Падказка**




***Практыкаванне 10.*** Напішы некалькі сказаў, якія апісвалі б пэўны прадмет. Выкарыстай канструкцыю:

дапасаванае азначэнне + азначаемае слова + недапасаванае азначэнне

*Яснае* неба, *з лёгкімі аблокамі на ім*, здавалася бясконцым.

***Практыкаванне 11.*** Параўнай сказы ў левым і правым слупках. Якую сэнсава-стылістычную функцыю выконваюць адасобленыя азначэнні?

| | |
|---|---|
| 1. Неба, зацягнутае шэрымі хмарамі, нізка навісала над лесам. | 1. Зацягнутае шэрымі хмарамі неба нізка навісала над лесам. |
| 2. Смуга, тонкая, сіняватая, песціла лясы і лугі. | 2. Тонкая, сіняватая смуга песціла лясы і лугі. |
| 3. Люблю свой край, зялёны і спакойны. | 3. Люблю свой зялёны і спакойны край. |

***Практыкаванне 12.*** Уключы сваё ўяўленне! Прачытай верш А. Пісьмянкова «Ліпень». Які мастацкі прыём дазволіў аўтару стварыць «маштабны паэтычны малюнак»?

Узмакрэлы і босы,
Бронзавы ад загару,
Стомлены сенакосам,
Ліпень прылёг памарыць.
Мёдам на ўсю Еўропу
Пахнуць стагі і копы.

Зрабі поўны сінтаксічны разбор першага сказа. Вызнач ролю адваротнага парадку слоў у другім сказе.

## Адасобленыя прыдаткі

***Практыкаванне 13.*** Спішы сказы, назаві прыдаткі і словы, да якіх яны адносяцца. Растлумач, чаму адны з іх пішуцца праз злучок з азначаемым назоўнікам, а другія асобна.

1. Лашчыць вока Нёман-прыгажун. 2. Тэатр імя Якуба Коласа знаходзіцца ў Віцебску. 3. Высокі клён, але ён па пояс дому-гмаху. 4. На беразе возера Свіцязь мы разбілі палаткі. 5. У адным месцы рука натрапіла на штосьці халоднае і агіднае. Гэта была жаба-рапуха.

**Падказка**

Правілы адасаблення прыдаткаў шмат у чым супадаюць з правіламі адасаблення азначэнняў, таму іх можна запомніць па аналогіі.

***Практыкаванне 14.*** Прачытай сказы. Знайдзі ў іх прыдаткі.

1. Сымон, ці, як звалі яго цяпер, Салавей, нават не варухнуўся (З. Бядуля). 2. Грабцы — дзяўчаты, маладзіцы — штораз варушацца, бо чуюць шолах навальніцы. 3. Жыхары нашых рэк — выдры

і бабры — зімою не спяць (В. Вольскі). 4. Хлеб — усяму галава, самы галоўны кармілец. Старажытныя людзі абазначалі сонца, золата і хлеб на пісьме адным і тым жа знакам — кружком з кропкай пасярэдзіне (М. Калачынскі). 5. Некалі на паўвостраве Галубоў Хутар, што ў самым канцы возера, панок адзін жыў, па прозвішчы Чапоўскі (Я. Пархута). 6. З маленства хлопчык выхоўваўся як воін (М. Багадзяж). 7. Праляцеў над галавою чорны дзяцел — жаўна (В. Казько).

## Адасобленыя дапаўненні

**Даведка**

Адасабляюцца дапаўненні, выражаныя назоўнікамі або займеннікамі ва ўскосных склонах з прыназоўнікамі **акрамя**, **апрача**, **замест**, **за выключэннем** і інш. са значэннем выключэння, уключэння, замяшчэння.

***Практыкаванне 15.*** Прачытай сінанімічныя пары сказаў. У якім сказе зварот з прыназоўнікам **акрамя** мае значэнне выключэння, а ў якім — уключэння?

1. У бібліятэцы былі толькі мы. — Акрамя нас, у бібліятэцы нікога не было.

2. У бібліятэцы былі мы і яшчэ некалькі чалавек. — Акрамя нас, у бібліятэцы было яшчэ некалькі чалавек.

**Загадка**

Як прыназоўнік **акрамя** звязаны з напісаннем устойлівых зваротаў з часціцай **ні**: *ніхто іншы*, *нішто іншае*?

***Практыкаванне 16.*** Спішы сказы, падкрэслі адасобленыя дапаўненні.

1. У белавежскіх лясах, апрача цецерукоў, жывуць рабчыкі і курапаткі (В. Вольскі). 2. На голых дрэвах, замест лісця, паклалі шэрань маразы. 3. Нешта было ў вачах дзяўчыны і акрамя прыгажосці (А. Чарнышэвіч). 4. Самалёт, апроч пасажыраў, забраў і пошту. 5. І тчэ, забыўшыся, рука, заміж персідскага ўзору, цвяток радзімы васілька (М. Багдановіч).

***Практыкаванне 17.*** Запішы сказы, пастаў патрэбныя знакі прыпынку.

1. Бацька яго загінуў на фронце, а ў маці акрамя Андрэя было яшчэ двое малодшых дзяцей Барыс і Наста (А. Чарнышэвіч). 2. Такая ідэя спадабалася ўсім уключаючы і дзяўчынак (Я. Маўр). 3. Усе вяскоўцы за выключэннем дзяцей сабраліся ўвечары на сход (М. Лынькоў). 4. Апроч чалавека бярозавікам ласуюцца і некаторыя лясныя жыхары дзятлы, берасцянкі, дразды (Р. Ігнаценка). 5. Міхасёк у лесе быў для нас замест праваднікa. 6. Але ніхто нават вецер не кранае панавісаных над платамі галін яблынь і груш у белай раскошнай квецені, а ўвосень абцяжараных плёнамі (П. Пестрак). 7. Вясною палескія рэкі выходзяць з берагоў, а некаторыя асабліва маленькія мяняюць сваю плынь і цякуць не ўніз а ўверх, назад, да сваіх вытокаў (Б. Сачанка).

## Адасобленыя акалічнасці

**Даведка**




***Паразважаем*** пра асобую форму дзеяслова — пра дзеепрыслоўе. Сапраўды, яно абазначае дадатковае дзеянне ў адносінах да асноўнага дзеяння, выражанага дзеясловам-выказнікам. А яшчэ мае цікавы выгляд: пачынаецца як дзеяслоў (і калі не дачытаць слова да канца, яго можна паблытаць з дзеясловам), а заканчваецца на -**ўшы**, -**шы**, -**ш**, -**ючы**, -**ячы**. Так канец слова і пацвярджае: «Вось яно, дзеепрыслоўе!»

## Адасобленыя ўдакладняльныя акалічнасці

***Паразважаем*** пра тое, што такое ўдакладняльныя акалічнасці. Параўнай два сказы:

*Яе сястра таксама жыла тут.*

*Яе сястра таксама жыла тут, у роднай хаце.*

У другім сказе — дзве акалічнасці, якія адказваюць на адно і тое ж пытанне. Але яны не з'яўляюцца аднароднымі, паколькі другая акаліч-

насць праз пытанне *дзе іменна?* канкрэтызуе змест першай, абмяжоўвае і звужае яе значэнне. Такія акалічнасці і лічацца ўдакладняльнымі.

Такім чынам, сэнсавая падказка — словы **а іменна**. І адпаведная інтанацыя адасаблення: паўза, павышэнне голасу ў канцы звароту...

***Практыкаванне 18.*** Прачытай сказы. Пастаў вусна адпаведныя пытанні і дакажы, у якіх сказах ёсць, а ў якіх адсутнічаюць удакладняльныя акалічнасці. Устаў прапушчаныя знакі прыпынку.

1. Ноччу нечакана падняўся моцны вецер.
   Ноччу гадзіны ў тры ён пачуў званок у дзверы.
2. На ўсходзе край неба пачаў ружавець.
   На ўсходзе каля самага лесу паблісквала возера.

**Даведка**

Спосабы ўключэння ўдакладняльных акалічнасцей у сказ

| | | |
|---|---|---|
| без злучнікаў ↓ акалічнасці месца і часу | **гэта значыць, іменна, або, прытым** і інш. | словы **нават, асабліва, напрыклад, у прыватнасці, у тым ліку** |

## II. Адасобленыя члены сказа ў маўленні

***Практыкаванне 19.*** Патрэніруйся ў будове сказаў з рознымі відамі адасобленых азначэнняў — адзіночных аднародных, развітых, выражаных дзеепрыметнікамі і прыметнікамі з залежнымі словамі... Пра што пісаць? Дзень, раніца, вечар... Твае справы і турботы... Школа... Кнігі... Сябры...

У з о р: Дзень, *поўны звычайных спраў, турбот і хваляванняў*, падыходзіў да канца.

***Практыкаванне 20.*** У тэксце ўстаў і растлумач прапушчаныя знакі прыпынку. Падкрэслі адасобленыя азначэнні. Як ты разумееш выраз **птушыная мова**?

Яны арганізавана выступілі супроць мяне. Адзін з іх, па прозвішчы Хведар Трайка, чалавек вельмі невялікага росту, увесь зарослы валасамі, як шчацінай, з лупатымі вочкамі і ў зрэб’і, нахабна гледзячы ў вочы мне, закончыў сваю прамову:

— Таварыш гаварыў, гаварыў нам, а мы сядзелі, як мамоны глухія! Нічога не разумелі! Нейкая птушыная мова!

*А. Мрый.*

### Заданні для самастойнай працы

1. Адзнач правільнае сцвярджэнне.

Адасобленыя члены сказа — гэта...

а) члены сказа, якія выконваюць аднолькавую сінтаксічную функцыю, звязаны паміж сабой злучальнай сувяззю;
б) члены сказа, выдзеленыя па сэнсе і інтанацыйна;
в) дададзеныя члены сказа, якія абазначаюць прадмет, аб'ект дзеяння ці стан.

2. Запішы толькі тыя сказы, у якіх правільна выдзелены адасобленыя члены:

а) Сакратар надзеў акуляры і гледзячы на карту, усміхнуўся.
б) Ён, рукі склаўшы, сядзець не будзе.
в) Дыхнуў густы, цёплы ветрык.
г) Вецер, рэзкі і пявучы, часта свішча пад акном.
д) Пад'ехаўшы да школы, Лабановіч выскачыў з драбінак і ўзышоў на ганак (Я. Колас).
е) Як лепшага калгасніка, яго накіравалі на вучобу ў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію.
ё) Валодзька хуценька апрануўся і, не снедаючы, выбег з хаты.

3. Знайдзі сказы, якія пабудаваны няправільна. Запішы свой варыянт.

а) Назбіраныя грыбы за дзень турысты падсмажылі на вячэру.
б) Даручанае класу заданне настаўнікам мы выканалі ахвотна.
в) Ля дарожкі раслі кветкі пасыпанай жоўтым пясочкам.
г) Партызаны адпачывалі на паляне, акружанай з усіх бакоў сцяною лесу.

## *ПАБОЧНЫЯ КАНСТРУКЦЫІ І ЗВАРОТАК. СЛОВЫ–СКАЗЫ*

## І. «Выратавальныя» словы: пабочныя і ўстаўныя канструкцыі

***Практыкаванне 1.*** Прачытай сказы. У якім з іх ёсць пабочнае слова? Па якіх прыметах яго можна пазнаць? Як яно выдзяляецца на пісьме?

1. Поўнасцю верагодна, што гэта магло здарыцца ў наш час. 2. Ніхто з прысутных не чакаў такога павароту падзей. 3. Ніхто з прысутных, верагодна, не чакаў такога павароту падзей.

Падкрэслі члены сказа ў першым і трэцім сказах. Ці супадае поўнасцю змест гэтых выказванняў?

Прачытай уголас другі і трэці сказы. Чым адрозніваецца іх інтанацыя?

***Практыкаванне 2.*** Прачытай жартоўнае азначэнне тэрміна, сфармуляванае васьмікласнікам. У чым ты можаш з ім пагадзіцца?

**Пабочныя словы — гэта тое, што па жаданні ўводзіцца і пры патрэбе (для праверкі) выводзіцца без усякай шкоды для сказа.**

**Падказка**

Пабочныя словы, словазлучэнні, сказы ← адносіны моўцы да паведамлення

**[П. с., ...].  [..., п. с., ...].  [..., п. с.].**

***Практыкаванне 3.*** Запішы сказ, уключыўшы ў яго тры-чатыры пабочныя словы, якія выражаюць адносіны да паведамлення, розныя пачуцці, крыніцу паведамлення ці інш. Ужывай пабочныя словы ў пачатку, канцы, сярэдзіне сказа.

Канцэрт групы «Дзецідзяцей» пераносіцца.

***Практыкаванне 4.*** Прачытай два сказы. Ці пагодзішся ты, што ў дадзеным выпадку без уліку інтанацыі практычна немагчыма распазнаць пабочныя словы?

**1. За гэтым пагоркам, відаць, ужо аграгарадок. 2. За гэтым пагоркам відаць ужо аграгарадок.**

**Падказка**

Сувязь пабочных слоў са сказам ці яго часткай

1) па сэнсе

2) пры дапамозе інтанацыі (у вусным маўленні)
↓
Пабочная інтанацыя = паўзы + больш хуткае вымаўленне

... ‖ ++++ → + ‖, ...

не граматычная
↓
не члены сказа

***Практыкаванне 5.*** У парах наступных сказаў вызнач, калі выдзеленыя словы з'яўляюцца членамі сказа, а калі — пабочнымі словамі. Пакажы гэта графічна. Расстаў патрэбныя знакі прыпынку.

1. Змрочнай здавалася Міхасю гэтая будыніна. Месяц здавалася ў здзіўленні спыніўся і спакойна паглядаў з неба.

2. Гэта табе я хацеў бы падарыць на шчасце. На шчасце адразу пачалі збягацца людзі.

3. Даўгахвостая вавёрка, нечым відаць спалоханая, рыжай маланкай узлятае ўгару. Праз празрыстую ўпакоўку была відаць шыкоўная лялька.

***Практыкаванне 6.*** Складзі сказы з прапанаванымі словамі так, каб у адным выпадку яны былі пабочным словам, а ў другім — членам сказа.

На дзіва, па-вашаму (па вашаму), можа.

**Даведка**

Каб знайсці ў сказе пабочнае слова, можна карыстацца наступнымі прыёмамі:

1) апусціць мяркуемае пабочнае слова і пераканацца, што захаваўся асноўны змест сказа;

2) разабраць сказ па членах і пераканацца, што пабочнае слова ў іх склад не ўваходзіць;

3) замяніць пабочнае слова іншымі пабочнымі словамі, блізкімі па значэнні.

***Практыкаванне 7.*** Спішы сказы, пастаў патрэбныя знакі прыпынку. Калі выдзеленыя словы з'яўляюцца членамі сказа, графічна пазнач іх сінтаксічную ролю.

1. А ў сонечны дзень **бывала** сяджу, гляджу... **Здаецца** такіх воблакаў, як сёння, не бачыў ніколі (І. Грамовіч). 2. Напісаў я тады **думаю** не менш за дзвесце вершаў, але нікому іх не паказаў (У. Караткевіч). 3. Сонца, ахутанае шэраю смугою, нясмела і ленавата ўставала з-за лесу, і **здавалася** што яму не хочацца прачынацца (Я. Брыль). 4. Надзвычайна ўрачыстымі **здаваліся** дрэвы ў густым бары, паскідаўшыя снегавыя шапкі і зімовую панурасць (М. Лынькоў). 5. І калі над гэтым жытнёвым морам раптам падымаецца, шырока распасцёршы пругкія крылы, сівы лунь у нас яго называюць яшчэ мышаловам міжволі **здасца** табе, што гэта сапраўды мора, у якім дзесьці на небасхіле праплывае малюсенькі паруснік

(Р. Ігнаценка). 6. На возеры нікога не было **відаць,** і толькі шумелі і набягалі на бераг хвалі (С. Грахоўскі). 7. Зайздроснік нават спаць не мог спакойна, усё думаў, што б зрабіць яму ліхое. І **нарэшце** вырашыў забраць у яго слых, каб той ніколі больш не пачуў людской удзячнасці (Н. Мацяш). 8. Шчыра **кажучы** ён і сам баяўся хадзіць па цёмных пушчанскіх дарогах і сцежках у гэты неспакойны час (Я. Сіпакоў). 9. Я паціху ішоў міма, а хлопчык, нібы той сланечнік, паварочваў следам за мной свой круглы тварык. З вачэй яго пырскала шчасце, і **здавалася** што ён вось-вось нешта скажа (Я. Маўр). 10. Адкуль ні вазьміся, усё роўна як з-пад зямлі, выскачыў аднекуль бяздомны сабака. Брудны, перахлябісты па ўсім **відаць** галодны (Б. Сачанка). 11. Што такое наша Зямля? Даўным-даўно, яшчэ з часоў Каперніка **вядома** што гэта — звычайны, трохі выцягнуты ў полюсах шар, які круціцца па арбіце вакол Сонца (З. Прыгодзіч).

**Даведка**

Адрознівай:

1) здаецца *каму?*
(здавалася) *што?*
2) [Аднак...].
[ ], аднак [ ]. — злучнік = але

..., здаецца, ...
..., здавалася, ...
[..., аднак, ...].
[..., аднак]. — пабочнае слова

***Паразважаем*** пра тое, наколькі багатая катэгорыя пабочных слоў... Безумоўна, іх вельмі многа, іх значэнні надзвычай разнастайныя. Толькі ў вашым школьным падручніку іх названа каля ... разрадаў па значэнні і прыкладна ... пабочных слоў. У іншых дапаможніках называецца больш за 90 слоў і разрадаў, канечне, больш. Відаць, іх патрэбна было б ведаць, але больш важным з’яўляецца ўсё ж такі ўменне знаходзіць пабочныя словы ў тэксце і ўменне ўжываць, а значыць, і правільна ставіць знакі прыпынку. Магчыма, ёсць сэнс скласці для сябе спіс пабочных слоў, «самых-самых», якія часцей, як бачым, ужываюцца і патрэбныя, скажам, пры напісанні сачынення. (Пераканайся, як многа пабочных слоў у гэтым тэксце.)

*Паводле А. Брусінай.*

Канечне, безумоўна; магчыма, відаць, здаецца, па-мойму; на жаль, па-першае, і так, такім чынам, значыць...

Прадоўжы гэты рад для сябе...

***Практыкаванне 8.*** Прачытай верш. Вызнач у ім пабочныя словы. Што яны выражаюць? Як выдзяляюцца на пісьме?

Так ужо заведзена спрадвеку —
Можа, прымха,
Можа, Божы знак —
Толькі на Радзіме чалавеку
Ходзіцца і дыхаецца ўсмак.
І заўжды здаецца нават зверу
Найцяплейшай **родная зямля.**
Гэта ўсё я на сабе праверыў,
Даўшы па планеце кругаля.

*Г. Бураўкін.*

Ці згодны ты з аўтарам? Творы якіх пісьменнікаў на гэтую тэму ты ведаеш?

Запішы 3—4 прыказкі, якія адлюстроўвалі б ідэю гэтага верша.

Зрабі сінтаксічны разбор выдзеленага словазлучэння.

***Практыкаванне 9.*** Удумліва прачытай верш, напісаны Н. Арсенневай у дзевятнаццаць год. Вызнач, да каго звяртаецца аўтар, якую думку сцвярджае. Знайдзі пабочныя сказы, выпішы іх. Падумай, як дапамагаюць яны аўтару выказаць асноўную думку верша.

**Мэта жыцця**

Мэта жыцця, кажуць людзі без сілы,
Мэта жыцця — дачакацца магілы.
Як пражывеш ты, сумленна ці не,
Ці не ўсё роўна — бо смерць не міне.
Мэта жыцця, кажуць поўныя сілы,
З доляй змагацца да самай магілы,
Веры не траціць і страху не мець,
Смела байцамі памерці, згарэць.
Мэта жыцця, яшчэ кажуць, не йрвацца
У неба, а толькі зямлі прыглядацца.
Зведаць грахі ўсе, ўсяго спрабаваць,
Каб не так горка было паміраць.
Мэта жыцця, ўрэшце кажуць, хавацца
З сэрцам ад смуткаў, з слязіма не знацца.
Думкі аб праўдзе? Дурное — і ўсё!
Мэта жыцця — захаваць жыццё!

У залежнасці ад кантэксту паспрабуй замяніць або ўставіць у пабочныя сказы словы з антанімічных пар: песіміст — аптыміст, рамантык — рэаліст.

Ці задумваўся ты пра сэнс жыцця?

Перачытай канцоўку тэксту. Знайдзі пабочнае слова. Якую функцыю выконвае яно ў будове тэксту?

Назаві словы, якія не адпавядаюць арфаграфічным і граматычным нормам сучаснай беларускай літаратурнай мовы.

## ІІ. Зваротак — самы яркі этыкетны знак

***Практыкаванне 10.*** Уяві сабе, што да аднаго і таго ж чалавека (праграміста Алеся Іванавіча Семенюка) звяртаюцца сястра, дачушка, калега, начальнік аддзела, у якім працуе Семянюк:

**— Татачка! Прывітанне!**
**— Прывітанне ў хату, Алесік!**
**— Здароў будзь, Алесь!**
**— Маё шанаванне, Алесь Іванавіч!**

Ці можна вызначыць, хто з якой рэплікай звяртаецца да праграміста Семенюка? Што дапагае нам адказаць на пастаўленае пытанне?

***Практыкаванне 11.*** Прачытай сказы.

**1. Пешаходы, пераходзьце вуліцу толькі на абазначаных пераходах!**
**2. Пешаходы пераходзяць вуліцу толькі на абазначаных пераходах.**

Уважліва разгледзь схемы. Чым адрозніваюцца сказы, паказаныя на іх?

а) [ ______ ====== - - - - - - - - | _._._._._ ].
б) [ Зв., ====== - - - - - - - - - | _._._._._._ ]!

Які сказ адпавядае першай схеме, які — другой? Station Паназірай за інтанацыяй звароткa (асаблівае павышэнне голасу на слове-зваротку, паўза пасля яго). Якой часцінай мовы і ў якой форме выражаны зваротак? А дзейнік? Як іх можна адрозніць?

**Падказка**

Знакі прыпынку пры зваротку

[Зв., ...].    [..., зв., ...].    [ ..., зв.].
[Зв.! ...].

Клічная інтанацыя — паўзы, узмоцнены націск, больш высокі тон.

***Практыкаванне 12.*** Прачытай сказы, захоўваючы патрэбную інтанацыю.

1. Васілінка, прыехаў Паўлік.
2. Васілінка, прыехаў Паўлік?
3. Васілінка, прыехаў Паўлік!
4. Васілінка прыехала, Паўлік.
5. Васілінка прыехала, Паўлік?
6. Васілінка прыехала, Паўлік!

***Практыкаванне 13.*** У якіх з наступных сказаў ёсць звароткі, а ў якіх яны адсутнічаюць? Чаму, каб пераканацца ў гэтым, патрэбна ў сказе выдзеліць дзейнік і выказнік? Падкрэслі іх. Пастаў патрэбныя коскі.

**А)** 1. Каля дуба бярозка ўзнялася высока, белакорая станам і ліствой яснавока. 2. Расла там бярозка другая, такая ж, як ты беластанная. 3. Бярозка мая беларуская, агнёвай плакучаю хусткаю маланка цябе атуліла. І ўся ты панікла без сілы... (К. Буйло).

**Б)** 1. Звонкаструнны ты, мой лесе, галасісты гай, для мяне, якую хочаш, песню заспявай (А. Русак). 2. Лес мой бяссонны! У час навальніцы буду разгадваць твае таямніцы (Г. Кляўко). 3. Побач чыгункі стаяў высокі стары лес, таемны, пануры і важны (Я. Колас).

**В)** 1. Шчаслівы той, хто нарадзіўся і вырас у родным краі, увабраў сваёю душою чысціню крыніц, пах кветак і зямлі і неба вышыню, — радзіма ў чалавека адна, адвечная, непаўторная, як матчына песня (В. Жуковіч). 2. Зырчэй ад зыркага кіліма душу лагодзіць, цешыць вока мая святочная Радзіма ад Брэста да Ўладзівастока (У. Паўлаў). 3. Сню цябе, Радзіма, па начах, адзіную ў свеце, святую (А. Астрэйка).

**Даведка**

Каб адмежаваць зваротак ад дзейніка, важна ўбачыць **граматычную** сувязь дзейніка з выказнікам. Зваротак не з'яўляецца дзейнікам, не звязаны з іншымі словамі сказа.

***Практыкаванне 14.*** У якіх сказах пры звароткy ёсць часціца, а ў якіх выклічнік? У чым розніца ў такім выпадку ў пунктуацыі?

1. Ой ты, месяц, любы дружа, паплыві на мора (А. Русак). 2. Эх вы, дарогі жыцця, што там за вамі ўдалі? (М. Танк). 3. Ай, сонечная вуліца, як цябе не любіць! (А. Астрэйка). 4. О, хлопчыкі, тут лес прыўдалы! (Я. Колас). 5. Ану, хлопцы, варушыся хутчэй (М. Лынькоў). 6. Эй, хлопцы, хлопчыкі! Уставайце! Кароў на пашу выганяйце! (Я. Колас). 7. О ўтрапёны агонь, як ты хутка згараеш! (У. Караткевіч). 8. Ах, сны, летуценні мае залатыя, які ж вы саткалі ўзор! (П. Глебка).

**Падказка**

**Часціцы**, што стаяць перад звароткамі, ад іх не аддзяляюцца: **о**, **ах**, **а**: *О зямля! Ты даеш нам тугу па небе, але не меншая наша туга па табе* (М. Стральцоў).

Калі ж перад звароткам знаходзіцца **выклічнік: ах, ох, ура, ой, гэй** і інш. (у адрозненне ад часціцы ён акцэнтуецца), то выклічнік аддзяляецца коскай ці клічнікам: — *Эх, панове, панове... Навошта ж вы куплялі ў таго круцяля насенне «ветрык»?* (П. Васючэнка).

Калі перад звароткам стаяць выклічнік і займеннік **ты** або **вы**, выдзяляецца коскай толькі зваротак: *Ой вы, гусі, паняслі вы за сабою лета!* (Я. Колас).

Выклічнік (як заклік да ўвагі) можа і сам выступаць у якасці зваротка: *Гэй, беражыся!*

*Паводле Н. С. Валгінай.*

***Практыкаванне 15.*** Спішы сказы, пастаў патрэбныя знакі прыпынку. Падкрэслі звароткі. Графічна абазнач, якія звароткі развітыя, якія не.

1. Беларусь зямля нашых бацькоў і прадзедаў хораша разлеглася ты на ўлонні старажытнай маці-планеты. І абрысы твае, можна сказаць, сімвалічныя і высакародныя. Яны нагадваюць на картах чалавечую далонь (М. Гамолка). 2. Не пакідай мяне мой светлы сум, з табой мне хораша на адвячорку хадзіць і слухаць лесу ціхі шум, пакуль суцемак не запаліць зорку (Н. Гілевіч). 3. Зямля-карміцелька Яшчэ далёкія продкі прыкмецілі, пакінулі нам у неўмiручую спадчыну сваё адкрыццё: «Пад сонцам няма нічога мілейшага за цябе» (П. Прыходзька). 4. Бярозка мая белакрылая Якая ж ты сонейка мілая, спускаеш пушыстыя вецці і сінімі іскрамі свеціш (К. Буйло). 5. Што ж маўчыш ты гусляр ніў, лясоў песнябай? (Я. Купала). 6. О вецер О ветрык мой ціхі Ну хіба ж ты зычыш мне ліха? (А. Бялевіч) 7. Гуслям княжа не пішуць законаў (Я. Купала). 8. «Што Пятроўна сабралася ўжо ў шлях-дарожку? Нагасцілася ў сына?» Суседка стаіць, прыхіліўшыся да дзвярэй, зычліва жмурыць на маці шэрыя вочы. «Збіраюся, збіраюся Насця». 9. Дзед Ягор памаўчаў нейкую хвіліну, а потым сказаў: «Вось што хлопча заўтра нядзеля, у школу ісці не трэба, і мы пойдзем з табой па пралескі» (Я. Бяганская). 10. Мама ляжала ў ложку, калі дзверы раптам расчыніліся і ў палату ўвайшоў Міхась, несучы перад сабой букет сініх пралесак. «Міхасёк сынок мой адкуль у цябе гэты

цуд?!» (Я. Бяганская). 11. «А як жа вас зваць?» — пытаюся. «Людзі бабаю Вераю клічуць… А хто доктаркаю ці знахаркаю не саромеецца ахрысціць. Не крыўджуся — хай!» Бабка Вера… Штосьці ў яе імені падалося мне сімвалічным. 12. Шчаслівей даваць, чым браць. Дык навучымся людзі шчыра аддаваць сваю дабрыню, ласку, спагаду, міласэрнасць (У. Луцэвіч).

***Практыкаванне 16.*** Прачытай тэкст. Вызнач яго тэму і асноўную думку.

**Музыка слоў**

Гавары мне, яшчэ гавары!
Гнецца ветка пад ветру падзьмухам…
А твой голас — як шум у бары,
Мне б яго толькі слухаць і слухаць.

Так пісала Канстанцыя Буйло ў адным з вершаў. Па-жаночы шчыра прызналася пра тое, што значыць музыка слоў каханага чалавека. І гэта вялікае чараўніцтва прыдумалі і стварылі людзі. Чаму ж ім часам так цяжка падабраць тыя самыя словы, якія здольныя разбіваць камяні?..

А можа і не так ужо цяжка, калі рабіць гэта па-беларуску? Бо наша мова проста створана для пяшчоты, якая з веку ў век, з пакалення ў пакаленне перадавалася ў вібрацыях гукаў, мяккасці, мілагучнасці выразаў. І нездарма пяшчотай напоўнены самыя цёплыя словы — тыя, якімі мы ласкава называем блізкіх: *татка*, *матулечка*, *бабулька*, *дзядок*, *браточак*, *сястрыца*.

Нават звычайныя звароты да чужых людзей беларусы ператваралі ў прыклад найвышэйшай пашаны. Нашы людзі здаўна любілі ўжываць словы з памяншальна-ласкальнымі суфіксамі, якія здольныя рабіць цуд, яднаючы розных людзей: *браток ты мой*, *даражэнькі*, *каханенькія-родненькія*, *сяброўвачка* (*сябручок*), *суседачка*, *спадарынька*. Гэтыя выразы прыйшлі ў беларускую літаратуру, якая з'яўляецца сапраўднай скарбніцай ласкавых слоў.

Але асабліва дапаможа гэтая скарбніца закаханым. І калі пачытаць беларускіх паэтаў, то пяшчота стане часткай душы, якая назапасіць ласкавых прыгожых слоў на кожны новы дзень. Як называць ЯЕ? *Князёўна*, *паннaчка*, *ясачка*, *ласачка*, *красуня бярозка*, *ластаўка легкакрылая*, *зорачка спагадная*, *сонейка яснае*, *шыпшына*, *кветачка*, *лілея*, *гаспадынька*… Ці хоць бы працытаваць словы Караткевіча: «*Ты — нечаканая радасць. Ты — ночы ласкавай крок*».

Знойдуцца словы і для ЯГО: *міленькі*, *любы*, *каханы*, *галубочак мой*, *анёл ясны*, *саколік*, *князюхна*, *ясакар*, *ясны пан*, *уладар*, *волат*, *гаспадар*, *галава*...

Нашы продкі тонка вызначалі пачуцці, таму і не задаволіліся адным словам «*люблю*», а стварылі сваё адмысловае «*кахаю*». Любіць можна ўсіх, а вось кахаць: дзяўчыну, хлапчыну, сваю палавіну.

Дарыце ім радасць прыемных слоў штодня, і вы зразумееце, якую чароўную сілу мае ласкавае слова, калі яно сказана на роднай мове! Можаце нам паверыць — на слова.

*Звяздоўцы.*

Якія звароткі ты выкарыстоўваеш у сваім маўленні?
Падрыхтуй тэксты, у якіх ёсць звароткі.

## III. Словы–сказы, або Што такое *безумоўна*?

***Паразважаем!*** Уважліва прачытай наступны тэкст. Зрабі сінтаксічны разбор сказаў-прыкладаў. Сфармулюй адказ на пытанне: «Што такое *безумоўна*?»

На пытанне «Ты ўдзельнічаеш у конкурсе?» можна адказаць па-рознаму: 1) *Я ўдзельнічаю ў конкурсе* (хоць і не часта, але такі поўны адказ магчымы); 2) *Удзельнічаю*; 3) *У конкурсе?*; 4) *Так*; 5) *Безумоўна*.

Гэтыя адказы розныя па сваёй сінтаксічнай прыродзе. У адказе 1 лёгка выяўляецца граматычная аснова — дзейнік і выказнік — *я ўдзельнічаю*, гэта двухсастаўны сказ. У адказе 2 граматычная аснова таксама ёсць: выказнік *удзельнічаю* выражаны дзеясловам 1-й асобы, адзіночнага ліку цяперашняга часу абвеснага ладу: у сказе выражаюцца адносіны да пэўнай асобы — гэта аднасастаўны пэўна-асабовы сказ. У адказе 3 выражаных словамі галоўных членаў няма, але ёсць пазіцыя выказніка, паказчыкам якой з’яўляецца дапаўненне *ў конкурсе*, значыць, гэта сказ, хоць і няпоўны. У адрозненне ад першых трох сказаў у адказах 4, 5 няма ні дзейніка, ні выказніка, ні іх пазіцый, значыць, яны не маюць граматычнай асновы. Іх значэнне своеасаблівае — значэнне сцвярджэння. Вось яшчэ прыклады: 6) — *Я ж не з-за гэтага да вас прыйшоў.* — ***Вось і добра...*** 7) *Бандэроль вашу атрымалі.* ***Дзякуй.*** 8) ***Дабранач!*** *Пасля патэлефаную.*

Усе выдзеленыя часткі не маюць ні выражаных словамі дзейніка і выказніка, ні іх пазіцый. Іх значэнні — выражэнне згоды **(6)**,

падзякі (7), развітання (8). Марфалагічнае напаўненне падобных канструкцый таксама своеасаблівае: гэта не знамянальныя словы, а словы **так (4)**, **не**, марфалагічная прырода якіх да гэтага часу канчаткова не ўстаноўлена; часціцы і іх спалучэнні (прыклад 6, а таксама **бывае**, **дакладна**, **вось іменна** і інш.), у прыватнасці тыя, што абслугоўваюць сферу этыкету (7, 8, а таксама **ах**, **вох**, **вось табе і маеш** і пад.); мадальныя словы, гэта значыць словы, якія выражаюць суб'ектыўна-мадальныя адносіны моўцы да таго, пра што і як ён гаворыць (адказ 5, а таксама **канечна**, **магчыма**, **безумоўна** і інш.).

Агульнавядома, што кожны сказ павінен мець граматычную аснову — дзейнік і/ці выказнік (іх пазіцыі могуць быць незамешчанымі), якія фарміруюць граматычнае значэнне сказа — прэдыкатыўнасць. Як жа кваліфікаваць разгледжаныя намі адрэзкі без граматычнай асновы? У школьным падручніку разглядаюцца словы-сказы на той падставе, што яны ўжываюцца як самастойныя сказы, і яшчэ таму, што па сэнсе яны раўняюцца цэламу сказу. Гэта так: канструкцыя 4 па інфармацыі, заключанай у ёй, можа быць прыроўнена да сказа 1. Не выпадкова існуюць канструкцыі, дзе яны ўжываюцца побач, узмацняючы і канкрэтызуючы адна адну, напрыклад: — Так, удзельнічаю. Іх кола пашыраецца за кошт выклічнікавых сказаў, што ўтвараюцца выклічнікамі. Такім чынам, гэтыя канструкцыі застаюцца сказамі, хоць і агаворваецца, што гэта словы.

Сустракаецца яшчэ і тэрмін, замацаваны за гэтымі канструкцыямі, — **нечлянімыя** сказы. Гэтым падкрэсліваецца, што ў сказе нельга выдзеліць члены сказа.

Безумоўна, гэта не граматычныя сказы, а своеасаблівыя замяняльнікі іх. У навуцы іх у адрозненне ад граматычных сказаў называюць **выказваннямі**, адзначаецца, што «выказванне ў любым выпадку інфармуе аб чым-небудзь ці заключае ў сабе пытанне».

Якія яшчэ значэнні могуць мець выказванні? Яны выражаюць сцвярджэнне, згоду, нязгоду, эмоцыі:

9) — *Вы са сталіцы?*

— ***Так.***

— *Тады выведу вас на дарогу.*

— ***Дзякуй вялікі**, мне тут не збіцца.*

— *Ну, тады з богам* (К. Жук);

10) *Наглядзеўшыся ў люстэрка, дачка села за стол і гукнула:*

— ***Ну**, ці скора там?* (М. Чарнышэвіч);

11) *А вось і бацька. Ён яшчэ здалёк вітае сына:*
— ***Салют!*** *Што новага, лясны гаспадар?* (Я. Бяганская).
Падобныя выказванні выкарыстоўваюцца ў гутарковай мове.

Разам з тым разгледжаныя вышэй словы, што ўтвараюць выказванні, у асобых умовах могуць змяняць сваю сінтаксічную прыроду. Так, мадальныя словы (толькі яны!), ужытыя не ізалявана, а ў спалучэнні з граматычнымі сказамі, выступаюць як пабочныя і выказвання не ўтвараюць. Вось два сказы: 12) — *У вашай творчасці будуць прысутнічаць розныя электронныя элементы?* — ***Безумоўна!***

**Безумоўна** ў гэтым выпадку абазначае сцвярджэнне, пацвярджэнне, ужыта ізалявана і з'яўляецца выказваннем. 13) ***Безумоўна,*** *у нашай творчасці будуць прысутнічаць розныя электронныя элементы.* **Безумоўна** тут ужыта ў спалучэнні са сказам, мае другое значэнне — «без сумнення» — і з'яўляецца не выказваннем, а пабочным словам.

У канкрэтных умовах словы, якія ўтвараюць выказванні, могуць заняць і сінтаксічную пазіцыю ў граматычным сказе, а значыць, выконваць функцыю гэтага члена. Параўнаем два сказы: 14) — *Да пабачэння! — Міколка павярнуўся да дзяўчат, усміхнуўся і пайшоў.* 15) *Трэба навучыцца казаць «да пабачэння» з адпаведнай інтанацыяй.* У сказе 14 **да пабачэння** ўжыта ізалявана, гэта словы прывітання — формула маўленчага этыкету, тут няма пазіцый членаў сказа, значыць, гэта выказванне. А ў сказе 15 **да пабачэння** ўжыта не самастойна, а ў пазіцыі дапаўнення (казаць — што? — да пабачэння) і, значыць, у гэтым кантэксце з'яўляецца дапаўненнем. Але (заўважце!) у такім ужыванні яно набывае прыметы назоўніка, гэта значыць субстантывуецца (ад лац. *substantivum* — назоўнік).

Асобна патрэбна спыніцца і на слове **не**. Прааналізуем сказы: 16) ***Няма*** *ў іх дамах ні музыкі, ні смеху.* — 17) ***Няма****, пакуль што не прыязджала, — літаральна з парога адказала суседка па кватэры, калі я спытаўся ў яе пра сястру* (А. Жук). У сказе 16 **няма** мае значэнне «адсутнічае, не існуе» і займае пазіцыю выказніка ў безасабовым сказе. У сказе 17 **няма** выражае адмаўленне і ўтварае сваю ўласную адзінку — выказванне (*В. М. Чупашава*).

### Падказка

Існуюць розныя сінтаксічныя пабудовы — сказы, якія маюць граматычную аснову і прэдыкатыўнасць, і выказванні, якія не маюць граматычнай асновы і прэдыкатыўнасці, а з'яўляюцца

адзінкамі паведамлення, выражаючы якую-небудзь агульную інфармацыю ці агульнае пытанне. У асобых умовах ужывання выказвання, змяніўшы сваю граматычную прыроду, могуць выконваць іншыя функцыі — быць пабочнымі словамі ці займаць пазіцыі членаў сказа.

***Практыкаванне 17.*** Вызнач, у якіх выпадках словы **не**, **няма** з'яўляюцца выказваннем, а ў якіх — выказнікам безасабовага сказа.

1) — У вас дранікі на абед? — **Не!** 2) Па словах спевака, сапраўдных сяброў у шоў-бізнэсе ў яго **няма**, хаця кантактуе ён з многімі. 3) Лявон Вольскі прадставіў новы праект «Такога **няма** нідзе». 4. Да Міколы **няма** зімы ніколі. 5) **Не**, не можа спаць хлапчына гэткім ранкам залатым: ходзіць статак па лагчыне, Федзя мусіць быць пры ім.

***Практыкаванне 18.*** Знайдзі ў прапанаваных тэкстах выказванні. Вызнач іх значэнні.

1. Стары павярнуўся на галасы. Я таксама глянуў у той бок і ўбачыў фігуру аленя ў школьным парку.

— Нібы жывы! — сказаў я.

Стары Васіль кінуў на мяне кароткі пагляд і загаварыў:

— Эге, жывы... (Я. Зазека).

2. Разы са тры спыняліся. Дзядзька Коля злазіў на зямлю і панура бурчаў:

— Заела, ліха на яго. — І разам з Юркам прымаўся правіць ланцуг транспарцёра ці яшчэ што (Т. Хадкевіч).

3. — Страшна, Юзік? — пытаўся дзядзька Коля.

— Не, — адказваў Юзік, адчуваючы ў той час, як усяго прабіраюць дрыжыкі (Т. Хадкевіч).

4. А вось і бацька. Ён яшчэ здалёк вітае сына:

— Салют! Што новага, лясны гаспадар? (Я. Бяганская).

5. — Вова! Ты гэта што? — спытаў у здзіўленні Адам Ігнатавіч.

— Не ты Ніну, а яна цябе возіць? Ну і рыцар! Хіба рыцары гэтак робяць, га? (Н. Гілевіч).

6. — Платон Іванавіч, сыграйце вы што-небудзь, калі ласка, — пачуўся з процілеглага боку салона голас жанчыны (А. Пальчэўскі).

***Практыкаванне 19.*** Прывядзі прыклады сказаў, падзяліўшы іх на дзве групы ў залежнасці ад сінтаксічнай характарыстыкі выдзеленых слоў: 1) выказванне; 2) члены сказа.

# ПАДАГУЛЬНЕННЕ І СІСТЭМАТЫЗАЦЫЯ

***Практыкаванне 1.*** Прачытай тэкст. Пра якую адметнасць сінтаксісу беларускай мовы гаворыцца ў нататцы? Выпішы з тэксту прыклады адметных беларускіх словазлучэнняў і сказаў, зрабі іх сінтаксічны разбор.

**Вакол «акаляючага асяроддзя»**

Жыхар Мінска Уладзімір Сікірыцкі ў сваім пісьме звяртае ўвагу на тое, што «апошнім часам зноў зачасціліся ўжыванні *дзеючая асоба* замест *дзейная*. Нават такі ўжо, здавалася б, трывалы тэрмін *навакольнае асяроддзе* раптам у пэўнай газеце ператвараецца ў даўно забытае *акаляючае асяроддзе*.

А для нашай мовы, як вядома, нехарактэрныя дзеепрыметнікі цяперашняга часу на *-**уючы***, *-**юючы***, *-**аючы***, *-**яючы***, *-**аемы***».

Слушная заўвага! Згадаем тут хоць бы два аўтарытэтныя выказванні. Кузьма Чорны ў даваенныя гады пісаў: «...Я вось са сваёй мовы выкараняю гэтакія формы і магу без іх выказаць беларускаю моваю, што хачу». Якуб Колас у пасляваенныя гады адзначаў: «Без усякай патрэбы і радыё, і беларускія газеты засмечваюць мову не ўласцівымі ёй формамі, як “выдаткаваемыя”, “засылаемыя”, “брыгада, узначальваемая”, “навучаючыйся”, якія не бытуюць у беларускай мове».

Сёння, трэба адзначыць, наватвор Пятра Глебкі *навучэнец* канчаткова выгнаў з нашага друку *навучаючагася*. Ды ўсё ж забывацца пра нехарактэрныя формы не выпадае. І таму яшчэ раз варта нагадаць пра тубыльцаў, якія прыходзяць на дапамогу нашай мове там, дзе ў рускай мове шчыруюць дзеепрыметнікі цяперашняга часу.

Пэўна, усім вядома, што тут добра пачуваюць сябе азначальныя сказы. Читающая ученица — вучаніца, якая чытае; читаемая книга — кніга, якую чытаюць, і да т. п. Аднак бяда, калі амаль адзінаю формаю перакладу рускіх дзеепрыметнікаў робіцца азначальны сказ. Доўгая шматкіламетровая гайданка такіх сказаў наганяе невыносную сумоту на чытача. І дзе? Пры чытанні перакладаў выдатных рускіх класікаў. Уявіце сабе: у «Герою нашага часу» М. Ю. Лермантава на беларускай мове колькасць азначальных сказаў павялічылася на 40 адсоткаў! Хоць на хвіліну паспрабуйце адчуць тут стыль мастака, у якога заклікаў вучыцца Леў Талстой!

У дзеепрыметніка асноўнае — прымета па дзеянню. Таму ў рускага дзеепрыметніка вельмі часты сябар — беларускі прыметнік. Дарэчы, у нашай мове ёсць цэлая група слоў, якім няма адпаведных прыметнікаў і якім адпавядаюць па форме дзеепрыметнікі:

заіклівы — заикающийся, наступны — следующий, прытульны (пінжак) — прилегающий і інш.

Пачуем: *праніклівая золь* і да яе просіцца руская *пронизывающая сырость*. Разгарніце двухтомны «Беларуска-рускі слоўнік» (Мінск, 1988), і вы знойдзеце мноства адпаведных прыкладаў.

Што да тэрміналогіі, то і рускі дзеепрыметнік, уваходзячы ў тэрмін, сам шмат траціць ад свае першапачатковай функцыі і набывае рысы прыметніка. Таму пры тэрміналагічных праблемах важна знайсці або ўтварыць адпаведны прыметнік, які б паказваў на дзеянне. Тут дзеяслоўны корань любяць абступаць прыстаўкі і суфіксы.

Не забываймася: рускія дзеепрыметнікі ў залежнасці ад сваіх формаў, ад абставінаў кантэксту і часу гавораць кожны раз іншае. І «говорить плачущим голосом» — гэта можа быць адзін раз «гаварыць (казаць) плаксівым голасам», другі раз — «гаварыць (казаць) праз плач (з плачам)», трэці раз — «гаварыць плачучы», а падчас нават і «гаварыць (казаць) і плакаць», у залежнасці, што больш падкрэсліваецца.

А цяпер паспрабуйце зрабіць адваротны пераклад з беларускай мовы на рускую гэтых прыкладаў. У рускай мове ёсць *плаксивый*, але гэтае слова размоўнае. «Говорить сквозь плач» — нельга, «говорить, плача» хоць і можна, але, як заўважыў мой знаёмы перакладчык, не трэба... А беларускія адпаведнікі, як бачылі, гучаць натуральна.

«Летящая птица» можа быць «птушка ў часе палёту», «всевозрастающий грохот» — «усё большы і большы грукат», «отдыхающие» — не толькі «тыя, што адпачываюць», але і «дачнікі», «курортнікі». А рускі сказ «Для отдыхающих созданы все условия» можна перакласці: «Для адпачынку створаны ўсе ўмовы».

З-за таго, што дзеепрыметнік у сказе нясе «галоўную службу» азначэння, то і пры перакладзе могуць падменьваць яго тыя часціны мовы, якія бываюць азначэннем (або — што радзей — удакладненнем пры дзеяслове-выказніку).

Вядома, падкрэслім яшчэ раз, гэта розныя і нераўназначныя формы, яны не замяняюць адна адну. У кожным канкрэтным выпадку выступае толькі тая адзіная, якая найбольш здольна данесці сэнс таго, што перакладаецца. Цяжка знайсці канчатковую, «бясспрэчную» форму перакладу, якая б задавальняла, падабалася выключна ўсім. Могуць быць і розныя «чытанні» тэксту. Мы б казалі банальнасць, напамінаючы пра пераклад як творчасць, як мастацтва «чуць» мовы...

У некаторых выпадках на дапамогу прыходзіць азначэнне-прыдатак.

«Говорим о вещах, стимулирующих рост растений» — «Гаворым аб рэчывах — стымулятарах росту раслін».

Ці яшчэ іншы спосаб:

«Лот — прибор, измеряющий глубину моря» — «Лот — прыбор для вымярэння глыбіні мора».

А ў выпадках, калі дзеепрыметнае словазлучэнне паказвае на сталую прымету, а сам дзеепрыметнік не мае асаблівага сэнсавага і стылістычнага значэння, гэты дзеепрыметнік можна апусціць.

Вось некалькі прыкладаў.

«Стране, имеющей такие богатства, легко развивать тяжёлую промышленность» — «Краіне з такімі багаццямі лёгка развіваць цяжкую прамысловасць».

«Девочка, сидящая на диване, вышивала платок» — «Дзяўчынка на канапе вышывала хустачку».

«Поезд, прибывающий из Москвы, остановится на пятом пути» — «Цягнік з Масквы спыніцца на пятым пуці».

«Книга, принадлежащая брату, лежала на столе» — «Братава кніга ляжала на стале».

Як бачым, беларуская мова лёгка абыходзіцца без дзеепрыметніка цяперашняга часу. Толькі патрэбны жывы, творчы падыход. І таму не трэба абкрадваць сябе, лічачы, што ўзбагачаешся.

*А. Клышка.*

***Практыкаванне 2.*** Спішы, расстаўляючы прапушчаныя знакі прыпынку. Пракаменціруй выдзеленыя арфаграмы.

**Вам пашанцавала**

Калі *ў* ваш*ым* пад’ез*дз*е на лесвічных пляцо*ў*ках пара*с*кіданы *неда*куркі, ведай*це*: тут жыв*уць* заядлыя курцы кампанейск*ія* лю*дз*і.

Уключаныя *з* вечара да раніцы на *ў*сю моц манітафоны *с*ведча*ць*: тут кват*а*руюць меламаны знаўцы моднай сучаснай музыкі, якія з рада*с*цю і зусім б*я*сплатна знаём*яць* вас *з* навінкамі эстрады. Абсалютныя альтруісты!

*Над*пісы і малюнкі на *сце*нах *не* проста гавора*ць* а крыча*ць*: тут багата майстроў слова алоўка і пэндзля.

*Раз*біт*ыя* лямпачкі паві*нн*ы выкліка*ць* настальгічн*ыя* *ў*спаміны пра маладо*сць* *сцвярджаць*, што лю*дз*і кахаю*цца*, а значыць род лю*дс*кі бу*дз*е працягва*цца*.

Акуратна вынятыя *ў* пад’ездзе шыбы сведчаць, што клапатлівыя грамадзяне дбаюць *пра* наша здароўе забяспечваючы свежым паветрам.

Мяркуючы па тым, што замкі паштовых скрынак нехта *штодня* адчыняе а выпісаныя газеты і часопісы забірае, тут жывуць разумныя інтэлігентныя людзі, якія паважаюць друкаванае слова маюць рознабаковыя інтарэсы.

Словам вам пашанцавала! Вы жывяце *ў* доме высокай культуры сярод адукаваных клапатлівых людзей.

*У. Цвяткоў.*

Выканай заданні.

1. Абазнач, якое са сцвярджэнняў пра пастаноўку ў сказе коскі няправільнае.

*Вы жывяце ў доме высокай культуры сярод адукаваных клапатлівых людзей.*

1) Ставіцца коска пасля слова *культуры*, таму што патрэбна раздзяліць аднародныя акалічнасці месца.

2) Пасля слова *адукаваных* коска не ставіцца, бо гэта неаднародныя азначэнні.

3) Пасля слова *адукаваных* коска ставіцца, бо гэта аднародныя азначэнні.

2. Абазнач, якое са сцвярджэнняў правільнае.

1) Альтруіст — той, хто ў сваёй дзейнасці кіруецца пачуццямі альтруізму: бескарысліва служыць людзям, гатовы ахвяраваць для іх асабістымі інтарэсамі.

2) Альтруіст — знаўца моднай сучаснай музыкі, які знаёміць нас з навінкамі эстрады.

3. Абазнач, якіх сінтаксічных канструкцый няма ў наступным сказе.

*Словам вам пашанцавала!*

1) Недапасаванае азначэнне.
2) Параўнальны зварот.
3) Адасобленае дапаўненне.
4) Пабочнае слова.

***Практыкаванне 3.*** Прачытай тэкст, падбяры да яго загаловак і напішы падрабязны пераказ.

Міхал перасёк круглую брукаваную плошчу і, калі наблізіўся да кіёска, убачыў каля яго хлопчыка і дзяўчынку прыкладна сваіх гадоў. Яны куплялі марожанае. Дзяўчынка была крыху падобная

на Аксану, толькі чарнявая, у сіняй сукеначцы, з белым касніком на галаве. Высокі хлопчык — у паношаным трыко, абвіслым на каленях, у стаптаных кедах на босу нагу. Ён непрыязна праз плячо зіркнуў на Міхала.

Гэта былі мясцовыя, гарадскія дзеці (па-хатняму апранутыя — значыць, жывуць непадалёку), таму Міхал і звярнуўся да іх «па-гарадскому» — па-руску:

— Скажите, как пройти к краеведческому музею?

— Вярніся назад да паштамта, завярні за вугал, — сказаў ён, — убачыш шпіль. Там твой музей. Толькі цяпер ён на рамонце.

У Міхала аж адвісла сківіца. Ва ўсе вочы ён глядзеў на хлопчыка. Гарадскія, а чыста па-беларуску размаўляюць — ніяк не ўкладвалася ў галаве...

— Табе паўтарыць? — адставіўшы руку з марожаным, бо з яго капала, спытаў хлапчук.

Дзяўчынка засмяялася:

— Яму, відаць, перакладчык патрэбен! Вернись на ту сторону, за углом увидишь шпиль — пику такую. Там музей.

Аблізваючы марожанае, яны пайшлі, як ні ў чым не бывала, па вуліцы. Нават не азірнуліся на Міхала. А таму карцела пабегчы за імі следам, пазнаёміцца, распытаць... Хто яны, дзе вучацца?

Але задумаўся: навошта? Хай і застаюцца незнаёмымі. Што ў гэтым, урэшце, дзіўнага? Раз людзі жывуць у Беларусі, значыць, і размаўляюць па-беларуску. А хіба ён, Міхал, або Чэсь у школе на ўроках не адказваюць на чыста беларускай мове? Адказваюць. І ніхто з гэтага не дзівіцца. Вось толькі на вуліцы, па-за сценамі школы: «Рэбята, зачэм драцца...», «Чэсь, хадзі сюда, раскажу адну вешч». Жахліва! Аксана менская, а і то размаўляе чысцей за іх, вясковых.

«Прыедзе Аксана, трэба будзе дамовіцца гаварыць так, як гэтыя гарадскія дзеці, — на чыстай роднай мове!» — падумаў Міхал.

*А. Федарэнка.*

***Практыкаванне 4.*** Прачытай тэкст і выканай заданні.

(1) ...Аднойчы, гуляючы па Неўскім, на адным з будынкаў я ўбачыў шыльду з надпісам «Нева». (2) Гэта была рэдакцыя папулярнага ў той час літаратурнага часопіса, які я не раз гартаў у чытальнай зале сваёй полацкай бібліятэкі. (3) Мне ніколі дагэтуль не даводзілася бываць у рэдакцыях літаратурных часопісаў і вельмі закарцела зайсці туды. (4) Але адважыўся на такі паход толькі на другі дзень, прыхапіўшы танюткі сшытак з перапісанымі ад рукі вершамі.

(5) — Если у вас стихи, вам нужно к Всеволоду Рождественскому, — сказала мне акуратная сівая бабулька ў прыёмнай.

(6) «Да Усевалада Раждзественскага!» — ахнуў я пра сябе. (7) Дома ў мяне ляжаў тоненькі зборнік вершаў з бібліятэчкі «Огонька», на вокладцы якога была выява Усевалада Раждзественскага — аднаго са слынных, як было сказана ў прадмове, паэтаў Пецярбургскай школы.

(8) Стары сівы чалавек уважліва чытаў мае радкі, потым, зняўшы акуляры, доўга праціраў іх насоўкай.

(9) — Вы сказали, что живёте в Полоцке? — звярнуўся ён да мяне. — Это же в Белоруссии?

(10) Я моўчкі кіўнуў галавой.

(11) — А Полоцка вашего, к сожалению, не видно в ваших стихах. (12) Вы, кстати, не пробовали писать на белорусском языке?

(13) — Да, конечно, — сказаў я, — но по-русски у меня лучше получается.

(14) — Это вам так кажется, молодой человек, — сказаў Усевалад Раждзественскі. (15) — Такие стихи, как у вас, можно писать и в Пензе, и в Смоленске, а вот в Полоцке, наверное, надо писать на языке того народа, который вы хорошо знаете, который с вами от рождения. (16) Попробуйте, и вы увидите, что вы заговорили не книжным, выученным языком, а естественной речью, что вы, может быть, не совсем складно, но зато верно высказываете свою душу.

(17) Гэтыя словы мэтра рускай паэзіі я пранёс да сённяшняга дня. (18) Дзякуй Богу, што тут, на берагах Нявы, мне нагадалі пра маю родную мову, якой з таго часу я не здраджваю ніколі.

*Н. Гальпяровіч.*

1. Якая агульная думка аб'ядноўвае тэксты практ. 3 і 4?

1) Мова — з'ява, якая развіваецца.

2) Мова — найважнейшы сродак зносін.

3) Беларуская мова — нацыянальная мова беларускага народа.

4) «Не пакідайце ж мовы беларускай, каб не ўмёрлі».

2. Якое значэнне мае словазлучэнне *родная мова* ў прачытаным тэксце (сказ 18)?

1) Апрацаваная, упарадкаваная і нармалізаваная форма агульнанароднай мовы.

2) Дарагая, блізкая сэрцу.

3) Мова народа (нацыі або народнасці), якая выступае ў выглядзе мясцовых гаворак.

4) Мова, якая з'яўляецца сродкам пісьмовых і вусных зносін нацыі.

3. У якім сказе тэксту выкарыстаны фразеалагізм?

1) 5;
2) 4;
3) 7;
4) 18.

4. Якія моўныя сродкі публіцыстычнага стылю адсутнічаюць у 1—4 абзацах тэксту Навума Гальпяровіча?

1) Словы грамадска-палітычнага зместу.
2) Словы з адценнямі эмацыянальнасці.
3) Словы з пераносным значэннем.
4) Словы, з дапамогай якіх перадаецца дакладная інфармацыя.

***Практыкаванне 5.*** Напішы сачыненне-разважанне (не менш за 70 слоў), у аснову паклаўшы галоўную думку, якая аб'ядноўвае тэксты практ. 3 і 4.

***Практыкаванне 6.*** Прачытай верш А. Гаруна і выканай заданні.

Чаму з маленства, з ураджэнства
Ў жыццёвы май
Не ўмеў, як маці, шанаваці
Цябе, мой край?
То ж я з тваёю ключавою
Святой вадой
Напіўся болю аб нядолі,
Бядзе людской.
То ж ты, мой хмуры, даў мне пануры
І ціхі гнеў,
А днём падчасным, так пекным, ясным,
Надзею грэў.
Твае ж курганы, лясы, паляны,
Дубкоў тых шум,
Палёў абшары, люд бедны, шары
Мне далі дум.
А дум тых многа… Не, не убога
Ты даў мне іх.
І ты ж, як маці, навучыў спяваці
Аб думах тых.
Я браў, не бачыў і не аддзячыў
Табе нічым,
Бо счараваны — цябе, ўкаханы,
Не знаў саўсім.

**Цяпер хоць знаю, дык што ж параю**
**Ад позніх скрух?**
**Ў чужой краіне паволі гіне**
**За целам — дух.**
**Вазьмі ж хоць спевы, дум перапевы**
**Лясоў тваіх.**
**З тваёі глебы, з тваёга неба**
**Узяў я іх.**

1. Да каго звяртаецца аўтар у вершы?

2. Як паэт, на думку А. Гаруна, можа выказаць удзячнасць роднай зямлі? Адкажы словамі верша.

3. Верш напісаны А. Гаруном у ссылцы. З якіх слоў чытач можа гэта зразумець?

4. Растлумач значэнне слова *перапевы*.

5. Чаму свае творы аўтар называе *перапевамі дум лясоў роднага краю*?

6. Растлумач значэнне выразу *жыццёвы май*.

7. Растлумач сэнс параўнання ў радках:

**...Не ўмеў, як маці, шанаваці**
**Цябе, мой край?**

8. Як адчувае сябе лірычны герой далёка ад радзімы? Адкажы словамі верша.

9. Растлумач сэнс выразу *гіне дух*.

10. Выпішы з тэксту 3 метафары. Растлумач мастацкі сэнс аднай з іх.

11. Выпішы з тэксту 3 эпітэты. Растлумач мастацкі сэнс аднаго з выпісаных эпітэтаў.

12. Ад наступных формаў дзеясловаў прошлага часу ўтвары неазначальную форму і пабудуй словазлучэнні з граматычным значэннем «дзеянне і прадмет»:

даў —
грэў —
бачыў —
аддзячыў —
узяў —
умеў —

13. Устанаві адпаведнасць паміж прыведзенымі ў левай калонцы прыкладамі аднародных членаў сказа і іх назвамі.

У з о р:

| | |
|---|---|
| *Чаму з маленства, з ураджэнства*<br>*Ў жыццёвы май...* → | *аднародныя дапаўненні* |
| 1. Даў мне пануры і ціхі гнеў… | аднародныя дзейнікі |
| 2. З тваёі глебы, з твайго неба<br>Узяў я іх. | аднародныя азначэнні |
| 3. Твае ж курганы, лясы, паляны,<br>Дубкоў тых шум,<br>Палёў абшары, люд бедны, шары<br>Мне далі дум. | аднародныя выказнікі |
| 4. Я браў, не бачыў і не аддзячыў<br>Табе нічым… | аднародныя акалічнасці |

14. Да прыметнікаў ***пекны***, ***ясны*** з паэтычнага радка ***...*** *А днём падчасным, так пекным, ясным, надзею грэў* самастойна падбяры і запішы 3 словы, каб утварыўся сінанімічны рад.

15. Назаві від сувязі ў прапанаваных словазлучэннях. Пасля словазлучэння напішы літару, якая адпавядае тлумачэнню.

У з о р: у жыццёвы май — Д

напіўся болю
даў мне
пануры і ціхі гнеў
аб думах тых
не убога даў
не аддзячыў табе
ад позніх скрух
паволі гіне

Д — дапасаванне;
К — кіраванне;
П — прымыканне.

16. Выпішы нумары слоў, у якіх назіраецца несупадзенне колькасці літар і гукаў.

1 — маленства
2 — ключавою
3 — хмуры
4 — падчасным
5 — твае
6 — чужой
7 — знаю
8 — вазьмі

***Практыкаванне 7.*** Прачытай тэкст і выканай заданні.

Непазбежны працэс сучаснай інтэграцыі навукі і тэхнікі, які абавязкова ўніфікуе тэрміналогію ў розных галінах чалавечай дзейнасці, як бы перакінуўся і на культурную сферу, пачаў накладваць свой адбітак на духоўныя формы чалавечай супольнасці. Мы загаварылі паміж сабой на нейкім дзіўным жаргоне: абы толькі субяседнік дазнаўся, што я маю на ўвазе, а якім чынам гэта мною перадаецца — усё роўна. Крыўдная і недарэчная абыякавасць! Так размываецца сама культура чалавека. Дастаткова зрабіць нейкі жэст, прамармытаць нешта, падміргнуць, — і вось цябе ўжо зразумелі… Дзікунства! Мы пачалі забывацца, што мова — гэта выява нашага розуму, дзякуючы якой наша мысленне набывае амаль што бачнае ўвасабленне і так перадаецца — ад асобы да асобы, з пакалення ў пакаленне. Менавіта мова сцвярджае законы чалавечай супольнасці. Яна звязвала паміж сабой сям'ю, племя, род. Мова спрыяла і спрыяе станаўленню нормаў і дзяржаўнай супольнасці, несла — і нясе! — праз вякі мудрасць нашых продкаў, захоўвае найкаштоўнейшы вопыт гісторыі чалавецтва, каб той вопыт быў павучальным для нашчадкаў.

*З. Азгур.*

1. Выпішы 3 дзеясловы або дзеяслоўныя словазлучэнні, якія характарызуюць асаблівасці *«дзіўнай»*, па азначэнні З. Азгура, мовы.

2. Выпішы з тэксту сказ, у якім гаворыцца пра ўплыў *«жаргоннай мовы»* на культуру чалавека.

3. Выпішы слова, якое найбольш эмацыянальна перадае адносіны аўтара артыкула да жаргоннай мовы.

4. У чым бачыць З. Азгур пагрозу літаратурнай мове?

5. Растлумач сэнс прыказкі: *Які розум, такая і гаворка*.

6. Вызнач, да якога стылю адносіцца тэкст.

7. Падбяры сінонім да словазлучэння *накладваць адбітак*.

***Практыкаванне 8.*** Прачытай тэкст і выканай заданні.

Шасцікласнік васьмікласніку на нагу наступіў.
Выпадкова.
У сталовай па піражкі без чаргі палез — і наступіў.
І атрымаў па карку.

Адскочыў шасцікласнік на бяспечную адлегласць і выказаўся:

— Дылда!

Засмуціўся шасцікласнік. І пра піражкі забыўся. Пайшоў са сталовай прэч з сапсаваным настроем.

У калідоры з пяцікласнікам сустрэўся. Даў яму па карку — палягчэла. Таму што калі табе далі па карку а ты не можаш іншаму даць, то ўжо ж вельмі крыўдна.

— Байбусам вырас? Га? — насупіўся пяцікласнік. І ў другі бок па калідоры патупаў.

Побач дзевяцікласнік прайшоў.

Побач з сямікласнікам прашмыгнуў.

Сустрэў хлопчыка з чацвёртага класа.

І даў яму па карку.

Па той жа самай прычыне.

Далей, як вы ўжо самі здагадваецеся, адпаведна старой прымаўцы «сіла ёсць — розуму не трэба» «вырас пад неба, а дурань, як трэба»; «да званіцы падняўся, а без розуму астаўся»; «рост чалавечы, розум авечы», па карку атрымаў трэцякласнік. І таксама не стрымаўся — другакласніку заехаў.

А другакласніку што: цярпець? Зусім непатрэбна! Шмыгнуў ён носам і пабег шукаць першакласніка. А каго ж яшчэ? Не старэйшым жа па загрыўку даваць?

Першакласніка мне больш за ўсё шкада. У яго сітуацыя бязвыхадная: не бегчы ж са школы ў дзіцячы садок задзірацца?

Першакласнік ад крыўды задуменным стаў. Дома яго тата сустрэў. Пытаецца:

— Ну што сёння атрымаў наш першакласнік?

— Ды што, — адказвае, — па карку атрымаў. А адзнак не ставілі.

*В. Суслаў.*

1. Падбяры да тэксту загаловак.

2. Вызнач тып тэксту.

3. Вызнач асноўную думку тэксту.

4. Устаў прапушчаныя знакі прыпынку.

5. Растлумач значэнні слоў:

байбус

задзірацца

Якія са значэнняў другога слова ўзнікаюць у тэксце?

6. Перакажы тэкст, абапіраючыся на прапанаваную мадэль:

Аднойчы ш(..)сціклас(..)нік вас(..)міклас(..)ніку ___________ і _______________ па карку. Але пры сабе трымаць _______________ не стаў, __________________________________ хлопчыку з чацвёртага класа, а той у сваю чаргу, — ________________________________. Таму таксама ____________________. У выніку ___________________________ ___________________________________________________________________.

7. Выкажы сваю думку па праблеме, узнятай у тэксце, запоўніўшы пропускі:

Я думаю, што праблема, закранутая аўтарам, з’яўляецца вельмі ____________________ (актуальнай, значнай, злабадзённай, вострай і інш.), паколькі _________________________________________________ _____________.

Нельга не пагадзіцца з аўтарам у тым, што ___________________ ___________________________________________, таму што, па-першае, ___________________________________________________________________; па-другое, _______________________________________________________; і, нарэшце, _______________________________________________________ ______________________________.

Такім чынам, ___________________________________________________ ____________________.

8. Абвядзі кружком нумар правільнага адказу.

У якім слове ёсць гук [т]?

1) выпадкова
2) пяцікласнік
3) адлегласць
4) адскочыў

Вызнач граматычна правільны працяг сказа: *Атрымаўшы па карку...*

1) кожнаму хочацца даць здачы другому.

2) цяжка ўтрымацца і не даць здачы.

3) кожны хоча даць здачы.

4) першакласніку няма куды ісці.

Якія словы з'яўляюцца граматычнай асновай у сказе *Першакласніка мне больш за ўсё шкада*?

1) першакласніка шкада

2) мне шкада

3) шкада

4) першакласніка мне шкада

Вызнач значэнне слова *чарга* ў сказе *У сталовай па піражкі без чаргі палез — і наступіў*.

1) Пэўны парадак, паслядоўнасць у адбыванні чаго-небудзь;

2) чыё-небудзь месца ў якой-небудзь чарговасці, права каго-небудзь дзейнічаць адпаведна чарговасці;

3) група людзей, якія чакаюць атрымання чаго-небудзь у парадку чарговасці і размяшчаюцца звычайна адзін за адным;

4) пэўная колькасць патронаў, снарадаў, выпушчаная аўтаматычнай зброяй за адзін прыём.

## Рэкамендаваная літаратура

**Асноўная:**

1. Бадзевіч, З. І. 50 асноўных правілаў беларускай пунктуацыі : дапам. для вучняў старшых кл. агульнаадукац. шк., ліцэяў, гімназій / З. І. Бадзевіч, І. М. Саматыя. — Мінск : Сучаснае слова, 2000. — С. 5—6.

2. Бадзевіч, З. І. Дыдактычны матэрыял па беларускай мове : 9-ты кл. : дапам. для настаўнікаў агульнаадукац. устаноў з беларус. і рус. мовамі навучання / З. І. Бадзевіч, І. М. Саматыя. — Мінск : НІА, 2007. — С. 18—23.

3. Верціхоўская, М. І. Беларуская мова: цікава і складана : дапам. для вучняў старшых кл. з паглыбл. вывучэннем бел. мовы / М. І. Верціхоўская, В. У. Верціхоўская. — Мінск : Нар. асвета, 2001. — 206 с.

4. Гапоненка, І. Беларуская пунктуацыя / І. Гапоненка // Роднае слова. — 2004. — № 3. — С. 70—72.

5. Гапоненка, І. Двукроп'е: з гісторыі знакаў прыпынку / І. Гапоненка // Роднае слова. — 2004. — № 6. — С. 67—68.

6. Гапоненка, І. Дужкі. Двукоссе: з гісторыі знакаў прыпынку / І. Гапоненка // Роднае слова. — 2004. — № 10. — С. 62—64.

7. Гапоненка, І. Камбінаваныя знакі прыпынку: з гісторыі станаўлення пунктуацыйных тэрмінаў / І. Гапоненка // Роднае слова. — 2004. — № 12. — С. 50—51.

8. Гапоненка, І. Кропка: з гісторыі знакаў прыпынку / І. Гапоненка // Роднае слова. — 2004. — № 4. — С. 71—72.

9. Гапоненка, І. Працяжнік. Шматкроп'е: з гісторыі знакаў прыпынку / І. Гапоненка // Роднае слова. — 2004. — № 11. — С. 67—69.

10. Каляда, А. А. Гукавое выражэнне знакаў прыпынку / А. А. Каляда // Выразнае чытанне : IV—VII кл. — Мінск : Нар. асвета, 1982. — 160 с.

11. Сіўковіч, В. М. Беларуская мова ў пытаннях і адказах : дапамож. для вучняў старшых кл. / В. М. Сіўковіч. — 3-е выд. — Мінск : УніверсалПрэс, 2006.

12. Старычонак, В. Д. Беларуская мова: ад А да Я : у дапамогу абітурыентам і школьнікам / В. Д. Старычонак. — Мінск : Выш. шк., 2000. — 367 с.

13. Старычонак, В. Д. Займальная філалогія / В. Д. Старычонак. — Мінск, 1998.

**Дадатковая:**

1. Бурак, Л. І. Сучасная беларуская мова : Сінтаксіс. Пунктуацыя : вучэб. дапам. для філал. фак. ун-таў / Л. І. Бурак. — Мінск : Універсітэцкае, 1987. — С. 3—12.

2. Чалюк, Н. М. Сінтаксіс беларускай мовы. Словазлучэнне. Просты сказ : вучэб. дапам. / Н. М. Чалюк. — Мінск : ТетраСистемс, 2004. — С. 3—10.

# Змест

